Сяргей Дзяргай

# Чатыры стыхіі

Вершы і паэмы



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1988



## ПЕСНЯ

*Вецер!*
*Вецер!*
*Ой, які шалёны сівер-вецер!*
*Вецер!..*
*Свеце!*
*Свеце!*
*Замяло цябе, мой белы свет!*
*Свеце!..*
*Хмара!*
*Хмара!*
*Нізка, асядае нізка хмара...*
*Хмара!..*
*Мара!*
*Мара!*
*Нібы напаўзае злая мара...*
*Мара!..*

*Хваля!*
*Хваля!*
*Залівае, захлынае хваля...*
*Хваля!..*

*Далей!*
*Далей!*
*Мкнецца і віхрүе хваля далей...*
*Далей!..*

*Човен!*
*Човен!*
*Супраць ветру, супраць хвалі човен...*
*Човен!..*

*Повен!*
*Повен!*
*Аж да верху човен вады повен...*
*Повен!*

*Дружа!*
*Дружа!*
*Чэрпай хвалю, чэрпай хвалю, дружна!*
*Дружна...*

*Здужай!*
*Здужай!*
*Здужай, вецер, хмару, хвалю здужай!*
*Здужай...*

*З донца!*
*З донца!*
*Чэрпай хвалю, чэрпай, дружна, з донца!*
*З донца...*

*Сонца!*
*Сонца!*
*Зноў з-за хмары гляне, блісне сонца!*
*Сонца...*

ББК84Бел7
Д 43

Укладанне і прадмова
ЯЎГЕНА МІКЛАШЭЎСКАГА

Лауреат Литературной премии имени Янки Купалы поэт Сергей Дергай (1907—1980) — человек нелегкой судьбы, один из самых глубоких, трагически-возвышенных и вместе с тем сердечно-интимных поэтов. Творчеству его свойственны глубокое чувство, лиризм и философские размышления. Многие стихотворения написаны по народным мотивам, с легким юмором и искренней усмешкой.

В книге собрано лучшее из написанного автором за годы многолетней литературной деятельности.

Д $\frac{4702120200-048}{М 302(03)-88}$ 113—88

ISBN 5-340-00113-X

# КОЖНЫ РУХ СВОЙ ЖЫЦЦЮ ПРЫСВЯЧАЮ

Імя Сяргея Дзяргая вядома далёка не ўсім, але аматары паэзіі, якім выпадкова трапіла ў рукі хоць адна кніга паэта, запомнілі яго назаўсёды.

Паэзія С. Дзяргая — паэта высокай паэтычнай культуры і эрудыцыі — валодае таемнай уласцівасцю сапраўднага мастацтва: западаць у сэрца і пакідаць у ім святло, якое не гасне, выклікаючы неадольнае жаданне вярнуцца да яе зноў. Такой цудадзейнай сілай вызначаецца паэтычная спадчына майстра — цудоўнага лірыка, паэта-філосафа, вялікага знаўцы фальклору, чараўніка роднага слова, якое высвечвае ў яго вершах усімі гранямі чалавечых пачуццяў — ад незвычайнага лірызму да ледзь улоўнай усмешкі.

Паэтычны далягляд С. Дзяргая сапраўды неабсяжны: ад вершаў, напісаных паводле народных матываў, да самых сучасных верлібраў, ад афарыстычнай мініяцюры да апавядання вершам і паэмы. Яго паэтычнае слова нясе вялікі зарад жыццялюбства, чалавечай мужнасці, любові да роднай зямлі, да Радзімы, да той багатай і невычэрпнай культуры, якую стварыў народ:

Гук слова роднага... Дык гэта ж ты і ёсць.
Пах глеба жытняга... То ж Беларусь — Айчына...

Але гэта быў не толькі выдатны паэт, але і сапраўдны грамадзянін («...я — твой сын, ад касці тваёй косць, кроў ад крыві тваёй, мая Айчына»), чалавек з вялікай літары. І чалавек незвычайна цяжкага лёсу.

«Па правую руку ішла Мужнасць, па левую, крыху адстаючы,— Страх...» — чытаем мы ў вершы «Трое ўначы», прысвечаным змаганню беларускага народа з чужынцамі (а Дзяргай, цяжка хворы, амаль прыкаваны да ложка, у час фашысцкай акупацыі быў удзельнікам падпольнага руху ў Гомелі). Мужнасць не пакідала яго ўсё жыццё. А жыццё было бязлітасным да яго ад пачатку да апошніх дзён. Тых пакут, якія выпалі на яго долю,— і фізічных, і духоўных,— хапіла б на дзесяць жыццяў. Зведаў ён і чалавечую подласць.

Ох, жыццё, жыццё!..
Як ты мяне вярэдзіла,
Шкуматала,
Трапала,
Кідала;
Якія пасткі на маім шляху ставіла!..
Кпіла,
Пасміхалася,
Салодкія хвіліны — горыччу прыпраўляла,
Раны мае соллю пасыпала...

І пасля ўсяго гэтага ў паэта «засталася ўсмешка, горкая і ласкавая ўсмешка», а разам з ёю і вера ў жыццё, інакш ці змог бы ён сказаць:

Смерці моц пад сумненне бяру,
Кожны рух свой жыццю прысвячаю.

Я ведаў яго. Бачыў гэтую ўсмешку,— хутчэй не ўсмешку, а падабенства да яе, калі паэт згадваў сваё жыццё і тое зло, якое можа зрабіць чалавек чалавеку: адзін — ад зайздрасці, другі — невядома ад чаго. І ў такія хвіліны даводзілася бачыць, як «падабенства да ўсмешкі» горка перасмыкае высакародны, спакутаваны твар з ласкавымі яснымі вачыма пад невысокім, але прыгожым ілбом.

Сяргей Сцяпанавіч Дзяргай нарадзіўся 17 верасня 1907 года ў Мінску. У 1924 годзе скончыў 1-ю Мінскую чыгуначную школу (бацька паэта працаваў на чыгунцы), потым — трохгадовыя адукацыйныя курсы. Але хвароба перапыніла яго вучобу, і далей ён займаўся самаадукацыяй, займаўся на працягу ўсяго жыцця. У сярэдзіне 30-х гадоў працаваў падчытчыкам і карэктарам у друкарні газеты «Звязда». Потым пэўны час жыў у Казахстане.

Пасля вайны быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Тры гады загадваў аддзелам паэзіі часопіса «Полымя», потым — працаваў у «Вожыку».

Упершыню імя Сяргея Дзяргая я сустрэў на старонках часопіса «Полымя» і, уражаны, не раз перачытваў вершы паэта, надрукаваныя там.

Быў 1964 год. Я доўга хадзіў па цёмным пустым калідоры, перш чым асмеліўся зайсці ў аддзел літаратуры часопіса «Вожык». Першае, што я ўбачыў, расчыніўшы дзверы, гэта — стол з шашачнай дошкай і раскіданымі на ёй чорна-белымі шашкамі. Стол стаяў у правым куце, каля акна, і за ім сядзеў чалавек з густымі, злёгку кранутымі сівізной валасамі і светла-сі-

німі вачыма на выцягнутым бледнаватым твары. Здаецца, няўлоўная ўсмешка блукала па яго губах. Ён быў у нейкай цёмнай кашулі, расшпіленай на шыі, і ў шэрым пінжаку. А за другім, літработніцкім, сталом, які стаяў у правым куце ад дзвярэй, сядзеў і загадкава ўсміхаўся малады паэт, супрацоўнік аддзела літаратуры часопіса «Вожык» Янка Сіпакоў, з якім я ўжо сустракаўся.

Мае вершы былі сустрэты прыхільна, адзін нават ухвалены да друку. А я сам, з поспехам адказаўшы на ўсе пытанні (хто, адкуль, дзе вучуся і ці даўно пішу), быў запрошаны на нядзелю ў госці.

З хваляваннем і радасцю ехаў я на кватэру паэта, на кватэру, якая мне стала роднай. І зараз цяжка сказаць, колькі разоў я быў там за шаснаццаць гадоў...

Сяргей Сцяпанавіч жыў на вуліцы Якуба Коласа, на першым паверсе. Вокны яго двухпакаёвай кватэры выходзілі на вуліцу, і пад імі ад раніцы да ночы грукаталі і звінелі трамваі, але ніякі шум яму не замінаў. Не ведаю чаму, але сваю кватэру ён любіў. І амаль усё творчае жыццё паэта было звязана з ёю. Апошнія дзесяць гадоў ён быў прыкаваны да ложка і нікуды не выходзіў. Доўга сядзець за сталом не мог і звычайна ляжаў на ложку, які стаяў ушчыльную да сцяны ў другім пакоі. Палову ложка займалі кнігі, часопісы, блакноты, тут жа была «Спідола». Побач стаяў таршэр. Дзверы ў гэты пакой былі амаль заўсёды расчынены і праз іх можна было глядзець тэлевізар, які стаяў у першым пакоі.

Звычайна, калі ў яго была Вера Пятроўна (дваюрадная сястра С. Дзяргая, якая прыходзіла тры разы ў тыдзень і гатавала абеды), дзверы адчыняла яна, і я заставаў Сяргея Сцяпанавіча заўсёды на ложку з кнігай у руках. Ён адразу адкладваў кнігу ўбок і казаў: «Ну, расказвай».

І я, як з мяха, высыпаў усе навіны, якія ў мяне былі. Калі здаралася, што я не быў у яго тыдзень ці два, расказваў і ён — пра тое, хто да яго заходзіў ці званіў яму за гэты час. А наведвалі яго і Янка Брыль, і Максім Танк, і Валянцін Тарас, і Фёдар Яфімаў, і «вожыкаўцы» Уладзімір Корбан, Павел Кавалёў, Валянцін Зуб, Міхась Пянкрат, Змітро Бяспалы, і асабліва часта Аскольд Чуркін, які проста з рэдакцыі пры-

язджаў да яго на абед (Вера Пятроўна вельмі смачна гатавала, і Сяргею Сцяпанавічу было прыемна дзяліць з кім-небудзь свае абеды). Амаль кожны дзень прыходзілі хлопцы: і пляменнікі, і непляменнікі, з якімі Сяргей Сцяпанавіч дзе-небудзь пазнаёміўся: Воўка, Валерка, Віцька, Валька, Валодзька — карцёжнікі, шашачнікі, кніжнікі і чарнакніжнікі. Сяргей Сцяпанавіч выпісваў з Масквы, з Цэнтральнай кніжнай лаўкі пісьменнікаў, усе кнігі, якія выходзілі ў цэнтральных выдавецтвах, і часам з-за іх ішла паміж наведвальнікамі сапраўдная вайна. Асабліва весела і шумна было ў Сяргея Сцяпанавіча 17 верасня, калі да яго ўсе прыходзілі з кветкамі і шампанскім — віншаваць з днём нараджэння. Прыходзілі і яго «вучні», і кіраўнікі Саюза.

Ён вельмі любіў тэатр. Не прапускаў ніводнага спектакля, які паказваўся па тэлебачанні або трансліраваўся па радыё.

— І вам хочацца глядзець адно і тое ж па некалькі разоў? — неяк спытаў я.

— Не па некалькі, а, можа, па некалькі дзесяткаў разоў, хлопча. А што ж мне рабіць? Дні доўгія, ночы бяссонныя... Калі схопіць — не сплю да раніцы. А ты, хлопча, гляджу я, не любіш тэатр.

— Люблю, але гэта не лепшая мая любоў...— адказаў я і заўважыў, як па твары Дзяргая паволі расплылася такая знаёмая лагодная ўсмешка.

— А ты ведаеш, што ўсе вялікія паэты... Пушкін, Лермантаў, Купала... любілі тэатр. Калі ты не любіш тэатра, вялікім паэтам не станеш. Так што глядзі. Пакуль не позна, пачынай хадзіць у тэатр. Дарэчы, калі ты апошні раз быў у тэатры імя Янкі Купалы?

Сяргей Сцяпанавіч мог лёгка абысціся без жыццёвых выгод, у тым ліку і без таго, што называецца ўтульнасцю. У яго пакоі не было ніякіх дарагіх рэчаў, дываноў, мэблі. У пярэднім пакоі стаялі старая кушэтка, шафа для адзення і стол. У спальні, акрамя жалезнага нікіляванага ложка, былі яшчэ кніжная шафа і кніжная паліца, а насупраць акна — невялічкі столік. І ўсюды — кнігі, кнігі, кнігі...

— Марожанага хочаш? — спытаў ён, адчыніўшы мне дзверы.— Ідзі бяры ў халадзільніку... І мне вазьмі таксама,— і пайшоў, падцягваючы хворую нагу, у свой пакой. Усмешка, якая раптам мільганула на яго губах,

падказала мне, што тут нешта не так. І сапраўды, на кухні замест ранейшага халадзільнічка «Марозка» стаяў «новы» халадзільнік, па знешнім выглядзе якога было відаць, што ён «пражыў» на свеце добры дзесятак гадоў. Я націснуў на ручку, і дзверцы адчыніліся. Узяўшы марожанае, я хацеў зачыніць дзверцы, але яны не зачыняліся. Я — так, я і гэтак... Нічога не памагае: дзверцы ўсё роўна адыходзяць...

— Ты нешта доўга зачыняў халадзільнік...— сказаў Дзяргай, калі я вярнуўся.— А дзе марожанае?

— Там... ваш халадзільнік не зачыняецца...— адказаў я.

— І ты... што, пакінуў яго адчыненым?

— А што мне заставалася рабіць?

— На першы раз я табе дарую,— адказаў Сяргей Сцяпанавіч, робячы націск на слове дарую.— Хадзі пакажу, як трэба яго зачыняць. Ён з сакрэтам...

Потым мы моўчкі елі марожанае. Сяргей Сцяпанавіч прылёг на ложак, а я задуменна стаяў каля акна.

— Ты, бачу я, нечым не задаволены? — нарэшце спытаў гаспадар.

— Ну навошта было купляць вам такую старызну? — вырвалася ў мяне.— Вы ж купілі ўжо такі тэлевізар... Варта зрабіць адзін неасцярожны рух ці не дай бог дакрануцца да антэны, як ён пачынае паказваць абы-што...

Сяргей Сцяпанавіч раптам пасур'ёзнеў:

— Ну, а як бы ты зрабіў? Людзі купілі сабе новы халадзільнік. Куды збыць стары? І ўспомнілі пра мяне. Прывезлі, паставілі і паказалі, як зачыняць. І ўсё гэта за паўцаны. А ты нечым незадаволены...

— Вам засталося яшчэ купіць толькі такі ж дыван...

— А што... і куплю! Але ж тады я вас, сабачых дзяцей, буду разуваць каля парога! І вы будзеце ў мяне хадзіць у адных ірваных шкарпэтачках!

А як ён любіў сваіх «выхаванцаў» Янку Сіпакова, Рыгора Барадуліна, Барыса Сачанку! Слова насупраць не скажы! Я ў гэтым пераконваўся неаднойчы.

Злавіўшы неяк Сяргея Сцяпанавіча на слове, што ўсходняя паэзія яго больш не цікавіць, я папрасіў у яго вершы Саадзі і Хаяма, прыгожа выдадзеныя выдавецтвам «Художественная литература».

— Хаяма я табе дам, а вось Саадзі не — паабяцаў Сіпакову.

— Калі гэта было?

Сяргей Сцяпанавіч на момант задумаўся, а потым, нібы адказваючы на свае думкі, сказаў:

— Маглі б яны, канечне, прыходзіць і часцей, але ў кожнага — клопат, сям'я, работа... Я не крыўджуся.

Я не сустракаў потым больш нікога, хто б так любіў творчую моладзь. А любоў гэта ішла ад любові да роднай літаратуры, да нашай культуры, мовы, як быццам гэта была яго асабістая справа. Ён неаднойчы з болем у сэрцы расказваў, які фокус выкінулі з ім у «Полымі», дзе ён працаваў у 1951—1953 гадах.

— Я пайшоў у адпачынак. Вяртаюся, а мне кажуць: ты ў нас ужо не працуеш... Захацелася адпаму тварцу заняць маё месца. І заняў...

— І на гэта ў «Полымі» пайшлі?

— Папрасілі прабачэння...

— А повад які-небудзь быў?

— Друкаваў слабыя вершы маладых...

Ён браў пад сваё крыло ўсіх, хто спрабаваў пісаць. Так ён прытуліў студэнтаў, вясковых хлопцаў Барадуліна, Сіпакова, Сачанку, а потым і мяне. Мяне — у вельмі цяжкую хвіліну майго жыцця.

Сяргей Дзяргай быў не толькі клапатлівым апекуном маладых талентаў, але і сапраўдным нашым настаўнікам у паэзіі. У яго ёсць чаму павучыцца, і не толькі маладым.

Першы надрукаваны верш паэта быў напісаны ў ідылічнай манеры таго часу — канца трыццатых гадоў,— але тонкіх знаўцаў паэзіі не пакінуў абыякавымі. Ён зіхацеў сапраўды свежымі рыфмамі: рубіць новую — рубіновыя, не гаснуць — калгасніц, аратымі — рады мы.

Але сапраўдная творчая біяграфія паэта пачалася з верша «Вішанька», напісанага ў 1951 годзе. Праз два гады выйшла і першая кніга вершаў і паэм Дзяргая «Вачыма будучыні».

Ён цалкам аддаецца паэзіі; піша вершы, працягвае працу над паэмай «На шашы энтузіястаў» і шмат перакладае з польскай, нямецкай і моў народаў СССР — рускай, украінскай, латышскай. Другая палова 50-х гадоў — мабыць, самая плённая і шчаслівая ў творчым жыцці паэта. Адзін верш, як звычай-

на ў такіх выпадках кажуць, лепшы за другі: «Светлае», «Вочы», «Адвячоркам», «А чые ж гэта коні...», «Родная мова», «Сапраўднае», «Хірасіма», «Ой, дзяўчо!..», вершы пра каханне, якія пазней увайшлі ў нізку «Праменне», вершы «Казка», «Мысль і слова», «Брат мой, дзень мой», «Ой, бяда салаўю, бяда!». Апошнія ўвайшлі ў зборнікі «Крэмень аб крэмень» (1958) і «Чатыры стыхіі» (1962), за які Сяргею Дзяргаю была прысуджана Літаратурная прэмія імя Янкі Купалы.

Ва ўсе свае кнігі паэт уключаў гумарыстычныя мініяцюры (карацелькі), вершы, байкі, якія двойчы выходзілі ў бібліятэчцы «Вожыка»: «Цешча» (1959) і «Салата з дзядоўніку» (1967). Але Дзяргай перш за ўсё лірык, і прырода яго таленту, які развіваўся ў стыхіі народнай мовы, перасыпанай дасціпнасцю, іроніяй і сарказмам, спрыяла яго працы ў жанры сатыры і гумару, тым больш што да гэтага яго «вымушала» пасада загадчыка аддзела часопіса «Вожык». Гэта адзначала і крытыка, у прыватнасці Рыгор Бярозкін, які адкрыў і паказаў многія асаблівасці паэтычнага таленту Дзяргая [1]. Адна з іх — яркая сцэнічнасць вершаў паэта. Гэта — або жанравыя сцэнкі («Ранішні прамень»), або эпізоды гераічнай драмы («Трое ўначы»).

Гэту асаблівасць дзяргаеўскай паэзіі я адкрыў для сябе нечакана, калі Сяргей Сцяпанавіч прачытаў мне такія радкі:

Вецер сустрэчны
Сцёбае пугай каня па вачах,
Які ідзе, хістаючыся,
Між аглобляй з папукання
І аглобляй з наракання —
На бездарожжа.

Цыкл «Праменне» склалі вершы пра каханне. Гэта вершы-мары пра каханую, пра сям'ю, якой яму так і не суджана было мець.

У цыкле «Па народных матывах» — «Казка», «Ой, бяда салаўю, бяда!», «А чые ж гэта коні...» — Сяргей Дзяргай выкарыстоўвае фальклорныя сюжэты, у якіх асабліва ярка выявілася ўменне паэта ўжыцца ў стыхію народнай мовы, да драбніц адчу-

---

[1] Бярозкін Р. Пошукі сапраўднага.— У кн.: Постаці. Мн., 1971. С. 243—275.

ваючы стылёва-фразеалагічныя асаблівасці народнай паэтыкі, якая «дае знаць» пра сябе ў кожным радку паэта.

Цыкл вершаў паэта «Белыя ночы» адкрываецца такімі радкамі:

Сляза заўсёды горкая,
А пот — салоны,
А кроў — чырвоная,
І гора — чорнае.
Ёсць, праўда, слёзы шчасця,
І ў гэтых слёзах — слодыч...
Да хіба гэта слёзы?
Кроплі бедныя
З неба яснага!

Тут сабраны верлібры — найбольш філасофскія вершы Дзяргая. Але гэта — не філасофія інтэлектуала эпохі НТР, а філасофія народа, які засвоіў асноўныя жыццёвыя ісціны шляхам пераемнасці пакаленняў, а сам паэт у гэтых вершах — «косць ад касці і кроў ад крыві свайго народа». Мабыць, не дзеля прыгожага слоўка ён аднойчы сказаў: «І гляджу я ўперад толькі праз мінулае».

Зразумець паэта заўсёды памагае яго паэзія. Ёсць у Дзяргая верш, які можа стаць эпіграфам да цудоўнай кнігі паэзіі па імю Сяргей Дзяргай. Вось першыя дзве страфы гэтага верша:

Дружа мой!
Шчыры мой!
Цяжка табе было на свеце:
Бо любіў ты болей, як цябе самога любілі.
І пакут зазнаў ты болей, як іншыя.
Душа твая расчынялася насцеж, як дзверы,
Калі ў іх хто-небудзь трывожна стукаўся.
А стукаліся часта, настойліва,
Бо хата твая не з краю стаяла —
На шырокім шляху — не абмінуць.

Дружа мой!
Шчыры мой!
Цяжка табе было на свеце:
І маланкі гневу выкрасаць,
І асвятляць праменнем усмешкі,
І цяпло кволасці, пяшчоты, спагады дарыць,—
Бо як жа без гэтага абысціся
Паэту і чалавеку?
Горыч твая салодкая была
І асалода — горкая.

*Яўген Міклашэўскі*

* * *

Над краем зоры рубіновыя
Гарэць — не гаснуць.
Калгаснік хату рубіць новую
Пад спеў калгасніц.
У добры час!

Ткачамі знатнымі, аратымі
Наш край багаты,
Жыццю, змаганню, працы рады мы
І песні рады.
У добры час!

Мы маладыя, мы упартыя,
Працуем дбала.
У камунізм вядзе нас партыя
Пад сцягам алым.
У добры час!

*1938*

## ВІШАНЬКА

Пасадзіла вішню я,
бо пара!
Вішанька не лішняя
ля двара.
Пройдзе год увішненька,
два міне —
Падрастае вішанька
у мяне.
З фермы шлях пад вішаньку
недалёк,

Зачакаўся Мішанька,
Міхалёк.
Хто такі мой Мішанька?
Трактарыст.
Ліха маё лішанька —
ганарыст!
Падыду я блізенька,
так і быць,
Гляну, ці мой Мішанька
спіць? Не спіць?
Вішня ўжо не нізенькі
чаранок.
Падрастае з вішанькай
і сынок.
Падвяжу калысаньку
дзе ў цянёк.
Хай люляе вішанька
дзіцянё...
Ліха маё лішанька —
што мялю?
Не засохла б вішанька,
дай палью!

*1951*

## ДОБРАЯ ВОСЕНЬ

Восень лісце дрэў кранае,
Пазлацаўшы іх ледзь-ледзь.
Сэрца песнямі брыняе,
Гукі іх звіняць, як медзь.

Глупства — справа, глянуць звонку,—
Ліру ў рукі — сып ды рэж,
Словы ж рынуліся звонка,
І ніяк іх не збярэш!

Але я адчуў, што дужы
Песняй славіць маладосць.
Словы я збяру, мой дружа,
Будзе песня, песня ёсць!

Пра хлапца і пра дзяўчыну,
Пра Падгайскі сельсавет,
Пра вялікую Айчыну,
Лепш якой не ведаў свет;

Пра зялёны ранак весні,
Пра зімовы бляск зары,
Пра жыццё — яму ўсе песні
Прысвячаюць песняры.

*1951*

* * *

Аднойчы, летняю спякотаю,
Я з хеўрай іншых блазнюкоў
Падаўся ў лес сваёй ахвотаю,
Без згоды й ведама бацькоў.

Былі мы рады волі, сонейку —
Збіралі ў жыце васількі,
Пасля ў густым і змрочным хвойніку
На птушак ставілі сілкі.

І раптам хмара.
Кроплі жвавыя,
Струмені. Гром загаварыў...
Так, інтарэсы нецікавыя
У навальніцу у бары.

Я плакаў горка, хоць і крочыў шчэ —
Малы, вядома, сёмы год!
І тут, ля нейкага урочышча,
Спазнаў быў першы самаход.

Вярсту праехалі... аварыя...
Стаім, а час ужо к начы,
А дождж ідзе... а я... ўжо марыў я,
Каб як з машыны уцячы.

Цяпер тых слоў няма, як некалі:
«Урочышча» ці «самаход».

Далёка мы ад іх ад'ехалі
Прасторнай трасай слаўных год.

І вось ізноў ўсё тыя ж месціны.
Дзе ж лес? Урочышча грудок?
Гляджу — не пазнаю: размешчаны
Тут новы, светлы гарадок.

Яшчэ ўпрыгожан рыштаваннямі,
Яшчэ ў будове карпусы,
Ды вечарамі, днямі, раннямі —
Гудуць, гудуць гудкоў басы.

...Зноў дождж.
Шафёр без просьбы, ветліва
Спыніў машыну. Бы з сябром
Сустрэўся я... а ён выпетліваў,
Мяне знаёмячы з «зубром».

Хто не знаёмы з гэтай маркаю!
Прыгожы выгляд, добры ход.
Адкуль той зубр? Не з заапарку ён,—
Радзіма — Мінск, аўтазавод.

Дамоў дабраўся я да ночы шчэ,
Пакінуўшы аўтазавод,
І вось згадалася: урочышча,
Дзяцінства, першы «самаход».

Усё тут ладжана нанова,
І сёння бачым працы плён —
Канкрэтнай ісціны аснова
У слаўных буднях нашых дзён.

*1951*

* * *

Вось тут сустрэліся з Купалам мы —
Вясёлых юнакоў гурма,
Прызнацца, словамі няўдалымі
Мы прывіталіся. Дарма

У расчуленні і збянтэжана
Свае збіралі пачуцці.
І толькі звонкім боем вежа нам
Зноў нагадала аб жыцці.
Быў дзень, і сквер стаяў аснежаны.
Быў дзень... быў дзень... быў дзень
і знік...
Плыў гук, канаючы за вежамі,
І я запомніў гэты міг:
У вачах яго такое ўбачыў я,
Што раз трапляецца ў вякі —
Пасяг цяпло душы дзіцячае
І поціск мужнае рукі.
Са тла, з руін Мінск здолеў вырасці
Адданай працаю людзей.
З слязою ўдзячнасці і шчырасці
Наведаў песняра музей:
Лісты, пажоўклыя ад даўнасці,
Старонкі — вынік творчых мук,
І сведкі блізкае сапраўднасці —
Яго кавенька і муштук.
Усё ў пакоях захавалі мы
Нашчадкам нашым на ўспамін.
А песні... песні лягуць палямі
У будоўлі будучых часін.

Жыццё дае нямала шанцаў нам,
Каб саснаваць спамінаў ніць.
Сустрэча: Уладыслава Францаўна?
І... не адважыўся спыніць.
Даўней я часта бачыў разам іх.
Здалося,— дзе яна, там ён.
І, схамянуўшыся, уражаны,
Дарма закрочыў наўздагон.
А гімну мужнага, суворага,
З якім ішлі да перамог,
Пад спеў якога білі ворага,—
Я доўга адкаснуць не мог.
І дзень мінуў, і вечар кануў,
І ноч... а гімн гучыць праз сны...
«Партызаны, партызаны —
Беларускія сыны...»

*1951*

* * *

Праходжу вуліцамі, плошчамі:
Мой родны Мінск... Здароў жывеш!
Праводзіць шыны след навошчаны
Да ранняга дзяцінства меж.
Іду на замчышча Нямігаю:
Гляджу сюды, гляджу туды.
У кожны кут знаёмы нігаю,
Бубню сабе: «Гады, гады...»
Тут я ў лапту гуляў, у пікара —
Спазнаў удач, спазнаў няўдач.
Сачыў паходы князя Ігара
І Яраслаўны слухаў плач.
Наш час ідзе за намі, мужнымі,
Дарэмна здань з вякоў слаты
Грыміць мячамі харалужнымі
І лісам брэша на шчыты.
Вякоў працяўшы глыб-глыбінную,
Хацеў бы я, хоць старамой,
К нашчадкам трапіўшы былінаю,
Звінець слухмянаю струной
І расказаць, жылі як дужыя
Радзімы верныя сыны,
Праўдзіва-шчырыя, дасужыя,
І як змагаліся яны.
Дзе і калі, ў якой мясцовасці,
Пры акалічнасці якой
Герой сучаснай мне аповесці
Знаходзіў славу і спакой.

*1951*

## ЛЯ ПОМНІКА

Добры, добры дзень, Купала,
Пра які ты колісь марыў.
Хмары сонца разагнала,
Разагнала сонца хмары.

Я прынёс букецік кветак,
Стужкай схоплены, ў дзве радзі,—

Тут пакінуць меў на мэце —
Але нехта апярэдзіў.

Мой букет не так прыгожы:
Побач з тым ён значна б траціў.
Не пакрыўдзішся ты, можа,—
Я аддаў яго дзіцяці,
Ад твайго імя — дзіцяці.

*1951*

## ВЯСНА

Зашугалі вятры вясновыя.
Набракаюць пупышкі дрэва.
Хутка першая грымне маёвая
Навальніца з дажджом-залевай;

Перуном загрукоча, пеннымі
Ручаямі пральецца, зайграе;
Бліскавіцамі хуткамгненнымі
Па зялёных прасторах заззяе.

І, нібы навальніцы водгулле,
Па краіне — далёка, шырока —
У смузе сіняватай воддалі
Трактароў адгукнецца рокат.

Пацякуць ручаіны да Прыпяці,
І яна ўсё адолее прагна...
Ой, багата іх трэба выпіць ёй —
Асушаецца сёлета багна!

Стэп казахскі, праменнем абпалены,
І абложныя землі Алтая
Загамоняць:
— Шмат вёснаў праспалі мы,
Ну, а гэта вясна не такая...

Будзе ўсеяна скрозь і прапалата,
Добрым часам пачне каласіцца

І парой будзе ўбрана золата
Век не сеянай тут пшаніцы.

Не дарма ж узнімаюцца смелыя
Людзі практыкі, людзі навукі.
Узяліся за працу ўмелыя,
Маладыя, ахвочыя рукі.

Першамайскай дэманстрацыі
У гэты весні, бадзёры ранак
Адгукаюцца дружна рацыі
Са стэповых далёкіх станаў.

Зашугалі вятры вясновыя.
Набракаюць пупышкі дрэва.
Хутка першая грымне маёвая
Навальніца з дажджом-залевай.

*1953*

## БЫЎ КАСТРЫЧНІК

Быў Кастрычнік. Світанне павольна
Разгаралася ў сонца славы,
Калі Ленін вітаў у Смольным
Нараджэнне Савецкай дзяржавы...

І цяпер вось з Крамлёўскай вежы
Адлічылі куранты хвіліны,
Гукі рынулі ў свет, у бязмежжа...
Трыццаць сёмая гадавіна.

Ноч мінае. Бярэцца на ранне.
Заружовелі хмараў валокны.
Вецер з клёнаў здымае убранне
І ласкава шыбае у вокны.

Думкі... Думкі... Імкнуць няспынна...
Дзе тут дбаць мне аб сне, спакоі!
Сёння месціцца ўся краіна
У маленькім маім пакоі.

Думкі... Думкі... Сыпліся далі...
Скрозь праменне і праз туманы
Уліваюць шумлівыя хвалі
Рэкі, моры і акіяны.

Задымелі курыльскія сопкі,
Тундра наледзь і снег паскідала,
Таямніцу адкрылі таропка
Запаветныя горы Урала.

Незнаёмы ніколі з тайгою,
Я адчуў яе подых таежы...
Звонкай, срэбнай сібірскай пургою
Загрымела, зайграла бязмежжа.

Вось паўдзённае сонца заззяла,
Палыснула праменнем любоўна
І патхнула гаркавым мігдалам,
І раскрылася кветка бавоўны.

Зноў пяшчотны адчуў павеў я —
Ад стэпоў,
ад пяскоў сыпучых,
Вецер шэпты даносіць дрэва
І ўсплёскі вады гаючай.

Дрэву ўсё тут лагодзіць і годзіць —
Новы парастак гоніць дрэва,
Не кранае яго і не шкодзіць
Ані бура,
ані залева.

І выростае дрэва, сталее,
Залатым наліваецца плодам,
І пунсовее плод і алее
З кожным новым і новым годам.

І праменіць у сэрцы радасць,
І працуецца з ёю бадзёра:
Болей вугалю на-гара́ дасць
У Данбасе рука шахцёра.

Сталявар сталі выплавіць болей,
Вынаходца — даб'ецца плёну,

Беларускі калгаснік у полі
Болей возьме з гектара лёну.

Кліча праца — настойліва, ўладна —
Верш ці ліст гартаванай сталі,
Мы абточваем спрытна, дакладна
І машыны і верша дэталі.

Пыл гадзін і хвілін пакрывае
Ўсё нядужае позна ці рана,
Толькі тое навекі ўтрывае,
Што Кастрычнікам збудавана.

Быў Кастрычнік. Світанне павольна
Разгаралася ў сонца славы,
Калі Ленін вітаў у Смольным
Нараджэнне Савецкай дзяржавы...

*1954*

## БУЛЬБА

Гарні бульбу, гарні з поля,
Гарні бульбу як найболей.
Бульба трэба для багацця
Кожнай хаце, кожнай хаце.

Урадзіла бульба ўдала,
Як ніколі не бывала,
Як ніколі не бывала,
А яе ўсё мала й мала.

Бульбу горнуць, бульбу вараць,
Ну і бульба! Бульбу хваляць,
Бульбу возяць, бульбу носяць,
А яе ўсё болей просяць.

Мала бульбы! Бульбы мала!
З бульбы ж мяса, з бульбы сала!
Бульбу фабрыцы, заводу!
Болей бульбы для народу!

Патрабуе бульбы повар,
Патрабуе бульбы бровар,
Патрабуе бульбы пральня,
Патрабуе і крухмальня.

Гарні бульбу хутка-шпарка,
Будзе скварка, будзе чарка,
І прысмакі, і ласункі
Для дзяўчат на пачастункі.

У руплівай гаспадыні
Поўны кублы, поўны скрыні,
А да слова і дарэчы
І цукеркі для малечы.

Не, цяпер ніхто не скажа:
— Прападзі ты, доля наша!
Глянь у хату, выйдзі ў поле:
Сонцам ззяе наша доля.

*1954*

* * *

Чалавечы розум светлы
Праз вякі вякоў нырае
У глыбінь таемных нетры;
Пазнае і вымярае,
І ніколі ў іх не кане
Без звароту і без следу.
Праз цяжар выпрабавання
Зерні праўды, зерні ведаў
На паверхню ён выносіць
Плыні часу хуткацечнай,
І глыбіні пладаносяць.
Так было і будзе вечна.
Наша шчасце, наша ўдача,
Што прайшоў па свеце Ленін,
Што ў вяках наш час адзначан
Светлым генія з'яўленнем.

*1956*

## СВЕТЛАЕ

Нарадзіўся прамень і згас,
Ранні весні дзянёк імжысты.
Наваліліся плоймай на нас,
Аблажылі наўкол фашысты.

Вось таварыш упаў... Вось другі...
Кулямёт... а няма карысці...
Не дастаць іх свінцом чаргі:
Сам бы насам ды горла грызці!

Па-над лесам гуло і раўло.
Сыпаў ельнік спалохана гліцай.
«Што ж ты?.. Дружа мой шчыры!..
Паўло?..»
А Паўло пачынаў хіліцца.

Разарваўся шалёны снарад.
Смерць? Ну што ж,—
ёй мы ўсе вінаваты!
А жыццё за каўнер ды назад:
«Стой, куды ты, хлапец віхраваты!»

Ветру свой партызанскі пароль
Кроны дрэў таямніча шапталі.
Цішыня і раз'ятраны боль
У зялёным лясным шпіталі.

Я пярэчыў жыццю як мог:
Кінь ты, светлае,— скончана, годзе;
Трэці дзень... і на целе ўжо мох,
Не раўнуючы, як на калодзе.

Супакоіцца прагну да дня,—
Гасне мысль і дранцвее цела,
Прыкрай стала твая сумятня,—
Адкасніся, жыццё,— дадзела!

Звон сякеры чуваць. То стары,
Пэўна, ладзіць труны маёй века...
«Не, жаўрук зазваніў угары,—
У самім у табе небяспека.

Пі жывіцу паветра нагбом,
Пі, мацуйся гаючым настоем!

Ну, глыні хоць разок, хоць сілком.
Горш бывае, а гэта — пустое!»

Узлаваўся я: рана з далонь,
Паглядзі у грудзей маіх нетры:
Пяты дзень, як у жылах агонь.
Дык якога тут д'ябла паветра!

«Стрэлы ў лесе... табе не чутно?
Там змагаецца друг твой, таварыш.
Дык няўжо для цябе — ўсё адно?
І няўжо з ім сустрэцца не марыш?»

Ён змагаўся шмат доўгіх гадзін,
Потым нёс мяне лесам і полем.
І цяпер я застаўся адзін
З маім смуткам апошнім і болем.

Сёмы дзень у агні я гару.
Сёмы дзень не ўтрываць мне мукі.
Адступіся, жыццё, падабру,
Покуль сам не наклаў свае рукі.

«Не, мой хлопча, яшчэ не пара.
Схамяніся, жыві, малайчына!
Ноч мінула, на небе зара
Усміхаецца, нібы дзяўчына.

Тая, помніш? Якая з табой
І цяпер, у разлуцы, разам.
З яе імем ішоў ты у бой,
З яе імем упаў ты плазам».

Так, дзяўчына... Ці ж гэта не здань?
Здань, і толькі таго, дзяўчына!
А жыццё падбухторвае: «Ўстань!
Чэзнуць здані. Жыве Айчына».

Ну й дадзеў мне твой клопат — во!
Хіба выпіць? Я выпіў да донца.
І прыемным здалося пітво
З п'яным водарам весняга сонца.

І тады я пачуў, як пчала
Загула у празрыстым паветры,

І пабачыў — зямля зноў цвіла
І гайдалася голле пад ветрам...

Сіні сон ля крыніцы прарос,
З ім гамоніць жывая крыніца,
На альшэўніку кропелькі рос —
Кропля кожная, як бліскавіца;

А ў блакіце высокіх нябёс
І ў зялёнай зямлі прасторах —
Гром грымеў... Неўнікнёны свой лёс
Сустракаў недабіты вораг.

І цяпер, прыгадаўшы пару,
Як стаяў на парозе адчаю,
Смерці моц пад сумненне бяру,
Кожны рух свой жыццю прысвячаю.

*1956*

## АПАВЯДАННЕ САЛДАТА

Іду дарогай паўз палі, лясы...
Іду, юнацтва абмінуўшы пешшу.
Прысяду адпачыць і ад расы
На сук гасцінны ранец свой павешу.

Дзесь птах крычыць, шапоча ціха дуб...
Я слухаю, схіліўшы ўважна галаў:
Эге, «удод, мой брат, аддай мой чуб»,
Ды гэта ж мой знаёмец — дзікі голуб!

Той, што удоду чуб свой на вяселле
Пазычыў і дагэтуль не спагнаў.
Легенду гэту дзед стары, ссівелы
Калісьці нам малым апавядаў.

Крыніца тут была. Была і ёсць.
(А там, ніжэй, павінна быць балотца.)
Прымай, частуй,
сягоння я твой госць!
І вось ужо вада ў маёй пілотцы —

Празрыстая, халодная як лёд.
Прыпаў бы да крыніцы і напіўся,

Ды цягам доўгіх, вельмі доўгіх год
З сваёй пілоткі піць я навучыўся.

Грыбная прэль і папараці пах.
Рыжкоў, рыжкоў! Я пхаю іх у ранец.
Аскома ад брусніцы на зубах.
Чабор, багун — чадзяць і дурнап'яняць.

Як хараша! Ішоў бы ды ішоў;
Спяваў бы ў расчуленні і галёкаў...
Вось засень дзвюх бярозак-спарышоў —
Адсюль зусім дадому недалёка.

Бяжыць дарога і мяне вядзе.
Падказвае: «Запамятаў? Направа».
Засцерагае: «Тут вось, па вадзе,—
Масток зруйнован, гэткая, брат, справа!»

Пералілася ў сцежку. Сцежына
Ідзе арэшнікам. Даспелі ўжо арэхі.
І раптам абрываецца яна.
Па той бок яра — залатыя стрэхі.

Тут маладосці дні прайшлі маёй.
Хаціна з абадранаю шалёўкай...
Тапаля са старою бараной,
Якую помню ўтульнаю буслоўкай...

Агрэст калючы, чэпкі, чорны схне —
Зусім здзічэў агрэст наш каля плоту...
Нібыта ў казцы ўсё, ў глыбокім сне —
Маўчыць нярушнае, наводзячы сумоту.

Як ціха скрозь, як вусцішна. Відаць,
І тут вайна была, а не забава.
Няма каму сустрэць, і прывітаць,
І зазірнуць у вочы мне ласкава.

Скідаю ранец на парог з пляча
Кранаю дзверы, і яны нягучна
Пяюць, рыпяць: «Ты не згубіў ключа?»
Не, не згубіў, хоць не патрэбен ключ нам.

Хіба я радасць тут забыў сваю?
Пілотку скінуў і ў руках трымаю,
Бо дзе яе пакласці мне? Стаю
І з чатырма кутамі размаўляю.

Што гэта, слёзы? Так. Але дарма
Хусцінкаю спрабую іх уцерці —
Сухія вочы, слёз на іх няма,
Не вочы — сэрца плача, плача сэрца...

Хіба пайсці куды падначаваць?..
З пятлі іржавай грымнуліся дзверы.
Хутчэй туды, дзе людзі, дзе, чуваць,
Загаманілі звонкія сякеры.

*1956*

## НА БЫЛЫМ МІНСКІМ НАПРАМКУ

На дачу прыехалі сёлета з сынам мы.
Ходзім у лес шторанак.
І ён мне:
«Вось тут, за лясамі за сінімі,
Мінскі і быў напрамак?»

Мы колісь у гэтых лясах партызанілі —
Сцежкі усе знаёмы:
Там сябра забілі...
Мяне тут паранілі...
Далей — «аэрадромы».

«Фашысты на вас тут ішлі, кажаш,
хмараю!
Я тады дзе быў, тата?»
— Ты быў, мой маленькі, вялікаю мараю,
Сённяшняй явай, святам.

Гаворыць з дзіцячаю логікай простаю —
Ёсць яна у малечы:
На сцежачцы пень «недарэчы выростае»,—
Згодзен з ім — недарэчы.

Ідзём, і малое пытае, выпытуе...
Раптам глядзіць дзіцёнак:
Праз каску іржавую,
куляй прабітую,
Буйна прарос рамонак.

Салдацкая, наша каска салдацкая,
Збоку рэмень сатлелы.
І кветка — дзівоснай разьбярскаю цацкаю —
Родны рамонак белы.

Паўжменькі зямелькі, і дождж ык, і сонейка,
Кветцы — сушыся-мокні!
Малы мой пытае: «Возьмем рамонак, а?
Кветкам жа месца — на вокнах!»

У вочы глядзіць мне з чаканнем і ласкаю.
Возьмем, кажу, вядома.
І кветкі з іржавай салдацкаю каскаю
Мы з ім нясём дадому.

*1956*

## ЦЫМЛЯНСКАЕ МОРА

Нас маці Радзіма
У стэпы склікала...
Было гэта ўчора,
Было гэта ўчора.
Тады толькі ў марах
Яшчэ існавала
Жаданае мора,
Цымлянскае мора.

Ішлі мы ад слаўнае хвалі Байкала,
Ішлі
З Беларусі,
З Урала,
З Пячоры...
Яго не было,
А яно сустракала,
Надзей нашых мора,
Цымлянскае мора.

Багата мы,
Горача мы
Працавалі —
Не будзе папрокаў,
Не будзе дакораў;

Хай гэтак твае
Папрацуюць нам хвалі,
Магутнае мора,
Цымлянскае мора.

Дзе дужасць,
Дзе мужнасць,
Дзе шчырасць — аснова,
Там радасць — у радасць
І гора — не ў гора.
І вось нарадзілася —
Жыва-здарова! —
Цудоўнае мора,
Цымлянскае мора.

Быў слесар там, помню,
Быў просты прараб там...
Такім бы, здаецца,
Не вынайсці порах!
А ты іх рабіла
Героямі раптам,
Разумнае мора,
Цымлянскае мора.

Я б мог расказаць,
Як у стэпе юнак жыў,
Быў ведамі бедны,
Багаты задзёрам...
З тваім нараджэннем
Юнак стаў інакшы,—
Жыцця майго мора,
Цымлянскае мора.

І вось пакахаў...
Быў ён хлопец «не надта»,
За што ж пакахала
Дзяўчына шафёра?
І сёння я ўпэўнен —
У тым вінавата
Ласкавае мора,
Цымлянскае мора.

Глядзеў бы ад рання
Да самае ночы
У вочы каханай —

Блакіту прастора!
Хіба гэта вочы,
Каханае вочы? —
Блакітнае мора,
Цымлянскае мора.

Сустрэнуся п рэччу
Ці з'явай любою —
Ці смутак,
Ці радасць,
Ці неба у зорах,—
Я ўсё параўноўваю
Толькі з табою,
Вялікае мора,
Цымлянскае мора.

Багата яшчэ
І знайду я
І ўтрачу,—
Мне дадзена рушыць
Каменныя горы,—
Ды толькі такога,
Як ты, не пабачу,—
Адзінае мора,
Цымлянскае мора.

*1956*

## ВОЧЫ

Глянуў раз табе я ў вочы
І здзівіўся.
Глянуў другі раз я — збочыў,
Засмуціўся.
Глянуў трэці раз:
Ды што ж гэта за вочы?
За такія і памерці я
Ахвочы!
А прымеў — здаецца б,
Вылузаўся з скуры,
Каб з іх поглядам сустрэцца,
Ды не з хмурым.
Ох, я бедны,

Нешчаслівы
Ды пакутны!
Край бы свету завялі вы,
Так магутны.
Што рабіў бы я пасля б,
Спакой згубіўшы?..
Пахуднеў бы і саслаб,
Шмат дзён не піўшы,
І не еўшы, і не спаўшы
Доўгі ночы,
Тыя вочы пакахаўшы,
Тыя вочы.
І куды б мяне нядоля
Павярнула,
Каб сама мне ў вочы болей
Не зірнула!
Так пяшчотна,
Так упарта,
Так ласкава...
Зразумеў я — тут не жарты,
Не забава.
Адурэў на той часіне я,
Няйначай.
Вочы чорныя ці сінія —
Не ўбачыў.
Як вяселле адбылі,
Тады прыкмеціў,
Вочы карыя былі...
На цэлым свеце
Прыгажэйшых не знайсці.

*1956*

## АДВЯЧОРКАМ

Адвячорак весні, зябкі.
Туманы.
Адвячоркам курчаць лапкі
Каштаны.
Пад гармонік скача хвацка
Восем пар...
Нешта некаму нянацкам —
Тыц у твар.

Што там гэткае-такое?..
Сумятня.
Штосьці хуткае, жывое...
— Жучаня!
Хто замёр, а хто шукае
— Нераструшч.
Жу-жу-жу.
— Ён уцякае...
Гэта хрушч.
Жу-жу-жу.
— Які рахманы:
Сам — да рук!
Ашалеў ці, можа, п'яны
Гэты жук!
— Хрушч, ён шкодны, далібог жа,
Знішчыць? Не?
— Шкодны! Быць таго не можа,
Дай вось мне.
З рук у рукі...
— Ой не цісні
Гэтак рук!
Ён не шкодны, а карысны...
Жук мой, жук!
Ён цудоўны, хоць і шкоднік,
Не займай!
Жу-жу-жу...
Уцёк нягоднік
Проста ў май.
Адвячорак весні, зябкі.
Туманы.
Адвячоркам курчаць лапкі
Каштаны.

*1956*

## САЛОЎКА

Вяртаемся мы з пагулянкі дахаты.
Свет гэткі чароўны і гэтак ён люб нам!
А месяц над лесам, прыкметна шчарбаты,
Здаецца на хвілю ўтаймованым бубнам.
Прыглядзься старанна — і ўбачыш выразна
Сляды, што музыка зрабіў даланёю:

Вось зараз ударыць, рассыплецца, бразне
Над гэтаю песенна-ціхай зямлёю.
Пачуццяў, жаданняў і думак багата,
Ды словы дарогай згубіў я, пахожа,
А ў справах кахання няма адвакатаў!
Хоць гэта каму і не шкодзіла б, можа.
А вечар...
                        А вечар цудоўна харошы.
Здаецца, знайшоў я патрэбнае слоўка!
Ды ткнуў салавей нечакана тры грошы
І ўсё сапсаваў, недарэчны салоўка.
Сталіся, сціхлі,
                                    нібы анямелі...
Ці слухалі гэтак калі салаўёў вы?
Вы слухалі!
                                Значыць, і вы зразумелі
У пошчаку тым запаветныя словы.
Назваў недарэчным, а выйшла інакш.
Я быў тады гэткі:
                                    што ўбіў, тое ўехаў.
Не даў бы сам рады бядзе той юначай:
«Пайшоў па арэхі — прыйшоў без арэхаў».
А ён пахадзіў ля кахання так лоўка,
Што я і не згледзеў быў тою пароју,
Як птах гэты шэранькі, кволы салоўка,
Спаліў і масты і масточкі за мною.

*1956*

## А ЧЫЕ Ж ГЭТА КОНІ...

А чые ж гэта коні
Каля хаты зайрзалі?
Ці таго ягамосця,
Што тры дзеўкі кахалі?

Ой,
      першая кахала,
Ды бялізну ўсё прала.
Ох,
      другая кахала,
Ды вячэрацьдавала.

А трэцяя кахала,
Ды пасцель белу слала,
Ды пасцель белу слала —
Ягамосця спаць клала.

— Будзь-пабудзь, мой міленькі,
Светлу ночку са мною,
Светлу ночку са мною —
Пагамонім з табою,

Будзем мы гаварыці,
Як на свеце нам жыці,
Будзем мы размаўляці,
Як дзіця гадаваці.

Ой, чые ж гэта коні
Шляхам, шляхам зайгралі?
А таго ягамосця,
Што тры дзеўкі кахалі.

*1956*

## ШЧАСЦЕ

Недарма ў гэту замець бурштыну,
Ў цьмяным золаце восеньскіх строяў
Зацвіла пад акном шыпшына
Не прызначанай ёй парою.

«Ходзіць шчасце ля гэтага дома...» —
Праказала старая кабета.
А старэнькім ад першай вядомы
Да апошняй — усе прыкметы.

Памылілася, мусіць, старая,
Па якой невядома прычыне:
Ходзіць шчасце ад края да края
Па ўсёй нашай светлай Айчыне.

*1957*

## РОДНАЯ МОВА

Гук слова роднага, з якім ад першых дзён
Мяне ў калысцы маці калыхала...
Пах хлеба жытняга...
Яму й цяпер жадзён,
Бо хлеба мне ў дзяцінстве не хапала...
І цяжка мне суцішыць і стрымаць
Пачуцці, расчуленне, хваляванне!
Цябе, Радзіма, буду апяваць,
Пакуль аж не ўздыхну я ў раз астатні.
Дождж дробны, буйны, пад якім я мок,
Зямельку, па якой хадзіў я босы,
І хаты, і над хатамі дымок,
Пахмурыя ці ясныя нябёсы,
Глыбокія, бяздонныя віры
І ручаі з празрыстаю вадзіцай,
Ссівелыя, калматыя бары,
Што жоўтаю цярушаць гліцай,
Прасцяг палёў, што шчэццю ніў прарос,
Шляхі, дзе часам гразка й пескавата,
І цела белае негаманкіх бяроз,
Ружовае ад полымя заката,—
Усё ў табе мне дужасць прыдае,
Не зганю й дробязі, усё ў табе хвалю я,
Твая бяда і радасці твае,
Твой лёс мяне трывожыць і хвалюе.
Гук слова роднага... Ды гэта ж ты і ёсць
Пах хлеба жытняга...
То ж Беларусь — Айчына,
А я — твой сын, ад косці тваёй косць,
Кроў ад крыві тваёй, мая Айчына.

*1957*

## НЕСПАКОЙНАЯ НОЧ

Неспакойная ноч... без сну.
І адкуль ты, мелодыя Грыга?
А-а! То лёд зазлаваў на вясну...
Значыць, рушыла першая крыга!

Значыць, рушыла... Зноў цішыня,
Але ў ёй — весніх струн гучанне.
Вынырадь гэтым гукам да дня
З сонных, ціхіх віроў маўчання.

Неспакойная кроў... Яна
Засціць вочы і б'ецца у скроні.
Тут вось праўда, а тут — мана;
Ці ж прайду я ля іх як староннi?

Ці ж прайду я?.. Вядома, не!
Я жывы, з пачуццём нясшэрхшым...
Але ён, гэты звер, што ўва мне,
Што рыкае, і нават — вершам,

Ён сляпы, ён не ведае мэт,
Ён драпежны, ён хіжы, ён гэткі...
Ён спрабуе пралезці ў свет
Паміж прэнтаў грудной маёй клеткі.

Вось віхляе рудым хвастом,
І такі ён рахманы, звыклы,
Вось спрабуе падцяць кіпцюром,
Узлаваўся і шчэрыць іклы...

Мне заснуць бы, заснуць бы цяпер!..
У пакоі накурана, дымна...
Так, на чым я спыніўся? Ах — звер...
Не наробіць ён часам бяды мне?

Не наробіць, бо раніцай звер...
Ён дзіцячай абернецца цацкай,—
Аксамітнай, бяскрыўднай,— павер:
Сам ты здзівішся думцы дзівацкай.

Кроплі падаюць. Звонкі капеж.
Красавік. За акном адліга.
Думкі, думкі... ніяк не збярэш...
І чаму прыгадаў я Грыга?

Неспакойная ноч без сну.
Неспакойная кроў віруе.
Лёд ірвуць. Услаўляюць вясну.
Неспакойны у гэту пару я.

*1957*

## САПРАЎДНАЕ

Сляза заўсёды горкая,
А пот —
салоны.
А кроў —
чырвоная,
І гора —
чорнае.
Ёсць, праўда, слёзы шчасця,
І ў гэтых слёзах — слодыч...
Ды хіба гэта слёзы?
Кроплі бедныя
З неба яснага!
Яшчэ ёсць пот халодны,
Пот баязліўца,
Вынік страху...
Але хіба пакрые ён кашулю
Срэбрам солі?
Ёсць кроў блакітная,
Народжаная хворым уяўленнем
Гнілых арыстакратаў...
Нічога тут не скажаш,
Не дадасі.
І «гора» ёсць — драбнюткае,
Як макавае зерне,
І гэткае няважкае,
Як белы пух таполі,
Пустое, вокамгненнае,
Як косы дождж улетку...
Ды гэта ўсё не тое,
Бо сапраўды ў жыцці:
Сляза заўсёды горкая,
А пот —
салоны,
А кроў —
чырвоная,
І гора —
чорнае.

*1957*

## СЛОВЫ

Паўзіце, словы, ад мяне:
Агідныя,
Халодныя,
Ілжывыя,
Атрутныя;
Паўзіце, слізкія,
Ліхія, як гадзюкі.
Вы не патрэбны!
Не патрэбны!
На лес сухі,
На гразкае балота
Прэч ад мяне на чэраве паўзіце:
Вы — пустата
з прэтэнзіяй на праўду.
Вы — фальш,
прыкрытая бліскучай амальгамай.
Вы — з торбы жабрака,
а мы прасіць не ўмеем.
Вы — сцерліся,
Да вас прывыклі,
Вас не прыкмячаюць.
Ператварыцеся ж у мёртвае каменне.

Прыйдзіце, словы, да мяне:
Трывалыя,
Прачулыя,
Разумныя,
Ласкавыя;
Прыйдзіце, шчырыя,
Як сэрца, трапяткія;
Вы так патрэбны!
Так патрэбны!
Для ўсіх вас праца знойдзецца і справа:
Вам — праставаць надзею ў сэрцы маці.
Вам — залюляць маленькага ў калысцы.
Вам — астудзіць пакрыўджанага мозг
успалымнёны,
Вам — у адведзінах пабыць
І пашаптаць у хворага ў галовах...
А вам належыць —
дапамагаць і спачуваць і раіць
Усім, хто пільную патрэбу ў гэтым мае.
Ператварыцеся ў жывое цела, ў кроў!

Прыйдзіце, словы:
Мужныя,
Надзейныя,
Праўдзівыя,
Важкія,
Гартаваныя;
Прыйдзіце, гнеўныя,
Як перуна удары...
Вы так патрэбны!
Так патрэбны!
Не знайце літасці,
Не ведайце спакою,
Працуйце дзень і ноч — спачыну не шукайце:
Вам — знішчыць ворага ў лагве яго патайным.
Вам — выкрыць здрадніка і пакараць належна.
Вам—жорсткасць забратаць і асудзіць зласлівасць.
Вам — баязлівасць спапяліць, нікчэмнасць, пыху.
Вам — абудзіць сумленне,
Дзе яго хоць каліва малое засталося.
А вам — разважыць, папярэдзіць, навучыць
Усіх, хто шчыраю душою вас сустрэне.
Ператварыцеся ж у полымя, ў свінец!

*1957*

## ХІРАСІМА

На каменні руін тваіх
Адбіты
На вечныя векі
Смерць і пакуты,
Хірасіма.
Попел жывы
Поўніць бязмежжа
І, не знаходзячы спакою,
Асядае ў нашых сэрцах,
Хірасіма.
Мы любім і помнім,
Мы шукаем і спадзяёмся,
Мы верым і змагаемся.
Змагаемся,
Хірасіма.

Адна хвіліна,
Хвіліна жалобнага маўчання
У памяць таго, што было,—
Гэта вельмі мала,
Хірасіма.
Вечным маўчаннем гармат,
Цішынёй вечнага міру
Ушануем памяць
Ахвяр тваіх,
Хірасіма.
Прыйдзе час:
Ўся зямля будзе ў веснім цвеце
І адродзіцца, уваскрэсне
Ціхая слава твая,
Хірасіма.

*1957*

САД

Хмаркі на захад плывуць, як караблікі.
Сад у блакіце, нібыта павапнены.
Цяжка даспелыя сокія яблыкі
Ноччу губляюць паўсонныя яблыні.
Покуль сузор'ямі восень не бразнецца
Вобземлю, рэхам аколіцы поўнячы.
Покуль дзяўчаты не сядуць за прасніцы,
Ў садзе іх хлопцы трымаюць да поўначы.
Нібы пытае аб нечым гармонік іх,
Нібы не можа расстацца з сумненнямі...
Так бы й сядзець ім да рання, да сонейка,
Каб не спаборніцтва заўтра між звеннямі.
Сонна зяхаючы,
яблык дажоўвае
Ўслед вартаўнік і праводзіць іх думкамі:
Глянь ты!
У дзеўчыны шчокі ружовеюць,
Пэўна, іх золак крануў пацалункамі...
Можа, таму і антонаўка сёлета,
Ў колер нязвычны прыбрацца ахвочая,
Замест таго, каб наліцца ёй золатам,—

Чырвань шчакі пераймае дзявочае.
Сад вартаўнік не вартуе ад злодзея,
Ў поўсць кажуха пасміхаецца ходзячы:
Яблык на дрэве за ноч пасалодзее,
Сокам нальецца дзівоснае слодычы!
Покуль сузор'ямі восень не бразнецца
Вобземлю, рэхам аколіцы поўнячы,
Покуль не сядуць дзяўчаты за прасніцы,
Ў садзе іх хлопцы трымаюць да поўначы.

*1957*

## ОЙ, ДЗЯЎЧО!..

Дзень прылёг за прысады,
Адчуваючы стому,
А дзяўчо — дайце ж рады —
Не дадому, а з дому!

«Бачу я, так і ведай,
Як ты крадзешся з хаты!..»
І сланечнік услед ёй
Паглядае зіркаты.

Колькі мараў цудоўных!
Колькі думак дзівосных!
А чырвоны дзядоўнік
Гэткі колкі і злосны:

«Ці не ў гай ты, дзяўчына,
Па грыбы адвячоркам?
От і будзе прычына
На сяле для гаворкі!»

Ветрык свішча ўслед кпліва
І наўсторч забягае...
Каля тыну крапіва
Па нагах яе джгае...

Прыдарожны алешнік
Так і сцёбае ў вочы:

«Эх, дзяўчо, не канешне б
Табе швэндаць паночы!»

Хто стаіць там, ля дуба?
Хто там назіркам кроча?
Мусіць, зноў той, нялюбы,
Перастрэць яе хоча!

А ці так, ці здалося...
Ледзь чуваць нечы голас...
Не, то ў полі калоссе —
Шэпча коласу колас.

Кроў кіпіць і віруе,
І агонь ва ўсім целе.
— Што ж, калі і згару я
На імшанай пасцелі!..

Бліснуў месяц шчарбаты,
Нібы рыбка на вудзе.
— Час, мой любы, дахаты...
Ох, і будзе ж мне, будзе!..

*1957*

## РАНІШНІ ПРАМЕНЬ

Прамень ласкава глянуў у акно.
Марыйка спіць... А мне каб не спазніцца...
На працу час... Прачнецца ўсё адно...
Ступіў неасцярожна... Памасніца

Трывожна рыпнула. Ну так і ёсць —
Прачнулася... Які ж я клышаногі!..
А можа, спіць?.. На твары сон і млосць,
Такі спакойны выгляд, нават строгі.

Стаяць бы і глядзець на любы твар
У расчуленні і замілаванні...
Ах, радыё, ну што за шум і гвар!
Няможна ж гэтак голасна уранні!

Прамень спяшаецца — хутчэй, хутчэй.
На крэсла скочыў: вось тваё убранне!
Ну й моладзь, не хапае ёй начэй!
Заўсёды гэта прагнае жаданне.

Ваду са збана наліваю ў таз.
Прамень вясёлкай каляровай грае.
Я слухаю паведамленні ТАСС
І мыюся, а ён на дно нырае.

Дзе ж грабянец мой? Ну, цяпер канец!
Спазняюся! Ах, гэта мне валоссе!
Прамень — пад ложак: вось ён, грабянец!
Самому б век знайсці не давялося.

Губляю ўсё. І гэтак кожны дзень.
Стыло, муштук... хавацца так і ўвыклі.
Зайцоў усюды разаслаў прамень
На пошукі за рэчамі, што зніклі.

Хутчэй, хутчэй... Апошні вольны рух —
Гімнастыка — адна з нядрэнных звычак.
Між тым наш добры электрычны дух
Прымусіў злосна пырскацца імбрычак.

Марыйцы б слова кінуць... Грэх чапаць...
Як хораша ўсміхаецца спрасоння...
Ёй можна сёння лішніцу паспаць,—
Такі ў яе дзянёк ужо сягоння.

Прамень па твары крадзецца яе,
На векі саслізнуў, і мне здаецца —
Не спіць яна, а толькі удае,
Што спіць... і сапраўды — смяецца.

— Марыйка, спіш?
— Так, сплю, пакінь мяне.
Дай сон дасніць. Прачнуся неўзабаве.
— Хіба наяве горай, як у сне?
— Ты ў сне заўсёды лепшы, як наяве.
Кашульку прасаваную надзень.
Дай гальштук завяжу.
Не той, стракаты!
То развітацца заклік хітраваты

Перад «даўгой» разлукаю — на дзень.
Прамень ля рук: бяры ўжо свой амлет!..
Цяпер зусім не час для мілавання.
Я ледзь не завінуў яго ў пакет,
Куды увішна завінаў сняданне.

Прамень жыве ў Марыйчыных руках —
Дрыжыць фіялкавы і чырванню ірдзее;
Пасля замітусіўся па кутках,
І вось мяне за дзверы ўжо вядзе ён.

За тое, што вяшчуеш светлы дзень,
Што не забыўся пра маё аконца,
За ўсё я дзякую табе, прамень,
Прамень мой ранішні, асколак сонца.

*1957*

## СЯБРЫ

Сябры зайшлі па памяці старой,
Праведаць хочуць нас — мяне і жонку.
Гадзінай шарай, шараю парой
Сядзім, спяваем і вядзём гамонку.

Не, сталасці не надышла чарга,
Хаця ад халасцёжы адышлі мы.
Гасцей сваіх займаем як мага,
Што ж да канфліктаў,
дык яны магчымы.

Вось анекдотаў развязаўся мех,
Вось выбухае афарызм, як бомба;
Экспромт чарговы выклікае смех
Не вастрынёй,
і аўтарскім апломбам.

Яшчэ ўсяго спытаюць на вяку,
А покуль што жывуць зухава, смела,
Як вераб'і ў суседскім вішняку,
Дзе вішанне салодкае даспела.

Дарогу маладосці караблю!
Плывуць — у філасофію, мастацтва...
Я ўсіх іх паважаю і люблю,
Але...
хутчэй бы нам адным з табой застацца.

*1957*

* * *

Ласкава мне у вочы зазірні,—
Так толькі ты глядзець умееш светла,
Так толькі ты ўсміхацца можаш ветла...
Да сэрца трапяткога прыгарні.

Каханне наша ёсць вялікі дар,
Шчаслівым лёсам нам падараваны,
Нам суджаны і нам наканаваны.
Глядзець усім мы можам смела ў твар.

Ні зайздрасці не выклічам людской,
Ані пагарды чорнай, ані ўсмешкі,
Бо мы з табой не спарышы-арэшкі,
Што туляцца ад вока пад луской.

*1957*

## ЧАКАННЕ

Яе няма. Чаму ж яе няма?
Мінула шостая і сёмая гадзіна...
Я ведаю: хвалююся дарма.
Спазнілася? Напэўна, ёсць прычына!

Марудзіць час. Прамень, ляны, як кот,
На дыване туркменскім іржавее —
Разлёгся адпачыць пасля турбот,
Замёр зусім... Ды не, яшчэ жыве ён.

Ледзь кратаецца, ледзьве-ледзь паўзе,
Як поўзаюць апошнія праменні;
Вось ён узняўся па маёй назе
І раптам лёгка скочыў на калені.

— Яе няма?
— Няма, табе кажу!..
Больш дзвюх гадзін чакаю ўжо званка я...
Я строс з кален праменную іржу,
І ён, відаць, пакрыўджаны, знікае.

Ды вось ізноў за мной — з кута ды ў кут.
Прычына... гэта так, але ж якая?
А тая самая — прычына ўсіх пакут...
Ва ўсе вякі...
Чакаю, зноў чакаю...

Нібыта дзверы рыпнулі?
Спадман.
Здаецца, цень якісь мільгнуў ля вокнаў!..
Я зноў прамень страсаю на дыван,
Бягу... Нікога... Горка і самотна.

Забыўся: кветкі ж трэба — у збанок!
Вады наліць... Заняцца трэба справай...
Нарэшце: срэбны, любы мой званок!
— Чаму спазнілася? Якая ж ты, ей-права!
Чакаў цябе, чакаў... Ну дзе ты, дзе была?
Глядзі — завялі ад чакання кветкі...

— А я табе вось світар здабыла,
Пальчаткі, шалік, цёплыя шкарпэткі...
Без меркі куплены, спрабуй, надзень...

Шкарпэткі... Так... калі глядзець цвяроза...
Прамень зліняў і раптам знік прамень.
Бывай, паэзія! Дабрыдзень, проза.

*1957*

## ВОСЕНЬ

Мінаючы зялёную ялінку,
Апёкшы клёна кволую далонь,
З сука на сук, з галінкі на галінку
Перасмыкае восеньскі агонь.

Ужо тарчаць аленнімі рагамі
Аголеныя вераснем сукі,
Каля ракі чуваць над берагамі
Сухі, трывожны шолах асакі.

Сягоння дзень быў зябкі,
                    непагодны —
На́ плашчык мой, захутайся ямчэй...
Заўжды баюся я вачэй халодных
І вераснёвых здрадлівых начэй...

Апошні час мне холадна, Марыя.
Хай верасень у гэтым вінават.
Зрабіўся нейкі кволы без пары я,
Не разумею,
          разумею шмат...

Маўчыш... нібы ля попелу сівога,
Прадзьмутага вятрамі навылёт,
Ты спадзяешся абагрэць, нябога,
Сваю руку, халодную як лёд.

Мінаючы зялёную ялінку,
Апёкшы клёна кволую далонь,
З сука на сук, з галінкі на галінку
Перасмыкае восеньскі агонь.

*1957*

## БУРА

Блакіт наўкол. Такі прыгожы дзень!
Усё ў праменні сонечным ільсніцца.
Адкуль жа раптам чорнай хмары цень?
І перуна удар і бліскавіца?

Няпраўда. Загадзя і спакваля
Усё з табой было падрыхтавана.
Умець ілгаць — майстэрства. Што ж, хвала.
Майстэрства як майстэрства — не загана.

Як я хацеў, як праг я захаваць
Святло вачэй тваіх, душы цяпельца...
Але, відаць, не можа ўратаваць
Саломінка ў віры жыцця тапельца.

Шукаў я вуснаў — і знаходзіў лёд.
Абняць хацеў — і абдымаў я камень.
Усмешка праціпала навылёт.
Дык дзе ж яно, і ці было, каханне?

Трывала гэта бура толькі міг,
А ўсё вакол спустошана дарэшты.
Аскепкі засталіся, але й іх,
Відаць, як смецце, згробшы, падбярэш ты.

*1957*

## НА РОСТАНІ

А вось ён і камень знаёмы на ростанях —
Немы, ляжыць вякамі.
Крыху пастаім? Развітацца не проста нам...
Чуеш — гаворыць камень!

Аб чым ён? Сустрэцца ж вось тут давялося нам
Восенню залатою,
Крамянаю і віхраватаю восенню,
Восенню забытою.

Туман на палях, нібы шалік твой з вэлюму —
Шэры, як дым, курыцца.
Віна?.. Што ж, віну хіба напал падзелім мы...
Радасць дзялілі ж бынцам!

Адкуль жа сляза, што расстання гадзінаю,
Бачу, блішчыць на твары?

Яна, нібы кропля — скупая, адзіная
З доўгачаканай хмары.

Маўчыш, и сама, як струна напятая.
Цяжка і мне, вядома.
Ты познішся, мусіць. Цягнік жа — и пятае?
Вернемся лепш дадому!

*1957*

## ПРАБАЧ

Прабач, мая каханая, прабач...
За слоў сумбур, бо іх ні ўзяць, ні ўцяць іх,
За першы, гэтакі нязвычны, плач
Яшчэ пакуль нязнанага дзіцяці.

Прабач мяне, латругу, гультая.
Я буду лепшы, дужы і упарты.
Прабач за ўсё, ў чым вінаваты я,
Я абяцаю: буду цябе варты.

Я ведаю — ён прыйдзе, не міне,
Зноў кіпцюром маёй кранецца раны.
Звер люты рэўнасці, што гнездзіцца ўва мне,
Адно тваёй усмешцы паслухмяны.

Я не такі, якім павінен быць,
І, можа, ў прымхах розных закажанеў,
І часам мне бывае цяжка піць
Пітво тваіх цвярозых разважанняў.

Ты свой папрок мне кідаеш як жарт,
А горыч праўды сцверджана вачыма,
І калі знаць, што ты папрокаў варт,
Аб ёй, аб праўдзе, думаць немагчыма.

Ля сэрца мне твайго спачыць дазволь,
Дапамажы на ўсё як ёсць забыцца:
На смутак мой, на горыч і на боль,
Калі ў душы тваёй кахання ёсць крупіца.

*1957*

## СІНЯЯ БЕЗДАНЬ

Гляджу я ў бездань сінюю начы,
Раздзёртую ламанай бліскавіцай...
Якія тут патрэбны тлумачы?
Я авалодаў сёння таямніцай.

Ты ля мяне... і ў гэтым сэнс жыцця.
Ты ля мяне... і мудры я, павер мне:
Не высею на вецер забыцця
Дум запаветных, мыслі сваёй зерне.

Ты ля мяне — я ўсё магу як ёсць...
Ты ля мяне — я малады і дужы.
Цвіце, не адцвітае маладосць,
Красуе, не зважаючы на сцюжы.

І ты, адным-адзіная мая,
Кахаеш гэтак жа — без роздуму, вагання,
Як шчыра сам цябе кахаю я.
І то не прывід, а само каханне.

Дайшлі з табой да радасці вянца.
Згубіць адно аднога — небяспечна.
Як персцень без пачатку і канца,
Так мы — адно, суцэльнае, навечна.

*1957*

## ВЯЧЭРНІ ПРАМЕНЬ

Правал акна.
                    За ім — крамяны вечар,
Купчасты сад, прамень блакітна-кволы.
І цішыня,—
                    галінка не трапеча.
Струменіць тонкі водар мацыёлы.

Часамі яблык падае даспелы,
За ім — другі і трэці наўздагонку.
Сягоння сад, пад месяцам ссівелы,
Не распачаў звычайную гамонку.

Гасі святло.
Стань побач, дарагая.
Яшчэ бліжэй! Вось так! Дай абніму я!
Табе здаецца, месяц нам міргае?
Не бойся, ён прывык — не ашальмуе!

Прамень блакітны мой, прамень вячэрні,
Якому ўсё вядома да драбніцы,
І немы сад, што стыгне ў срэбры й чэрні,—
Не выдадуць нікому таямніцы.

Ды і ці ёсць яна? А вечар тлее,
Ужо датлеў. Ноч на зямлю ступіла,
На сад упала, крадзецца ў алеі —
Блакіт і срэбра цемрай пагасіла.

Прымкні акно. У небыт кануў вечар...
Кладземся спаць, бо заўтра — на заняткі...
Але глядзі, чаму не спіць малеча?
Чаму з калыскі цягне ручаняткі?

Чаму не спіць? Ды зноў прамень блакітны
Вярнуўся даказаць малому казкі
І песні даспяваць. Які ён спрытны,
Як ведае дакладна абавязкі

Старое няньки. Што ж, прамень — падзяка!
Але дай спаць сынку, зрабі нам ласку!
А заўтра зноў прыходзь сюды, бадзяка,
Каб песню даспяваць і скончыць казку.

*1957*

## РОЗДУМ

Прамень вясёлы, залаты,
А ці ў смузе ліловай раніца...
«Як добра жыць...» — сказала ты,
Мая сяброўка і абранніца.

Так, не асвяне пачуццё
З апошняй, весняй бэзу зорачкай,

Любіць нам дадзена жыццё,
Што далей — болей шчыра, горача.

Жыццёвым шляхам ідучы
І локаць друга адчуваючы,
Ні светлым днём, ані ўначы
Не згубім мэты ў блізкай далечы.

Пасля ж, калі мы ўсё мінём,
Упэўнімся, пераканаемся,—
Прыпынім крок, назад зірнём
І з ціхім смуткам — развітаемся.

*1957*

## СПАКОЙ

Поўніць радасць маю істоту,
Калі я, адчуваючы стому,
Паканаўшы сваю работу,
Мірным крокам іду дадому.

Ці мне добрага зычаць рання,
Ці жадаюць мне добрай ночы —
Шчыра веру я ў моц пажадання,
Ў добры час і у добрыя вочы.

І я пэвен: не прыйдзе, як злыдзень,
І не будзе цяжкім, недарэчным
«Вечар добры» або «дабрыдзень»,
Пажаданы мне шчыра сустрэчным.

Бо для дрэннага і для злога
Не знайсці ў нас сягоння глебы,
Бо жадаць мне чаго благога
Мой таварыш не мае патрэбы.

Ззяе сонца праменнем красным...
Цепляць зорак дрыготных свечы...
Так займаецца дзень мой ясны,
Так прыходзіць мой ціхі вечар.

*1957*

## КАЗКА

Ляці, крумкач!
Там дзесьці
Дні вечнасць перагортвае.
Не шкодзіла б прынесці
Вады жывой і мёртвае.
Я ж пасяджу, падумаю,
Куды падзець бяду маю?
Дарма свой век убіў я,
Нічога не зрабіў я.
Мне б жывой вады,
Я б зрабіў тады...
Пэўна...

Імчыся, шэры воўча!
Ляці стралой напеўнаю.
Праз ночы патарочча
Вяртайся з каралеўнаю.
Я ж пасяджу, падумаю,
Куды падзець бяду маю?
Паплачу, паўздыхаю,
Бо дзеўчыну кахаю...
А яна мяне?
Эт, вядома, не.
Дзе там!

Шчупак!
За плынню сіняй
На мора, гэй, туманнае,
Пярсцёнак прынясі мне
І ключ, на дне схаваныя,
Я ж пасяджу, падумаю,
Куды падзець бяду маю?
Спяваць бы навучыцца,
Са шчасцем заручыцца,
Свет бы ўвесь, як дом,
Адамкнуць ключом...
Свеце!

Спяшайце, калі ласка!
Жыццё ж, як казка, баецца.
Ды скончылася казка —
Дзесь зікла, не вяртаецца.

А я сяджу і думаю,
Куды падзець бяду маю?
Хіба за працу брацца?
Яна ўратуе, праца!
А тады мяне
І бяда міне.
Праца!

*1957*

## ПА МАКОТРА

— Добрай раніцы у хату!
— Добрай раніцы і вам!
— Прывітанне свацці, свату!
— Дык сядай, сядай, Адам!
— Не, не час. Казала Мотра,
Каб пазычылі макотра:
З салам, бачыш, блін без смаку,
Трэба, кажа, цукру, маку...
Вось ад раніцы, як лотра,
І блукаю за макотрам...
Абышоў усё сяло,
Каб яго і не было!
— Як, сяла?
— Ды што ты, Пётра!
Не сяла, кажу, макотра!
— А-а! Хіба! Дык што ж, Адаме,
Сядзь, пабудзь хвілінку з намі,
Пасядзім, паразважаем
І макотра пашукаем.
— Каб адно макотра... мала...
Хрэну баба зажадала...
А у нас на агародзе
Не вядзецца хрэн, дый годзе...
А без хрэну хіба свята!
Хрэн павінен быць да мая...
Дык яна: ідзі да свата...
— Хрэну, браце мой, не маю.
Сядзь тым часам.
— Хіба з краю
Пасяджу ды пачакаю...

— Вып'ем!
— Што ты кажаш, Пётра!
А макотра? Як макотра?
— Чорт яго, таго макотра...
— А што скажа жонка Мотра?
— Ат, ужо такой бяды!
Трэба ж нам сяды-тады...
— Будзь здароў!
— Здароў жыві!
— От пайшло, брат, па крыві!
— Будзь здароў!
— А будзь здароў!
— Вып'ем...
— Зноў?
— А што ж, і зноў...
— Не пайду шукаць я хрэну,
Можа, дзе ў каго сустрэну...
Непрыкметна з-за гамонкі
Ранне дзень змяняе звонкі,
Надыходзіць вечар ціха.
Зазлавалася Пятрыха.
— Вып'ем, брат, каб і не пахла...
— Ёй макотра, каб ты спрахла...
— Хто? Макотра?
— Што ты,— лотра,
Не макотра, кажу, Мотра!..
Ды і як тут разабраць,
Дзе тут Мотра,
Дзе тут Пётра,
Дзе тут лотра,
Дзе макотра...
Спаць.

*1957*

## СВЯТА

Ад ружовага світання
Да барвовага закату
Без упынку, без адхлання
Госці — грук ды грук у хату.

Новы год, а значыць — свята.
Дзверы весела рыпяць.
Госць — прыбытак, а не ўтрата.
«Спяць? Не можа быць — не спяць».

Па дарозе граюць коні.
Да вачэй ускінь далоні:
Гэта едзе зяць з дачкой,
Ды з унучкай — вось тачкой!
Ды з унукам — вось тачкім!..
Двух і ёсць іх у дачкі.

Па асфальце мкне машына,
Прывітай, старая, сына
З добраю нявесткаю,
З неблагою весткаю:
Неўзабаве, ў блізкі час,
Падаюцца у калгас,
Ды з усёй сваёй сям'ёй,
Покуль што яшчэ малой.
Ну й вазок!.. як і звычайна —
Пад павець, а коні ў стайню,
А машыну — у гараж.
Ды за стол, за стол пара ж!
— Гэта, сваце, з дзівасілам,
Хто хварэе сэрцам...
Як рукой здымае — сіла!
Ну, а гэта — з перцам.
З перцам, брат, ад жывата.
Вып'еш чарку — любата!
Ды і перац наш такі,
Не абы-які — стручкі!
— Дык налі з тэй, дзе стручкі.
Калі з лёгкае рукі.
— Ну, а мне — без перцу,
Ад шчырага сэрца.

Будзь здароў, ды будзь здароў...
Вып'ем за гаспадароў:
Каб жылося,
Каб вялося,
Каб пладзілася,
А з бутэлькі
Каб лілося —
Не цадзілася.

— Дзе ж Міколка-трактарыст?
— Не відаць.
— Дзе Міколка-гарманіст?
— Не чуваць.
Ні, табе, ён снедае,—
Ні, табе, абедае,—
Ні, табе, віна таго...
жахаецца.
Ад самой ад раніцы
Ля сваёй абранніцы,
Ля сваёй Марыйкі завіхаецца.
...Ах, каб вас стапталі качкі,
Рассмяшылі... А блінцы?
Паспрабуйце ж верашчачкі!
— Цётачка,— аддаў канцы!..
— Знаць адразу — хлопец флоцкі...

— Ну, а клёцкі? Як жа клёцкі —
З тлустым, жоўтым малачком?
— Развважаеш па-жаноцкі:
Не ідуць да чаркі клёцкі,
Не прымусіць і дручком.

А Марыйка — сонейка
Ў дзень пагодны,
Размаўляе сёнейка
Так лагодна.
Пазглядае добранька,
Цішком.
Падбягае дробненька,
Бяжком.
Пройдзе ля Міколкі —
Яму
Кіне погляд колкі...
Чаму?
Сыдуцца ж часінай —
«Пазяхае».
Ды, відаць, дзяўчына
Кахае.

— А у нас, брат, вінаграды —
Па пуду, не меней, гронка:
Не дамо ніяк ім рады,
Вось не дасць зманіць мне жонка.

— Ну і ўмее ён маніць!
Як наняты маніць!
— Так яно й павінна быць:
Дзе ж сваё хто зганіць?
— Ох, і спрытна загінае.
Пуд? Развёў хлусню!
— Можа й пуд, бо не бывае
Дыму без агню!

— А у нас, брат, коні-коні —
Вецер ды агонь!
Рэактыўны рух абгоніць
Кожны гэткі конь.
— Ох, і ўмее ён маніць!
Як наняты маніць!
— Так яно й павінна быць:
Хто ж сваё дзе ганіць?
— Спрытна дзядзька загінае.
Волю даў каню...
— Можа й так, бо не бывае
Дыму без агню.

Вечар, гэй, там,— увамкні
Міжкалгаснай ГЭС агні.

Змоўклі дзверы, ледзь рыпяць,
Спачываюць, хочуць спаць.

А ля весніц — песні,
Бубна звон.
Ну які ж у весніц
Будзе сон?
Хлопцы ды дзяўчаты,
Смех ды грай.
Спрэчак — непачаты
Бераг-край.

— Я чакаў, ды годзе...
Ну, а ты?
Значыць, не прыходзіць
У сваты?
— Ну адкуль мне тое...
Ведаць-знаць?
Гэта ж не пустое —
Пакахаць!

Каля весніц
Змоўклі песні,
Бубна звон.
Толькі шэпт...
Які ж у весніц
Будзе сон?

Ну й народ, ну й народ,
Мălады, упарты.
Хлопец — мостам і уброд...
З гэтакім не жарты.

Познім часам? Раннім часам?
Дзе там разабраць!
Дробна стукнула абцасам —
Ціха... Спяць...
Ці то ў злосці,
Ці то ў млосці
Дзверы рыпнулі спрасоння:
«Хто там ходзіць, ягамосці,
Ці не хопіць вам сягоння?»
Позні час?
Ранні час?
Дробна стукае абцас.
І не свецяць ані-ні
Міжкалгаснай ГЭС агні.

— Хто там глянуў праз фіранку?
Гэта месяца прамень.
— Хто там ходзіць каля ганку?
Дзень, відаць, здаецца,— дзень.

— Хто яшчэ? З якой прычыны?
Гэта мары... да дзяўчыны.
— А-а! Праходзьце, ды хутчэй —
Не хапае вам начэй.
Гэта ж проста сарамоцце...
Ну, хутчэй, хутчэй праходзьце.

— Што яшчэ за тупат-топат,
Гэта ты, штодзённы клопат?
Гэта ён. Гэта ён.
Дзверы моўчкі пазяхаюць,
Дзверы госця прапускаюць.
Ну і сон! Дзе там сон!

*1957*

## МЫСЛЬ І СЛОВА

Мысль изреченная есть ложь.
*Ф. Цютчаў*

Як крэмень аб крэмень
Ударыш, бывае —
З ударам народзіцца
Іскра жывая.
Калі не пагасне,
Калі ацалее,
Яна яшчэ доўга
Змагаецца, тлее —
То гіне і чэзне,
То цьмяна мігае
І ўрэшце
Вялікім агнём зашугае.
Так мысль:
Нарадзіўшыся ў нас нечакана,
Жыве, ў патаемнай
Глыбі захавана.
Па мозгу
Глухіх лабірынтах блукае,
Ірвецца і б'ецца,
І выйсця шукае,
Пакуль,
узмужнеўшы,
Даспеўшы ў тых сховах,—
Яна ператорыцца
Ў звонкае слова.
І з'явіцца свету
У велічным ззянні,
Прайшоўшы спакусы
І выпрабаванні...

. . . . . . . . . . .

Не, слова, што ў муках
Народжана мною,
Павінна быць праўдаю,
А не манною.

*1958*

## А ЧАМУ І НЕ?

Адкажы ты мне,
Адкажы ты мне!

Хіба ты ўсе сцежкі
выхадзіш?
Хіба ўсім дагодзіш,
выгадзіш?
Хіба ты ўсе тайны
вызнаеш?
Хіба ты ўсе думкі
выснуеш?
Хіба ты ўсе дзівы
выглядзіш?
Хіба ўсе маршчыны
выгладзіш?
Хіба ты ўсе слёзы
выплачаш?
Хіба ты ўсе крыўды
выбачыш?
Хіба сэрца сваё
выдарыш?
Хіба зло з карэннем
выдзярэш?

Адкажы ты мне,
Адкажы ты мне!

А чаму б і не?
А чаму б і не?

Калі ўсюды твары
ветлыя,
Калі нават цені
светлыя,
Калі любіцца,
кахаецца,
Калі сэрца
не вагаецца,
Калі лёс, як воўк,
не крадзецца,
Калі сябар з сябрам
радзяцца,

Калі зорка ўжо
засвечана,
Калі дужасць-моц
засведчана,
Калі лёгка,
не бядуецца,
Калі новы свет
будуецца —
А чаму б і не?
А чаму б і не?

*1958*

## СМУТНЫ ВЕЧАР

Смутна ўвечар, смутна ўранне —
Цяжкі камень на душы.
Дзе ж ты, дзе, маё каханне,—
Адгукніся, напішы.

Ты паехаў, а я плачу,
А прасіла ж: ой, вазьмі!
Свету белага не бачу,
Ой, не бачу за слязьмі.

Бель чарэмхі ўвесну-красну,
А ці ўзімку белы снег —
Як свяча, я чэзну, гасну
Нашым ворагам на смех.

Смутна ўвечар, смутна ўранне —
Цяжкі камень на душы.
Дзе ж ты, дзе, маё каханне,—
Адгукніся, напішы.

*1958*

## РАЗЫГРАЛАСЯ Ў МОРЫ НЕПАГОДА

Разыгралася
ў моры непагода.
Ой, бяда, бяда,
ой, ліха
ды шкода!
Хваля — да нябёс,
з чорнай хмарай роўна,
Ой, вывернула
дзяўчыначку
з чоўна.
А блізка мора
жылі чарнаморцы —
Ясны сакалы,
добрыя малойцы.
Ой першы кажа:
«Браткі, мора грае,
Вецер дзьме ды дзьме —
моцы набірае!»
Ой другі кажа:
«Дзеўка патапае,
А ўжо й не чуваць —
вадой захліпае!»
А трэці кажа:
«Браце мой ды браце,—
Голас падала —
ходзьма ратаваці.
Дзяўчыначка дасць
дарагую плату,
Падарунак дасць
кожнаму багаты:
Як першаму дасць —
злота-жукавінку,
І другому дасць —
белую хусцінку,
А трэцяму — уся,
сама маладая.
Ходзьма ж ратаваць —
шчасце патапае!»

*1958*

## А ХТО ЯГО ВЕДАЕ...

У дзяўчыны паклоннікаў
выбар багаты —
Расцудоўныя хлопцы,
няма што казаць!
Ну, а гэты...
мізэрны, відаць, дурнаваты —
Ні самой паглядзець,
ні людзям паказаць,
Як індык фанабэрысты ён
і з фасонам...
Не ляжыць да яго, пэўна, сэрца яе.
Але ж бацька хлапца
не малая персона.
І дзяўчына
надзею хлапцу падае.
Ну, и як жа на свеце пражыць
без здагадак?
Не шкада:
падміргну на ўсялякі выпадак.
А хто яго ведае,
хто яго знае,
Дзе знойдзеш, дзе згубіш —
усяк жа бывае.
Да рэдактара нехта
прыносіць артыкул.
Прачытаў: — Вельмі добра!
І няўцям пра каго.
А пасля спахапіўся:
— Ды тут пра Бурдыку!
Пра начальства раённае...
— Так, пра яго.
Зарыпела пяро:
«Тут у вас не выходзіць...»
«Тут вам трэба падумаць...»
«Тут крыху змякчыць...»
«Тут вось «птушку» паставім,
разважыць
не шкодзіць...»
— Так, бывайце, чакайце,
няхай паляжыць.
Ну, а як жа на свеце пражыць
без здагадак?

Лепш няхай паляжыць
на ўсялякі выпадак.
А хто яго ведае,
хто яго знае,
Дзе знойдзеш, дзе згубіш —
усяляк жа бывае!
Вынаходства,
ўсім ведама, рэч не благая.
Вынаходцам
пашана усюды і скрозь.
Прамысловасць
угору ўздымаць памагае,
Камунізм будаваць памагае.
Ды вось
Сто інстанцый
выдатна прайшла вынаходка,
А ў сто першай
запхнулі ў архіў, як у морг.
А куды нам...
Наперадзе ўся сямігодка.
Не спяшайся:
паспееш з казою на торг.
Ну, як жа на свеце пражыць
без здагадак?
І — у сейф, пад замок,
на ўсялякі выпадак.
А хто яго ведае,
хто яго знае,
Дзе знойдзеш, дзе згубіш —
усяляк жа бывае!
Шмат ёсць добрых хлапцоў,
без усякай заганы.
Але ёсць і благія.
На жаль, яшчэ ёсць.
Не даюць нам спакою падчас
хуліганы,
Вось жанчыну пакрыўдзіў
такі ягамосць.
Побач хлопец праходзіў
спартыўнага складу:
Плечы, біцэпсы, рост...
Але дзе там. Ку-у-ды!
Слёзы...
Лаянка...

Міма, глынуўшы спагаду:
«Валтузня: пратакол, сведкі, акты, суды...»
Ну, а як жа на свеце пражыць
без здагадак?
Абышоў, не пачуў на ўсялякі выпадак.
А хто яго ведае, хто яго знае,
Дзе знойдзеш, дзе згубіш —
усяк жа бывае.

*1958*

## ЦЕШЧА

Ну ж і цешча у мяне
Ну ж і цешча.
І кіўне, і падміргне,
І прыплешча.

Скрозь зямлі аршыны тры,
Кажа, бачыць.
І па-свойму, хоць памры,
Ўсё іначыць.

«Прыкурыць» усім дае
У калгасе,
Што, калі дачка ў яе
Удалася.

Год жыву я начыку
І сумую,
Быццам браў я не дачку,
А самую.

Мае рацыю яна
Ў злосці ейнай:
Член камісіі яна
Рэвізейнай.

Вось учора на бліны
Перазвала...
Эх, каб іх... ды каб яны...
Ўчаставала!

І даліся мне блінцы
Пры народзе...
Каб крыху, дык бы канцы
Мне, ды годзе.

Напякла з імберцам-перцам,
Наварыла.
Частавала, з прыкрым сэрцам
Гаварыла:

«Вось узяць хоць наш калгас...
Мне здаецца,
Што не плешчацца у нас,
Не куецца».

Па чарзе за пальцам палец
Загінае.
«Летась што ў нас, хлопец-малец...»
Пачынае:

«Кукуруза — толькі слава —
Не ўдалася.
Непакошанай атава
Засталася.

Парасяткі ў нас прапалі.
Сад загінуў.
Бульбы мы не дакапалі
Не асьміну.

Ну, а тэхніку зімой
Іржа не ела?
А жывёла, зяцю мой,
Не падубела?

А на дні размеркавалі,
Як хацелі.
Перадалі, недадалі
Мала-веле...»

Хоць ляжы,
                    а хоць бяжы,
Так і хлешча.
Ну, каб хто яшчэ чужы,
А то ж цешча.

Дванццаць дрэўцаў (а не сад),
Праўда, ссохла.
І дванаццаць парасят,
Праўда, здохла.

І бухгалтар — не хлусня —
Свінаваты.
Ці ж ва ўсім тут старшыня
Вінаваты?

Што ж, за гэта уздымаць
Хіба звадку?
Гаспадарцы ж не бываць
Без упадку.

І не так усё ўмяркуеш,
Як ты хочаш,
Бо ўсяго і не ўпільнуеш
І не ўсочыш.

Не наводзь на сонца цень,
Ўсім жа бачна,
Што за мною працадзень
Вырас значна.

Людзі бачаць, не дурныя,
Цешча-маці.
Ходзяць дзеўкі чапурныя —
Не пазнаць іх.

Ды і хлопцы — глянь на твары —
Пуцаваты...
Не жыццё — здзяйсненне мары.
Штодзень — святы.

Цешча зноў, бы авадзень
Той, сляпіцай:
«Працадзень як працадзень,
Што хваліцца.

А на колькі б яшчэ болей
Атрымалі,
Каб з гароду ды каб з поля
Ўсё прыбралі;

Ды каб звезлі, ды каб знеслі,
Ды не кралі,
Ды абору ў час каб цеслі
Збудавалі...

А калгаснага бычка...
На радзіны...
Эх, дачка мая, дачка!
Зяць адзіны.

Не на тое ты, дзівак,—
Кажа — кваліш.
Дзірку дзіркаю ніяк
Не залапіш.

Без дазволу,— кажа,— ўзяць
Кожны ласы.
Але ж хоць ты мне і зяць,
Я — за масы».

І сцвярджальна ўслед: так-так —
Бразь маністы.
«Мы з табою як-ніяк —
Камуністы.

Ці не лепш табе было б,
Голуб шызы,
Не ўбірацца, як не поп,—
Кажа,— ў рызы».

Ледзь яна мяне бычком...
Дайце веры.
Я з застолля ды бачком —
Шусь за дзверы!

Паспрабуй пагаварыць,
Зладзіць з ёю.
Не, праз цешчу мне не быць
Старшынёю.

*1958*

## КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ

Партыя Леніна,
Родная партыя,
Камуністычная партыя!
Светлы прамень яна,
Чысты крышталь яна,
Ў жорсткім агні гартаваная сталь яна —
Славы і велічы вартая.

Добрай парой яна,
Строгай гадзінаю,
Заўжды, хвілінаю кожнаю —
Еднасцю ўзброена,
Воляй адзінаю —
Сэрцам навекі з'яднана з Радзімаю
Нашаю непераможнаю.

Партыя Леніна,
Родная партыя,
Камуністычная партыя!
Светам ацэнена,
Светам услаўлена,—
На вечныя векі як прыклад пастаўлены
Розум і дужасць і гарт яе.

*1959*

* * *

Да старасці з юнацкасці
Старонкі перагортваем.
Шукаем нейкай вадкасці —
Вады жывой і мёртвае.
Не дадзена, магчыма, нам
Быць нашых дзён «разынкаю» —
Узгоркамі, лагчынамі
Ідзём сваёй сцяжынкаю.
І кожны дзень, як сённяшні,
Усмешкай славім кволаю:

Вясновы першы сонешнік
І ўвосень дрэва голае —
Ўсё вабіць нас аднолькава
Абсэнсаванай мэтаю,
Таму і спеў вясёлкавы
Лунае над планетаю;
Над лепшаю, цудоўнаю,
Імклівую планетаю,
Майго дыхання поўнаю,
Маім цяплом сагрэтаю.

*1959*

## БРАТ МОЙ, ДЗЕНЬ МОЙ

Ледзьве толькі народзіцца дзень —
Па-арлінаму дзень мой клякоча.
Ледзьве ночы блакітны цень —
Салаўямі звіняць мае ночы.

Дзень мой, брат мой,— кружы, кружы!
Ты сігаеш высока, далёка,
Што пабачыш,— усё раскажы,
Дай пачуць твой арліны клёкат.

Падхапі і мяне на крыло,
Узнімі ў вышыню — над хмары,
Каб усё мне відаць было —
Аж да самай далёкай мары.

І знайду многа добрых слоў,
Ясных дум і пачуццяў няспірхшых,
Буду славіць я зноў і зноў
Хараство тваё, дзень мой, у вершах.

Ледзьве толькі народзіцца дзень —
Па-арлінаму дзень мой клякоча.
Ледзьве ночы блакітны цень —
Салаўямі звіняць мае ночы.

Ты прыйшла і мінаеш, пажджы...
Месяц, месяц! Зямля серабрыцца.

Дай спачыць мне на зорным дажджы,
Салаўіная ночка, сястрыца.

Дай спачыць, хваляванне суняць,
Напаі мяне ціхім мігценнем,
Загадай мае думкі снаваць
Гэтым ціхім блакітным ценям.

Спапялелі нябёсы датла.
Бліснe думка ці знічка — і канс.
Не ўздзімаю агню, без святла
Дня і ночы пільную спатканне.

Ледзьве толькі народзіцца дзень —
Па-арлінаму дзень мой клякоча.
Ледзьве ночы блакітны цень —
Салаўямі звіняць мае ночы.

*1959*

* * *

Адыходзіць, прыходзіць пара...
І з вячэрняю позняй зарою
Сустракаецца ранняя зара
Дзесь за стромкай, высокай гарою.

Дзесь з-за цёмных лясоў грабянцом,
За ўтаймаванай возера гладдзю,
Дзесь за гмахам, за вежы вянцом,
За муроў гарадскіх аграмаддзем...

Разліваецца з светлых глыбінь,
Б'е, віруе жывая крыніца,
І не спыніць нішто тую плынь,
Што з зары — ды ў зару-зараніцу.

Не, не спыніць... І мне не шкада,
Хоць не ўсё, што наважыў, я здзейсніў:
Узняла з сабой дзён чарада
Не прапетыя мною песні.

Праз пажар, праз свінец, праз бяду
Дзён ваенных у небыт панесла...
І цяпер: да зямлі прыпаду —
Нібы вые сірэна злавесна?

Ці то грукат ля мірных варот,
Ці сабакі дзе зойдуцца брэхам,
Ці іржавы забразгае дрот...
Мне ўсё гэта — мінуўшчыны рэха.

Здрыгануся... Хоць я не блазён,—
Страх! Яго я не знаў і спрасоння —
Гэта пільнасць ваенных тых дзён
Засталася ўва мне аж да сёння.

Менш я мог, як другія маглі...
Ды і словы — не тыя карункі...
У жыцці маім дзіўна ляглі
На чатыры вятры кірункі.

Дый абняць немагчыма сусвет,
Хаця ж сэрца абняць тройчы б рада...
Юнакам аддамо ў запавет
Неапетае неба багдадаў...

Юнакам аддамо... Дні вясны!
Ім складаць і спяваць свае песні,
Часам нам, хай прабачаць яны,
Не да песень было напрадвесні.

*1959*

## ОЙ, БЯДА САЛАЎЮ, БЯДА!

Ой, бяда салаўю, бяда:
Ні прыстанішча, ні гнязда.
Гэ, гняздо, казаў,— чвэрць бяды!
Сігану я туды, сюды —
Абяру кусток ды заўю —
Колькі трэба мне, салаўю?
Чвэрць бяды — не бяда, маўчы:
Расспяваю яе ўначы.

Ой, бяда салаўю, бяда:
Дзетак дробненькіх чарада.
Не бяда, казаў, паўбяды,
Дзеткі вырастуць, як заўжды.
Ў песню паўбяды пералью —
Колькі трэба мне, салаўю!
Шыбану яе да зары
Дробным пошчакам па бары.

Ой, бяда салаўю, бяда,
Гора горкае ды нуда.
То не чвэрць і не паўбяды —
З салаўіхаю нелады.
Не ўтаю, казаў, не ўтаю —
Цяжка, горка мне, салаўю.
Салаўісе я, бач, не люб —
Спадабала ўжо ўдодаў чуб.

Загадала: «Ляці на гай,
Чуб пярэсты сабе прыдбай».
Па гаях — тры начы, тры дні —
Лётаў, лётаў — ніяк!.. Ані!..
Ды нарэшце сустрэўся ўдод,
Зненавідзеў увесь іх род,
Бо удод той, на здзек, бадай,
Кажа: песню за чуб аддай!

Гукі песні ў душы звіняць...
Як на чуб яе прамяняць?
З ёю, з песняй, жыццё хваліў,
З ёю ў небе зару паліў,
З ёю зоркі ўначы гасіў,
З ёю росы буйныя піў...
Буйны кроплі расы ў лазе —
Кропля кожная па слязе.

Думаў, думаў шэры бядак,
Думаў, думаў... прыдумаў так:
Ці пагораю я бяду,
Ці насенне сваё звяду.
Салавей толькі песняй дуж,
Дык і гэту сваю бяду ж
Ці не песняй... І грымнуў, гэй,
Песню звонкую салавей.

*1959*

## ЧАТЫРЫ СТЫХІІ

### Паветра

Глянь, паветра... такое празрыстае,
Прамяністае,
лёгкаіскрыстае,
Ледзь ружовае, ледзь залатое,
То спакойнае,
то трапяткое:
Тонкім водарам, пахамі мклівымі
За вятрамі бруіцца гуллівымі.
І чаму ад смяротных затоена,
На якіх яно зёлках настоена?
Глянь, паветра...
Яно такое!..
Не знайсці параўнання — якое...
Як і ты, з той жа пражы сатканае,
Дарагая мая, каханая.
Мая весняя песня ўрачыстая,
Светлым-светлая, чыстая, чыстая!
Ці не з мары?..
Пазнаў. Тая самая —
Шчырым-шчырая, нібы сляза мая.
Без цябе — усё навокал цьмянае,
Нецікавае і нежаданае.
Дакрануцца б ледзь-ледзь,
асцярожна...
Мне пра гэта і марыць няможна.
Паглядзець на цябе
хоць бы мельгам...
Ды паветра ж празрыстае — нельга.
Як смуга у блакіце, жаданне
Ледзь народзіцца — тут і растане.
Як смуга у блакіце,
жаданне...

### Вада

Разважаю. Стаю над ракою.
Вунь той бераг — падаць рукою!
Але трапіць туды не проста —
Ані чоўна няма, ні моста.

Хіба ўраз з галавой акунуцца
Ды на беразе тым апынуцца!
Рызыкнуць? А як раптам патонею?
Гэта ж справа мая, не староння.
Залюляе на хвалях і, мабыць,
У бяздонне віроў завабіць.
— Месца плыткае тут ці глыбокае?
Ты не скажаш мне, зеленавокая?
Што глядзіш на мяне абыякава,
Як на кожнага, як на ўсялякага?
Прымруж свае вочы русалчыны...
Мой спакой, мая воля згвалчаны.
Ды чаго ад цябе дачакаешся,
Калі думаеш толькі, а каешся!
Слова кінь, і надзея ўваскрэсне...
Ты маўчыш... І маўчанне,— як песня,
Але ў ёй ні маны ні шчырасці —
З гэтай песні пачуццю не вырасці.

Гладзь вады ўтаймаваная, ціхая,
Халаджавай спакусаю дыхае.
Гладзь вады ўтаймаваная, ціхая...

## Агонь

Ці мінула хвіліна, другая?..
А ці час супыніўся навечна?..
Я глядзеў, як агонь шугае,
І стаяў, хоць было небяспечна;
Я сябе падбадзёрваў — выстаю
Гэту немарасць, замець іскрыстую;
Мне тады безразважна здалося:
Ўсё у полымі гэтым злілося.
Але раптам над вогненнай багнаю
Саламандру я ўгледзеў прагную.
У яе па агністаму джалу
Беглі кроплі жадання і шалу.
І тады здрыгануўся я ўпотай
Ўсёй сваёй чалавечай істотай.
Як агонь... Ты якраз такая ж:
Зблізку — паліш, здалёк — апякаеш.
Нестрыманая і апантаная,
І жаданая і нежаданая,

Да цябе — у агні і ў полымі —
Не падыдзеш з пачуццямі кволымі:
Апячэш... і мясціну балючую
Не загоіш вадою гаючаю.

Ледзьве ж згасне агонь ненажэры —
Папялок застанецца... шэры.
Ледзьве згасне агонь ненажэры...

## Зямля

Таямніца зямлі — вялікая.
А сама... да чаго ж яна простая!
Да жыцця нас уладна клікае —
Падзе зерне ў яе і прарастае.
І тады, як наш розум стрывожаны,
А пачуцці, як коні, стрыножаны,
Калі ласкі, спакою жадаем —
Да грудзей мы яе прыпадаем.
Светлым-светлая ранняя раніца...
Цемра, ноч навальнічная, хмарная...
О зямля, ты жыцця абранніца,
Буйным плодам яго цяжарная.
Як сустрэцца, дзяўчо, нам пашчасціла?
Чым і як ты наўкола ўсё засціла?
Хіба тым, што, як я, ты зямная ж?
Што ўзрасла не пад райскаю пальмай,
Што нічога, як ёсць, не пытаеш —
Разумееш і радасць і жаль мой.
Сэрца прагне і розум дзярзае,
Бо са мною ты ўся дарэшты,
Узнімуся — і твар твой ззяе,
Упаду я — і не адштурхнеш ты.

Ці не ты заспакоіш, родная,
Пачуццё маё вечна галоднае!
Ці не ты заспакоіш, родная...

*1959*

## СВЯТА Ў БУДЗЕНЬ

Прэч, вайны паходні!
Згінь, былое, зданню!
Мірны дзень сягоння,
Мірныя заданні.

Шмат я чуў і бачыў
З часу перамогі.
Ў светлы край удачы
Леглі нам дарогі.

Быў і у Маскве я,
Быў ля Валгаграда я...
Усё жыве, дужэе —
Сэрца, вока радуе.

Быў я і ў Чарнігаве,
На палескіх межах
Слухаў крыкі кнігавак,
Шэпты Белавежжа.

Слухаў хвой гамонку я,
Слухаў казку даўнюю,
Слухаў песню
звонкую
І легенду слаўную.

Браў у жменю глебу,
Тлустую, адменную;
Браў куліду хлеба,
Тройчы блаславенную.

Бачыў шчырасць сталага
І зухавасць моладзі;
Дбалага, удалага —
Ў вёсцы і у горадзе.

Перачытваў вершы,
Сэрцам закаханы,—
Ў соты раз, бы ў першы,—
І не даў заганы!

Дзе метал — ракою,
Дзе каўшы — як вока,

Сам сваёй рукою
Набіваў апоку.

Браў дэталь гарачую
З рук у майстра жвавага.
Віншаваў з удачаю
Юнака бялявага.

З пралляй імянітаю,
З ткалляй гаваркою
Гаварыў, выпытваў
І не знаў спакою...

Ўсё шукаў, хто дужасць ім
Сёння даў і сілы;
Хто навучыў іх мужнасці,
Каб расправіць крылы.

Людзі, нашы людзі,
Добрыя і простыя!
Час наш не марудзіць —
Ўсё наўкол вырастае.

А ўсяго найболей
Гэтымі гадамі,
Людзі добрай волі,
Выраслі вы самі.

І куды ні прыйдзецца
Ці ісці, ці плысці нам,
Хто на нас пакрыўдзіцца?
З намі праўда-ісціна.

Розум, сэрца — ў згодзе...
Я пытаю: дзе шчэ
Старана, жыццё дзе
Цераз край так плешча?

Дзе такія стрэнеш
Кармазыны рання,
Сінь-блакіты ценяў,
Золата світання,

Срэбны месяц, зоркі,
Ціхай рэчкі хвалі,

Ў чаратах азёркі,
Статка мір на гале,

Вохкія лагчыны,
Стромкія пагоркі,
Кволы спеў дзяўчыны
Ў цішы адвячоркаў?..

Я вачмі паэта
Ў край свой закаханы.
Аглядаю гэта,
Бы зачараваны.

Неба, сонца, кветкі,
Водзь, зямля, паветра,
Гэтыя палеткі
І глыбіні нетраў;

Песні, смех вясёлы,
Права жыць, кунежыцца,
Гарады і сёлы —
Ўсё людзям належыцца.

Жыць нам, жыць і цешыцца —
Хараство, дый годзе!
Хлеб пыхціць у дзежачцы,
Шумна ў карагодзе,

Спаскія куранты нам
Адбіваюць хвілі —
Поўная гарантыя
І жыцця, і сілы.

Але сэрца — верад —
Непакоіць, муляе.
І гляджу я ўперад
Толькі праз мінулае.

Ноч. Агонь шугае
Над лясамі гонкімі.
Дзень. Зямля зіхае
Чорнымі варонкамі.

Як жа, як забыцца?
Столькі крыўды, прыкрасці!

Успамінаў збыцца?
Выкрасліць іх?
                    Выкрасці?

Даць ім, як магілам,
Зарасці травою?..
Або жывасілам
Вырваць іх з крывёю?

І гляджу, і думаю,
І сумую болей я.
Горкую бяду маю
Хіба час адолее?

Нібы лоўж той паліва,
Селішча Галіеўка
Спалёна да каліва,
Дробнага калівейка.

Нельга мне, паэту
І грамадзяніну,
Не успомніць гэта
Ў светлую гадзіну.

Колькі ў брацкіх ямах
Легла ўкатаваных —
Самых лепшых, самых
Мужных і адданых.

Не, у нашым сэрцы
Ўсё занатавана,
Жыць ім і па смерці
Славай нечуванай.

Вось іду з мінулага
Ў будучыню светлую.
Што ўва мне ёсць чулага,
Што ўва мне ёсць ветлага

Я нясу,
          як дар той,
Спаленаю вёскаю,
Не ўпушчу упарта,
Ў лецях не расплёскаю.

Край мой, сэрцу любы!
Без жальбы,
без галасу,
Моцна сцяўшы зубы,
Беларусь змагалася.

Толькі ў дні жалобы,
Ў тое ліхалецце...
Як тады было б нам
Жыць на белым свеце,

Каб не ты, наш браце,
Рускі волат-дзіва,
Першы ў мірнай працы
Й на крывавай ніве;

Каб не шчырасць братняя
Між маіх народаў,
Каб не лад ды хатняя
Наша еднасць-згода;

Каб не наша партыя —
У вяках ёй слава —
Непахісна-ўпартая
Ў неўміручых справах.

*1960*

* * *

Мне цяпер уявіць немагчыма —
Нікне розум, маўчыць уяўленне,—
Чым была б ты, мая Айчына,
Каб да сонца не ўзняў цябе Ленін?!
Я гляджу ў мінулае сёння,
Ў далячынь тую, ў час той хмары:
Цемра дзён і начэй бяссонне...
Ўсё асветлена толькі марай.
Ні спачынку няма, ні адхлання
Ад вяковае крыўды, пакуты,
Ані спогаду, ні спачування,

Нават мыслі ў кайданы закуты.
Дык якой жа нам вымерацць мерай,
Як жа вызначыць глыбіню іх,
Тых людзей, і іх вялікаю верай,
Як уславім іх, як ушануем?
Не, не лёгка было яму і думай:
Як зямлю, што струхлела да донца,
Абнавіць і узнесці юнай
Пад старэнькім, старэнькім сонцам.
Дзе ні глянем і што ні згадаем —
Працы плён, адпачынку даброты —
Мы усюды і скрозь назіраем
Светлай думкі яго узлёты.
А цяпер і ўявіць немагчыма —
Нікне розум, маўчыць уяўленне,
Чым была б ты, мая Айчына,
Каб да сонца не ўзняў цябе Ленін?!

*1960*

* * *

На карціну гляджу ў расчуленні
(Колькі ў ім шчэ павінны апець мы!):
Прымружыўшы вочы, Ленін
Размаўляе з малымі дзецьмі.

Дзеці выраслі і узмужнелі
І майстрамі вядомымі сталі,
Сеюць жыта, праводзяць тунелі,
Завіхаюцца каля сталі;

Ў далеч светлую накіраваны,
Шляхам велічы, шляхам славы
Караблёў вядуць караваны
Пры папутных вятрах ласкавых.

Пыл гадзін і хвілін пакрывае
Усё нядужае — позна ці рана.
Толькі тое ў вяках утрывае,
Што Кастрычнікам збудавана.

*1960*

* * *

Я вартую спакой дарагі мне,
Мірны, мужны спакой радзімы.
Мая варта — ад гімна да гімна,
Ад паўночы да шостай гадзіны.

Сціхла нават вятроў патыханне,
Не чуваць, як і кропля сцякае.
Нават ноч, затаіўшы дыханне,
Прыслухоўваецца, чакае.

Хто пытае — не блудзіць ніколі.
Не даўмеўся — бяру і пытаю.
Сэнс жыцця пасягаю ўсё болей,
Калі Леніна я чытаю.

Па-інакшаму свет увесь цэніш,
Па-інакшаму і працуеш;
І святлейшым здаецца дзень наш,
Калі слова яго адчуеш.

Прыпадаю, нібы да крыніцы
Смаглы вуснамі прыпадае...
Мыслі-думкі яго, як зарніцы...
Светла, знаю — чаго жадаю.

*1960*

* * *

Радасць сходзіць на лёс чалавечы —
Узнімаецца дзесь з глыбіняў,
Пакружыўшы, сядае на плечы
З ціхай кволасцю галубінай.

У дарогу жыцця нас праводзіць
З непаўторнай усмешкай ветлай,
Дагаджае ў дарозе, і годзіць,
І стракае зноў з ласкай светлай.

*1960*

* * *

Я па табе смуткую, мора!
І смутак той жыве ўва мне
Не толькі сёння, жыў і ўчора...
Пакуль жыву — ён не міне.

Я да цябе здаўна імкнуўся
У часе радасці ці скрух,
І круг жаданняў не замкнуўся,
Адно шырэй зрабіўся круг.

Сам-насам бы хацеў з табою
Пабыць — далей ад мітусні,
Каб плынь рахманая прыбою
Лізала ног маіх ступні.

Твайго салонага паветра
Хацеў бы я хапіць глыток;
І мне няхай бы хваля з нетраў
Бурштыну вынесла драбок.

Няхай бы й я у час світання —
Шаптаў твой голас ці рыкаў —
Дымок сачыў на развітанне
Ці ветразь белы сустракаў.

Я па табе смуткую, мора!
І смутак той жыве ўва мне
Не толькі сёння, жыў і ўчора...
Пакуль жыве — ён не міне.

*1960*

* * *

Час прыходзіць,
адыходзіць,—
Буйнацечна, хуткаплынна;
Валаводзіць,
карагодзіць —
Несціхана, безупынна.

Праз плячо зірну на сцежкі,
Дзе прайшоў і дзе блукаю,—
Падабенства да усмешкі
Горка твар перасмыкае.

Срэбра, соль кранае скроні,
Маршчакі ляглі на твары...
Калі глянеш, як староннi:
Упусціў жыццё праз мары.

Толькі не, яшчэ збяру я
Россып дум, знайду і словы...
Я у ім, і ён віруе,
Дзень наш светлы, дзень наш новы.

І ўва мне ён, дзень... кранае,
І хвалюе, і трывожыць.
Гэта слова, што лунае,
Ён на музыку паложыць.

Хоць не дадзена мне горы
На даліны рушыць, дружа...
Глянь, як ясна свецяць зоры!
Глянь, якія ў садзе ружы!

*1960*

## ЗЕРНЕ

Колькі ў ім моцы,
У маленечкім зерні,
Кволым на погляд,
Нібыта мізэрным.

Вось яно спее
У добрым гуморы,
Цягне,
Ўбірае з падземнай каморы.

Для немаўляці таго,
Для зярняці,

Глеба — пяшчотная,
Добрая маці.

Аптымістычна
Настроена зерне:
Што вінавата —
Людзям яно верне.

Хай сабе спёкі,
Дажджы, сухавеі —
Жыта ўзыходзіць,
Расце, палавее.

Прадзешавіла
Ці прадаражыла —
Долю сваю
З чалавекам здружыла.

Хоць не былі
Аніколі чужымі,
Сёння штось іншае ёсць
Паміж імі.

Болей за сотню
На добрым сцябельцы
Дбала вырошчваюць
Нашы умельцы.

А не ўзрасці яна,
Гэта малеча,—
Голад на свеце,
Бяда і галеча.

Часам шкада яго
Ў жорны, на мліва,
Гэта маленькае,
Дзіўнае дзіва.

*1960*

## КРЫНІЦА ЖЫЦЦЯ

— Празрыстая,
Жывая,
Гаючая
З пачатку ў пачатак цякучая,—
Чым твой вечны струмень скаламучаны?
Чым твой голас шумлівы засмучаны?
Няўжо ты знябылася
І хочаш спыніцца,
Жыцця крыніца?

— Я горам, бядою засмучана,
Я горкай атрутай атручана.
Смерць і Цемра —
Не верыцца, верыцца —
Пагражаюць,
Выпоўзаюць,
Шчэрацца,
Намагаюцца,
Пнуцца...
Варожаць,
Як крыніцу жыцця зніштожыць?
Каб на месцы,
Дзе кветкі выростаюць,
Дзе прыгбаныя спіны выпростваюць,
Дзе складаюцца песні і дайны,
Адкрываюцца вечнасці тайны;
Дзе дарэшты ўсё мною сагрэта,
І ўспялегвана, і апета...
Каб на месцы,
Дзе бачыш ты плоць маю,—
Прорва зеўрала, процьма процьмаю...
Каб усё гэта — ў небыта багну...
Ты пытаеш?..
Я — міру прагну!
— Не тужы, не сумуй, спрадвечнае!
Змова чорная іх небяспечная,
Але ж Праўда ёсць! Праўдзе —
выжыць.
Аб яе яны зубы скрышаць.
Мне павер,
Я табой было сплоджана,
У пакутах цяжкіх народжана

І ўзрасло, і ужо не малеча я,
Я — Сумленне, дзіця чалавечае.
І тваё, о жыцця крыніца!
Будзем бараніцца.

*1960*

## СМЕРЦЬ КАМІСАРА

Адамкнула ўсе замкі
Раніца пунцовая.
Лугам, полем — нацянькі
Конік вытанцоўвае.
Рана свежая ў сцягне
Ветрам ледзь загоена,
Долу ж шыі не сагне
Зграбная жывёліна.
Дзе прайшоў — крыві цурок,
Стаў — крыві калюжына.
Конь іржэ, нібы знарок,
Ціхенька, прыглушана.
Перарэзаны бальшак,—
Сцежкі бы рассыпаны.
Коннік просіць:
«Ціха, шша!
Вестку падасі панам!
Рана, дружа, не рэзон —
Папярэдзіць бестыю.
Накармлю цябе аўсом,
Дагляджу, адпестую.
Пажывём яшчэ з табой
Люба, конік, дорага,
А цяпер — марш, марш у бой
З кроўным нашым ворагам».
Жарабец вушмі стрыжэ,
Цуглямі ашчэраны.
Едуць доўга, ўжо сажэнь
Не адна адмерана.
Стаў глухой сцяной сыр-бор
З шэптамі таемнымі...
Запрашэнне? Нагавор?

Зразумець дарэмна іх!
А гушчар, гушчар такі...
Б'е кашлатай лапаю,
Лесуну і то бакі
Абдзярэ, абдрапае.

Бровы хмурыць камісар,
З камандзірам радзіцца.
А з-за куста у гушчар
Постаць ціха крадзецца.
Ловіць, сочыць кожны рух —
Пільна, насцярожана.
Хто там? Вораг альбо друг?
Прошаны? Няпрошаны?

— Што ж, рыхтуйцеся у бой...
Ўправіў кулю меткую.
Двух байцоў бярэ з сабой,
Сам ідзе ў разведку ён.
Перабежкамі, паўзком —
Леташняю гліцаю...
Быццам туліцца цішком
Нехта за капліцаю!
— Рукі ўгору!
Але стрэл
Грымнуў, расшчапіўшыся...
Смерць баец у твар сустрэў...
Пастаяў схіліўшыся...
— Дружа, любы...
Не паспеў,
Звёў вачамі гордымі...
Абарвацца мусіць спеў
Хрыплымі акордамі.
Нахіліліся над ім
Яварок з калінаю,
Над прыгожым, маладым,
З стаі сакалінае.

*1960*

## ЗГУБЛЕНАЯ МЫСЛЬ

У стомлены мой мозг
Пастукалася мысль.
Пастукалася ціхенька,
Нясмела, ледзьве чутна,—
Так стукае ў чужым-чужую хату
Жанчына падарожная, калі
Ноч у дарозе цёмная агорне,
А гаспадар няведама ці прыме.
Перачакала нейкі час прыстойна.
І зноў пастукалася: тук! тук! тук!
Я не ўпусціў: ці мала вас, маўляў,
Ля падваконняў швэндае паночы.
Хто быў бы рад пагрэцца, акрыяць
Каля майго утульнага цяпельца!
Яна яшчэ крыху патупала навокал
Павольна, сарамяжліва і знікла.
Відаць, надзею страціўшы адолець
Маю санлівасць, млявасць і ляноту.
Спачатку я быў рад: ніхто не дакучае,
Ніштэ не парушае мой спакой.
Аднак пасля адчуў я хваляванне.
Я прыслухоўваўся: а ці не стукне зноў!
Напэўна, дзесь стаіць, стаіўшыся, чакае.
Дарэмна прыслухоўваўся — маўчала цішыня.
Чаму я не ўпусціў яе? Чаму?
Што ад мяне было патрэбна ёй?
Па што прыходзіла? Па ласку? Па спагаду?
Пакрыўдзіў хто яе, і жаль свой
Са мною падзяліць яна хацела?
Ці мела светлай радасці праз край
І — шчырая — сюды яе прынесла?
Чаму не расчыніў я насцеж дзверы?
Не запрасіў, не выслухаў яе?
Ці сэрца чэрствае ў мяне і клопатаў баяўся!
Ці кроў халодная: абыдзецца, маўляў,
У кожнага свой шлях, свая сцяжынка.
Цяпер адчуў я толькі, што, канешне,
Было патрэбна мне прыняць яе,
Старанна выслухаць і зразумець дакладна,
Каб з іншымі пачутым падзяліцца.
Бо не магла яна пустой быць, недарэчнай.
Інакш адкуль мае згрызоты і дакоры?

Аднак я быў заняты, працаваў упарта,
Я верш пісаў, рука мая здранцвела,
Язык знямеў, скандуючы радкі;
Я рытм нагой дакладна адбіваў,
Санлівасць адганяючы, і вудзіў
Эпітэты, метафары і тропы...

Тут я пачуў, як нехта ціхенька
У сенцах тупае ізноў.
То мысль вярнулася. Вітанне!

*1960*

* * *

Каб соль не страціла
Ўласцівую ёй солкасць,
А песня — гукаў
Трапяткіх і кволых,
Вясёлка — колераў,
Каханне — шчырасці,
А чалавек — душы сваёй
Вялікай, несмяротнай —
На свеце існуе
Мастацтва.

*1960*

* * *

Філосаф мае сілагізм.
Ён вывад свой снуе,
Выходзячы з дзвюх дадзеных
і пэўных велічынь,
І ўсё дзеля таго, каб зноў, і зноў, і зноў
Блудзіць між трох знаёмых хвоек.
Псіхолаг ставіць свой
Эксперымент лагічны,

І логіка, бывае, паўстае
Супроць яго ж, бо кій,
Як нам вядома, мае два канцы
І часам б'е псіхолага абодвума —
Бязлітасна і жорстка.
Паэт, мастак, музыка —
Ў палоне вобразаў жывуць
І часта б'юць галовы і азадкі,
Танцуючы у клетцы безупынна,
З святога Віта прыклад беручы.
А ты, звычайны спажывец
Навукі, філасофіі, мастацтва,
Ты маеш гэта ўсё заўжды і назаўсёды.
Ты сееш, ты куеш — ты творыш і смяешся...
Я шчыра, ад душы табе зайздрошчу.

*1960*

* * *

Не плач ніколі,
Не зайздросць, не злуй;
Спакойным будзь
І нават — лепей: смейся,
Бо кажуць, што між нас, людзей,
Размеркавана ўсё належным чынам:
Слабому слёзы дадзены,
Смех — дужаму,
Злосцівасць — дурню,
Мудраму — спакой.
Калі ж табе ўсё гэта не да густу,
Я дам табе рэцэпт:
Вазьмі дзве-тры слязіны,
Вазьмі ў тры пальцы смеху,
Спакою — па магчымасці,
Злослівасці — па смаку;
Усё гэта змяшай як мае быць
Ды спажывай на добрае здароўе.

*1960*

## ДАРЭМНЫ СПАЛОХ

Я неяк надвечар зблудзіў у лесе думак.
На поўдзень, поўнач —
скрозь сцяна сцяной.
На ўсход, на захад —
ні канца ні краю.
Нібы ў зачараваным коле я — іду, іду
І зноў на тым жа месцы апынуся...
Асіны трэсліся і, як пляткаркі, шапацелі.
Бярозы плакалі, схіляючыся долу.
Сівыя хвоі хмурыліся моўчкі —
Галлё наўсторч сухое: стой, ні з месца!..
Змарыўся я, вандруючы, прысеў
Ля выскадзі, на мошасце зялёным,
І ноч мяне крыламі ахінула.
Яна сабрала хмары, потым разагнала
І вобзем бразнулася безліччу сузор'яў.
Мне усцішна было і зябка і самотна...
Зноў спрабаваў ісці,
зноў падаў у знямозе...
Трывожыў кожны гук: і лісця шолах,
І строкат конікаў,
і крык начнога птаха;
Святляк палохаў, цьмяны бляск гнілушкі...
Усё наводзіла на роздум, на развагу
І моцна прымушала біцца сэрца.
Я сумняваўся, верыў і не верыў,
Губляў надзею, зноў яе знаходзіў,
І зноў губляў, і спадзяваўся зноў.
А цемрадзь скрозь —
маўклівая, глухая...
І ў лесе думак ёсць свае сычы,
І кажаны вядуцца ў ім, і совы,
І ноч палохае маўклівая і немая,
Пакуль прамень не пазбірае на світанні
Малінаўкай рассыпанае срэбра,
Пакуль расы начной, халоднай не пап'е.
Я апрытомнеў раптам. Азірнуўся:
Навокал сонца, фарбы, бляск, зіхценне...
Зямля узнятая — як чорны аксаміт,
А воддаль трактары ідуць чаргою.
Блакіт над галавой, зялёны ўскрай далёкі —
Усё гудзе, ракоча і жыве.

Падаўся ўперад. Ля крыніцы,
Празрыстай, чыстай і халоднай,
Утаймаваў я смагу. Акрыяўшы,
Наўкол сябе людзей убачыў.
Так ласкава,
Пяшчотна усміхаліся яны!
І у мяне на сэрцы зрабілася так лёгка, лёгка.

*1960*

## ТВОЙ КАМЕНЬ

Спатыкнуўшыся аб камень,
Прыбяры яго з дарогі...
Ну, а як дайсці да мэты,
Прыбіраючы каменне?
Сколькі гэтага камення
На жыцця крывой дарозе
Нагр631амоджана бывае!
Ну, яшчэ калі натрапіш
На малы каменьчык, дробны,
Паддасі яго нагою,
На абочыну адкінеш
І павольна далей рушыш.
А калі вялікі камень,
Што займае ўсю дарогу,
Ты сустрэнеш нечакана?
Пастаіш, паразважаеш
І спакойна абыходзіш:
Я ж не волат, не асілак,
Не падужаю і... міма:
Хай хто іншы, хто за мною
Па жыцця дарозе крочыць,
Камень той спрабуе зрушыць.
І не ведаеш, не знаеш,
Калі так праходзіш міма,
Што на свет на гэты белы
Ты, магчыма, і з'явіўся,
Каб той камень з месца зрушыць.

*1960*

## РАДАСЦЬ... СМУТАК...

Радасць мая светлая,
Смутак і боль мой!
Як мне вычарпаць вас?
Далонь мая нядужая.
Ненадзейнае плячо маё.
Дні мае — пялёсткі пажоўклыя.
Шукаю і не знаходжу.
Люблю і пакутую. Клічу — маўчанне.
Ледзьве вецер павене,
І долу хілюся я — сцябло сухое.
Лёгка на вачах маіх
Высыхаюць слёзы — раса ранішняя.
Не ўзыходзяць думкі мае
запаветныя —
Зерне бясплоднае.
Радасць мая светлая!
Смутак і боль мой!
Як мне вычарпаць вас?
Сэрца маё трапяткое.
Розум мой неабсяжны.
Душа мая — бездань.
Слухаю немую цішыню,
І яна грыміць перунамі.
Прасціраю руку сваю
І супакойваю буру.
На сонца гляджу,
І цьмянее промень яго.
Радасць мая светлая!
Смутак і боль мой!
Як жа мне вычарпаць вас?

*1960*

## ВЕТРЫК

Ціха, ціхенька, ціхутка,
Так пяшчотна, так ласкава
У гарачы твар павене,
Валасоў узніме пасму,

Прашапоча жартаўліва
Смешным-смешнае на вуха,
Адляціць, свавольнік, дзесьці
У кустах ужо пляткарыць,
Жарты строіць ды гарэзіць,
І шапоча, ўсё шапоча!..
Нібы гэта таямніца —
Радасць першага кахання,
Словы шчырыя і ўздыхі,
Пацалункі, абяцанкі!
Ах, які пляткар ён, ветрык!
Добры, лёгкі, свежы ветрык!

*1960*

## ПУСТАТА

Накрыж дошкі.
                    Забіты акенцы.
Дзверцы моцна замкнёны —
                                        не стукай.
Чорны шляк на тваёй сукенцы,
Мне здаецца, сіпіць гадзюкай.

Зноў іду я і голы і босы
Па дарозе тугі і ўтрапення;
Нада мною ўжо не нябёсы,
А каменны цяжар скляпення.

Бура зноў ашалела грае —
Крышыць дрэва
                    і нішчыць вецце;
Чорных мар налятае зграя,
І адзін я на цэлым свеце.

*1960*

* * *

Глянь, у небе хмарка плыне!
Бліскавіца!
Што, як з хмаркі дожджык хлыне?
Дзе спыніцца?
Ой, застудзіць
ды замочыць,
як прыхопіць.
І няма куды нам збочыць,
хлопча, хлопец!
Ані даху, ані стрэшкі —
чыста поле,
І дарэмна бегчы бежкі
да таполі,
Што палае дзесь далёка
ў змрочным проме.
Не грымі ты,
не галёкай,
гучны громе!
Не шыбай свае паходкі
з хмар прадоння,
Не шугай на вецер збродны
кропляў гронне.
Ні маланкі бліскавічнай,
ні дажджу я
І ні грому, што так зычна
нам вяшчуе,
Не баюся...
Ён смяецца,
ён са мною,
Мой каханы...
Усё здаецца
мне маною.
Мне здаецца: ён ды я
на цэлым свеце,
Ды нябёсы ды зямля
у белым цвеце.

*1960*

## АРАБІНКА

Восень ранняя, халодная — слата.
Каля хаты — арабінка-сірата.
Цяжка, горка на самоце тут стаяць:
Не сагрэцца аніяк,
                не акрыяць.
Наракае: «Лепш прыйшоў бы той дзянёк,
Каб я глянула на ўласны свой пянёк!..»
Ёй бы — ў хату, ў падсуседзі на зіму
Папрасіцца: «Я шмат месца не займу —
Дзе ў куточку, кулачок ды пад бачок...
Сівер... Дождж улёг —
                не дробны грыбнячок...
Ад галля як ёсць прамокла да камля,
Пада мною — багна-багнай, не зямля...»
Не пушчаюць людзі ў хату ўсё адно,
Хоць і стукае галінкамі ў акно...
Хоць шапоча ціха ўдзень і уначы
Сіраціна, сваю долю клянучы.
Неяк глянула зара з-над цёмных хмар
На асенні, на засмучаны абшар
І заўважыла, прыкмеціла з нябёс
Арабіны-сіраціны цяжкі лёс,
І падумала: «Хвала ці не хвала —
Дай пазычу ёй агню свайго, цяпла!
Бач, калоціцца і дыхае ледзь-ледзь,
Гэта ж трэба ёй, гаротнай, так азглець!»
Запаліла тою раніцай зара
Арабінку каля ціхага двара.
Занялася арабінка спакваля:
Перш пажоўкла і паджурала з галля,
А пасля,
        у вераснёвую сутонь,
І на гронкі перакінуўся агонь —
Як палае, як шугае ён, ого!
Птушкі грэцца прылятаюць да яго,
І на сэрцах, і у песнях у людзей
Ад агню таго шмат робіцца цяплей.

*1961*

## ЧАРАЦІНКА

Чарацінка мая,
Чарацінaчка.
Сірацінка мая,
Сірацінaчка!

Ветрам студзеньскім
Зацалаванае
Хараство тваё
Зачараванае.

Нахілілася:
Дай жа бо гляну я
У люстэрка
Празрыста-ільдзянае.

Ды нікому цяпер
Не патрэбная
Прыгажосць твая
Іпіста-срэбная.

Абудзіла каго
Яшчэ, можа б, ты,
Каб уголас жальба,
А не ўпошапты.

*1961*

## СВАЦЦЯ

Сваццін цесцейка мясіла,
Свата моцненька прасіла:
Сваце, сваце мой, падмажы,
Хвартушочак мне падвяжы.
Ды не гэтак, бо, ды не так,
Ды які ж ты прасцяк, дзівак!
Сваце, сваце мой, мукасей,
Ну падсып яшчэ, ну падсей!
Паднясі, сваток, падбяжы,
Больш рабі, сваток, менш кажы.

А ці дурань ты, ці святы?..
Ну, якія з цябе сваты!
Каравай ты мой, каравай!
Добры дзень, сваток, і бывай.

*1961*

## СЛОВА ПРА КАМЕНЬ

З ліслівай гамонкай,
а сяброўскаю мінай,
Такою ласкавай, такою нявіннай,
Прыкрыўшы усмешкай,
прыкрыўшы рукамі,
Наш вораг трымае
за пазухай камень.

Жыццё... Ў ім і радасці ёсць і пакуты.
І з другам спрабуеш
разважыць бяду ты.
І раптам адскочыш,
адскочыш — няйначай,
Рукой ухапіўся
за камень гарачы.

А часам, шыдэрна
прыплюшчыўшы вочы,
Шыбне нехта камень
у наш агародчык;
Няхай то не камень,
а толькі каменьчык,
Глядзіш: чалавеку балюча —
заенчыў.

Бывае, пакрыўдзіць нас
лёс-ненажэрца —
І камень кладзецца на самае сэрца.
Ляжыць ён на сэрцы,
ляжыць — прыціскае,
Пакуль яго здыме
спагада людская.

Бывае і так:
чалавек у адчаі
І з месца на месца
каменне качае,—
Ад рання да ночы,
не бачачы выйсця...
Сізіфава праца,
без жаднай карысці.

А ёсць яшчэ камень
звычайны, не сімвал,
Усім нам вядомы,
знаёмы усім вам.
Той камень сапраўдны,
надзейны, ўтрываны,
Вякамі ці эрамі
ён гадаваны.

Той камень даўно,
на зары чалавецтва,
Пачаткам жыцця быў,
пачаткам умецтва,
Тады, калі іскру
з яго выкрасалі
І з іскрай той
сілы людзей ускрасалі.

Стаіш ты над ціхай магілай
парою,
Ля помніка вечнае славы
герою,
І камень не толькі
агонь высякае,
А чыстай, гарачай
слязою сцякае.

Мастак, што ў рабоце
галодны і плодны,
Бярэ ў рукі камень той,
мёртвы, халодны,
Нібыта істоту яго
прасякае,
І з каменя
вобраз жывы высякае.

Між каменяў іншых —
суровых, пахмурых,
Кладзе яго дойлід разумны
ў падмурак.
І будзе стаяць
праз вякі беззаганна
Усё, што на камені тым
збудавана.

*1962*

## РАЦЫЯНАЛЬНАЕ ЗЕРНЕ

«Тут ёсць рацыянальнае зерне...»
Так гавораць і часамі забываюць,
Што рацыянальнае зерне,
Як і кожнае зерне,
Трэба праверыць на ўсходжасць,
Вызначыць яго гатунак,
Падрыхтаваць яму глебу.
Што рацыянальнае зерне,
Як і кожнае зерне,
Патрабуе ўгнаенняў,
І прытым не штучных.
Патрабуе:
Догляду і ўвагі,
Ласкі і любові.
І тады рацыянальнае зерне,
Як і кожнае зерне,
Узыдзе і зарунее,
Закалосіцца і даспее.

«Тут ёсць рацыянальнае зерне?»

*1962*

## НАВЫПЕРАДКІ

Чулае сэрца...
Розум цвярозы...
У вечным спаборніцтве
Сэрца і Розум!
Вось ён апярэдзіў,
Парваўся наперад...
І сэрца крывёю сцякае,
Як верад.
А вось і яно, паглядзі, акрыяла —
Розум дагнала
І перагнала.
Назад
Ці наперад,
Як вокам ні кінеш,
Ніяк не згадаеш,
Дзе старт і дзе фініш.
Чулае сэрца...
Розум цвярозы...
У вечным спаборніцтве
Сэрца і Розум.

*1962*

## ПАЖАДАННІ

Слова жывому —
на глебу ўрадлівую,
Мёртваму слову —
на камень, на жвір.
Шчыраму сэрцу —
долю шчаслівую,
Чэрстваму сэрцу —
балота і вір.
Смутку глыбокаму —
ночку спакойную,
Радасці ціхай —
яснай зары,
Зелля гаючага —
ране няўгойнае,

Добраму ўчынку — добрай пары.
Хвалям пшаніцы,
зялёным алівам —
Ліцца, кусціцца
ў пустэчу, ў аблог.
Дбайным,
няўрымслівым і клапатлівым —
Поўнага плёну ад іхніх трывог.
Тым, хто, спазнаўшыся
з цяжкай бядою,
Верыць і паліць надзеі агні —
Міру жадаю,
жадаю спакою,
Звонкай,
як песня жыцця,
цішыні.

*1962*

## МАЯ МЭТА

Асушыць —
дзе яшчэ забалочана,
Даплаціць —
дзе яшчэ недаплочана,
Там прайсці —
дзе было недазволена,
Дасаліць —
дзе было недасолена,
І разбавіць —
дзе перасаладжана,
Распагодзіць —
дзе нераспагоджана,
Развяселіць усё,
што засмучана.
І злучыць,
што калісьці разлучана,
І апець
ўсё яшчэ неапетае...
Вось такую паставіў мэту я.

*1962*

## РЭХА

Ці сур'ёзна, ці то смехам
Размаўляю з пустабрэхам рэхам.
Ад цябе пачуць хачу я,
Што прарочыш, што вяшчуеш.
— Ўчу-у-еш!
Ды каму ж усю дазвання
Тайну мне адкрыць кахання?
— Га-нне!
Дык яна ж мяне і губіць —
Іншых вабіць ды галубіць...
— Лю-у-біць!
Вось, напрыклад, хоць учора —
Паглядзела на Рыгора.
— Го-о-ра!
І з Міколам валаводзіць —
Ён штовечар падыходзіць.
— Хо-о-дзіць!
Прыглядаецца да Ўладзькі...
Часам кпіць ласкава з Вацькі...
— Хва-ацкі!
Я ж ніяк не апаную —
Паглядаю ды раўную.
— Ну-у іх!
Хіба брыдкі я, ці брудны,
Ці гугнявы, ці марудны?
— Ну-у-дны!
Ці заціхі, ці зашумны,
Ці няўклюгі, неразумны?
— Су-у-мны!
Ты мяне дарэмна ганіш.
Калі сумны — праз каханне ж!
— Ма-а-ніш!
Не ляжыцца і не спіцца,
Як так жыць — лепш утапіцца
— Ўпі-іцца!
Ці пагода, а ці негадзь,
Мусіць, прыйдзецца хоць-нехаць.
— Е-э-хаць!
Дык парай жа мне хіба ты:
Лепш у будзень ці у святы?
Ў сва-а-ты!

*1962*

## ЧАГО ПЛАЧА НЕМАЎЛЯ?

Рой пытанняў спрадвеку праклятых —
Ад смяротных грахоў да адплаты —
І бяспечных і небяспечных,
Вечна спрэчных і недарэчных;
Рой пытанняў,
якіх не сцерці
Праз жыццё аж да самай смерці.
Неабсяжнасць уся,
ўся бязмежнасць,
Неўнікнёнасць уся,
непазбежнасць;
Спрэчкі розуму з сэрцам, ваганні —
Абвінавачванні і апраўданні...
Гэта ўсё,
Гэта ўсё — на мяне!
Гэта ўсё
Мяне
Не міне!
Гамы колераў, барваў і фарбаў;
Россып гукаў —
каштоўнейшых скарбаў;
Песні, дойны, паданні і сагі —
Рухі сэрца і мыслі зігзагі,—
Мільёны радкоў вершаваных,
Недажованых і перажваных,—
Душ пакуты, надломы і звіхі,
Салаўі ўсе і ўсе салаўіхі;
Рытмы жалю і рытмы віхуры
І пратэз рытарычнай фігуры...
Гэта ўсё,
Гэта ўсё — на мяне!
Гэта ўсё
Мяне
Не міне!
Паплача, паплача немаўля дый усміхнецца.
Не міне, не міне, маўляў,— мінецца!

*1962*

## ТОЙ СВЕТ

Мы ведаем той свет, так званы «вольны».
Мы ведаем закон яго няўмольны.
Там джунглі афарбованы пад рай,
Там поўная «свабода» — выбірай:
Ці долар пакупца твайго стылá, натхнення,
Ці торба жабрака — і ў ёй тваё сумленне,
Калі цнатліва не хаваецца яно
Пад фігавым лістком, ружовым даміно.
Пільнуе ўладу жоўты д'ябал хціва,
А перад ім, схіліўшыся пачціва,
Слугуе, стрэнчыць чорная чума.
Здаецца ўжо, што і шляхоў няма,
Апроч крывых, для шчырага імкнення,
Для чыстых душ і чыстага сумлення,
Калі цнатліва не хаваецца яно
Пад фігавым лістком, ружовым даміно.
Па-свойму хітры ён, па-свойму кемны,
Наскрозь гнілы, зусім нікчэмны,
Свет адчуванняў нізкіх і пустых,
Пыхлівых выбухаў і стрэлаў халастых,
Свет фальшу, рабскага ўтрапення...
Што вам падказвае сумленне,
Калі цнатліва не хаваецца яно
Пад фігавым лістком, ружовым даміно?
І хоць канец свой чуе немінучы,
Ён, гэты свет, шэдэрскі і жывучы,
Як сто, як тысячагаловы гад.
Наўкол яго смурод і тхлень і чад,
Пясок абпалены і голае каменне...
Што вам падказвае сумленне,
Калі цнатліва не хаваецца яно
Пад фігавым лістком, ружовым даміно?
То золатам прывабным іржавее,
То кветкаю бяскрыўднай ружавее,
То песняю чароўнаю гучыць,
То сарамяжна сціхнуўшы маўчыць,
То гнілі пахам і ветрыкам павене...
Што вам падказвае сумленне,
Калі цнатліва не хаваецца яно
Пад фігавым лістком, ружовым даміно?
Ці скажаце, што ён вам невядомы,
Ці скажаце, што ён мізэрны, невагомы,

Ці скажаце — «ён нам зусім чужы...»
Ці скажаце — «ўцякай хутчэй, бяжы
І у сабе самім шукай збавення...»
Што вам падказвае сумленне,
Калі цнатліва не хаваецца яно
Пад фігавым лістком, ружовым даміно?
А можа, вам няма чаго мяшацца,—
Падумаць, пачакаць: «куды, маўляў,
спяшацца,
Абыдзецца, магчыма, і без нас,
На ўсё свая пара, свой час,
І перш за ўсё — цярпенне і цярпенне...»
Што вам падказвае сумленне,
Калі цнатліва не хаваецца яно
Пад фігавым лістком, ружовым даміно?
Калі вы стаіце на раздарожжы:
Вось свет адзін — фальшывы і варожы,
А вось другі — узнёслай праўды свет —
Падумайце, падумайце як след,
І без усякага вагання і сумнення
Шлях барацьбы падкажа вам сумленне,
Калі цнатліва не хаваецца яно
Пад фігавым лістком, ружовым даміно.

*1962*

## АКУПАЦЫЯ

Святло згінула раптам...
Цемра не падпаўзала спакваля,
Не падкрадалася завуголлямі,
Не засылала наперад змрок і цені.
Цемра — паглынула.
Невідушчая, яна ўглядалася:
Што там, яшчэ бліскае надзея ў вачах?
Глухая, яна ўслухоўвалася:
Што там, яшчэ б'ецца сэрца жывое?
Нерухомая і важкая,
Яна намагалася прасякнуць усюды,
Нават у каморкі нашага мозгу;
Немая і гугнявая,
Яна выла сірэнамі,

Глушыла выбухамі,
Высявала мёртвыя словы,
Якім не дадзена было ўзысці.
Белая бяроза стаяла пашчапаная.
Раса ў полі — высахла.
Жытні колас — асыпаўся.
Голад звіў гняздо ў нашым чэраве.
Мінулае было так далёка,
Што цяжка было яго ўспомніць.
Будучыня... Замест яе была Вера.
Да мэты ішлі наўпрасты,
Абмінаючы дзяцінства, юнацкасць,
старасць.
Дня не было:
Дзённыя клопаты разбегліся,
Распаўзліся,
Прытаіліся,
Баючыся напомніць аб сабе.
Ночы не было:
Чародка ружовых сноў
Скінулася зграяй ваўкалакаў,
Шэрых, чорных,
Яны вылі і хапалі за горла.
Жыцця — не было,
Але не было і смерці.
Быў — дух ператвораны ў полымя.
Мужнасць нараджала герояў.
Помста нараджала герояў.
Надзея нараджала герояў.
Крыўда нараджала герояў.
Смутак нараджаў герояў.
Адчай нараджаў герояў.
І толькі здрада — нараджала тхароў.
Яны пладзіліся і самі сябе жэрлі.
Мы замкнулі свае вусны на замок.
Дзе схаваны ключы,— не ведалі самі.
Не хацелі ведаць, не жадалі ведаць.
Было — не адамкнуць той замок
Ні крывёй, ні жалезам.
Дарэмна здрада падбірала ключы і адмычкі.
Мы пільна ахоўвалі таямніцу,
Таямніцу жыцця.
Мы хавалі яе ў нетрах цёмнага лесу,
Мы хавалі яе на папялішчы спаленай вёскі,

Мы хавалі яе ў зруйнаваных гарадскіх
мурах,
Мы хавалі яе ў сваім сэрцы...
І калі ўжо нічога не заставалася,
Нічога! —
Мы перадавалі яе ў іншае сэрца,
А самі падалі на зямлю,
Раскінуўшы рукі крыжам.
На адзінае імгненне
Сонца праціпала цемру.
Мы глядзелі на яго,
Глядзелі ўжо не прыімружваючы
вачэй.
Лёгка жыць,
Лёгка паміраць,
Адчуваючы
Сваю дужасць,
Сваю веліч,
Сваю Праўду.

*1962*

## ТРОЕ ЎНАЧЫ

Па правую маю руку ішла
Мужнасць,
Па левую, крыху адстаючы,—
Страх.
Ноч
прыслухоўвалася да нашых крокаў.
Ноч
углядалася ў нас цьмянымі бельмамі.
Ішлі...
Баяліся наступіць на якую гадзюку.
А яны —
таіліся,
варушыліся,
сычэлі.
Недзе нешта цырыкала:
zurück...
zurück...
zurück...

Не, гэта не чужынцы.
Гэта толькі наская сонная птушка ў кустах.
Недзе нешта цяжка дыхала:
halt...
halt...
halt...
Не, гэта не чужынцы.
Гэта толькі наша ўласнае дыханне.
Так мы ішлі,
беглі,
наўзлі...
да мэты.
І раптам я адчуў,
што па правую маю руку —
няма нікога.
Але...
нікога не было і па левую.
Мае спадарожнікі пакінулі мяне.
Першы —
знік дзесьці наперадзе.
Другі —
крочыў назіркам ззаду.
Я застаўся сам-насам са сваім сэрцам.
А яно усё мацней —
біла,
біла,
біла...
аж пакуль...
Ноч грымнула выбухам.
Трое зрабілі сваю справу.

*1962*

* * *

Дружа мой!
Шчыры мой!
Цяжка табе было на свеце:
Бо любіў ты болей, як цябе самога любілі.
І пакут зазнаў ты болей, як іншыя.
Душа твая расчынялася насцеж, як дзверы,

Калі ў іх хто-небудзь трывожна стукаўся.
А стукаліся часта, настойліва,
Бо хата твая не з краю стаяла —
На шырокім шляху — не абмінуць.

Дружа мой!
Шчыры мой!
Цяжка табе было на свеце:
І маланкі гневу выкрасаць,
І асвятляць праменнем усмешкі.
І цяпло кволасці,
пяшчоты,
спагады дарыць,—
Бо як жа без гэтага абысціся
Паэту і чалавеку?
Горыч твая салодкая была
І асалода — горкая.

Дружа мой!
Шчыры мой!
Цяжка табе было на свеце,
Труднаю была твая ношка:
Талент твой станавіўся ў ёй рубам,
Думкі мулялі і вярэдзілі,
Словы — рассыпаліся...
І паспрабуй яго сабраць, гэты россып слоў!
Заўжды ў змаганні, благаў спакою.
Але хіба ў спакоі мы знаходзім спакой?

Дружа мой!
Шчыры мой!
Цяжка табе было на свеце:
Мінуўшчына была тваім ворагам,
І толькі ў будучыні ты бачыў святло.
Яно ўжо люстравалася на абліччы тваім,
І душа твая выпраменьвала яго.
Светлая, светлая будучыня!..
Хіба не стаім мы на парозе яе?
Але... без цябе.

*1962*

## СЛУХАЮ ТВАЕ ВОЧЫ

Слухаю твае вочы.
Яны спяваюць.
Я разумею гэту песню.
Адчуваю яе мелодыю.
Я ўхапіў яе рытм.
Сэрца маё адбівае такт за тактам.
Не, ты не можаш сфальшывіць.
Не, ты не можаш памыліцца.
Радасць? Так і павінна быць.
Сумненні? Так і павінна быць.
Прадчуванне разлукі,
Горыч, боль...
Як жа без гэтага?
Так... І сустрэча.
Так... І каханне.
І ўсё іншае!
Дурненькая, інакш не было б песні.
А я ж слухаю твае вочы,
Яны спяваюць.

*1962*

* * *

— Вецер, вецер!
Чаму ты ласкавы такі,
Аб чым шапочаш?
— Улагодзіў ты мяне, чалавеча!
— Вецер, вецер!
Чаму ты стаіўся, заціх.
Не зварухнешся?
— Дадзела мне, чалавеча!
— Вецер, вецер!
Чаму ты злосны такі,
Аб чым скуголіш?
— Угнявіў ты мяне, чалавеча!
— Вецер, вецер!
Чым жа ўзлаваў я цябе,
Чым угнявіў цябе?

— Не зразумееш ты, чалавеча!
Годзе мне надзімаць паэтычныя ветразі —
Усё роўна карабель стаіць на месцы.
Годзе мне павяваць на цябе
і прахалоджваць —
Усё роўна не астудзіць успалымёнага чала твайго.
Палячу лепш хмары ганяць,
Хвалі ўздымаць...
Гора мне з вамі, паэтамі!

*1962*

* * *

І Дзвіна,
і Дняпро,
і Нёман —
Усё гэта —
наша спадчына.
Ці то хваляў ласкавы гоман?
Не.
Гэта песня матчына.

*1962*

* * *

Усё належыць захоўваць
у памяці нашай пячоры.
Нішто не павінна кануць
у вечнасць, у часу бяздонне.
Калі сёння забыў ты крыўду,
што чыніў табе вораг учора,
Дык заўтра забудзеш дабро,
што зрабіў табе друг твой сёння.

*1962*

* * *

Праехаць вельмі лёгка
ці прайсці
Шашой асфальтавай
за плыннню руху.
Але
як цяжка часам нам брысці
Па вогненнай
сцяжыне
духу.

*1962*

* * *

Я смутак твой, боль
разумею.
Парадзіць — забыць...
не пасмею.
Забыць — гэта значыць
здрадзіць.
А як жа такое
парадзіць?

*1962*

* * *

О думкі,
і словы,
і справы крылатыя!
Крылатыя птахі —
чалом вам,
чалом.
А як жа...
бяскрылым змагацца з адплатаю?
Ні ўзняцца,
ні нават прыкрыцца крылом.

*1962*

* * *

Перапевы...
Недапевы...
Ўсё апета —
людзі,
дрэвы,
І завеі,
і залевы...
Зноў і зноў гукаем:
дзе вы,
Мыслі свежыя павевы?

*1963*

* * *

Сэрца дзеўчыны —
таемны вір загадкі.
А яна?..
Яна маўчыць сабе,
ні гадкі.
Пазіраю ёй у вочы і пытаю:
Як незагаданую загадку адгадаю?

*1963*

* * *

І дзверы ўсе ў доме
расчынены насцеж...
А людзі...
Чаму не ўваходзяць у дом?
Прыходзілі ж калісь —
у шчасці,
ў няшчасці...
Бо сёння расчынены дзверы агнём.

*1962*

## АПРАЎДАННЕ БЯЗДАРНАГА

Шчаслівы лёс другіх абраў
І талент ім падараваў,
А я — уласны гонар маю
І падарункаў не прымаю.

*1962*

## ХМАРА

Хмара вядзерцамі грымнула, бразнула...
Злосная-злосная —
                    не падступіцца!
І прабурчала штосьці невыразнае,
Нешта накшталт:
                    «Дам усім вам напіцца».
Хмара поле поіць,
                    палівае.
Хмара смагу гоніць,
                    праганяе.
Ох, і ўвішная —
                    крок да бяды!
Ці не залішне —
                    столькі вады?
Пачынала хмара спакваля.
Па-старому:
                «Блаславі, святы Ілья!
Зямельку прыбіць,
Гнілля нарабіць...
Гыля ў поле, кроплі, гыля!
Падгані іх, святы Ілья!»
Кінула кропельку
                    зерню гарчычнаму,
Макаву зернеці
                    кінула дзве аж;
Ячнаму,
        жытняму,
                    зерню пшанічнаму...
«Пі! А то бачу —
                    душой загавееш!»

Кропля за кропляй
Зімнаю, цёплай;
Кропля за кропляй,
Гоп-ля ды гоп-ля!
Лінула...
Хлынула...
Хвошча...
Палошча...
Ну і дождж!
Ну і дождж жа!
Гэтак зусім нягожа.
— Ці не задужа ты, хмара, прыспорыла?
Ці не занадта стараешся, годзе ж!
— Не ўсё яшчэ я, чалавеча, агорала...
І зноў прабурчала:
— Ніяк не дагодзіш!
Сам бы паліў і не крыўдзіўся б нечага...
Не разумею нораву чалавечага!..
І падалася ў дарогі няблізкія...
Толькі імчыцца ды злосна паблісквае,
Толькі ракоча, грыміць ды грукоча:
«Ну й чалавек! І чаго ён хоча!»
А чалавек ёй услед паглядае:
— Чакай, хмара, пара ўжо не тая,
Век прашу цябе ды благаю,
А цяпер — досыць, вазьму ды залыгаю.
І не будзеш ты шкодзіць ды сварыцца,
Прыйдзецца табе, хмара, скарыцца.

*1963*

## НАВАЛЬНІЦА

Ужо больш месяца пагода.
Спякота — не абараніцца.
І вось палёў і лесу водар
Занесла ў горад навальніца.

Яна ў адно змяшала пахі —
Палын і ландыш, смолкасць хвоі...
Зямлю, людзей абмыла, дахі
У церпкім чэрвеньскім настоі.

Струмені срэбра,
                    срэбра ніці
У цьмяні сонца,
                    ў чырвоным віры...
У нізкіх хмарах бліскавіцы
Свае скрыжоўваюць рапіры.

Мы так чакалі навальніцы!
Мы так чакалі, так чакалі
Душой і целам аднавіцца
У гэтай звонкай, свежай хвалі.

Яна нас тройчы акунула
І перунамі тройчы пала,
Пасля на поўдзень павярнула...
А нам здавалася ўсё мала...

Тады мы ў водгуллі нясмелым
Пачулі з далечы трывожнай:
«Я аддала усё, што мела,
Да кроплі дробнай, да апошняй».

*1963*

* * *

Разгайданы човен, як калыска,
І не ўбачыш вокам берагоў.
Пэрлінак рассыпаная нізка —
Нікне ў небе стайка галубоў.

Промень. Сонца. Бронзавае цела.
У руках вясло. Брыдзіць мазоль.
Майка, як ад хіны, прапацела —
Бліскае крышталінамі соль.

Добра ўвесну маладым і дужым,
Добра той шчасліваю парой,
Калі мы кахаем, любім, дружым,
Калі сталасць, старасць — за гарой.

*1963*

## АД ПРАЛЕСКІ ДА БЭЗУ

Хлапец пакахаў, і дзяўчына кахае.
І я ім у вочы не лезу.
Экзамены, праўда, ды часу хапае
Ад першай пралескі да бэзу.

Папрок, пацалунак, а нават парою
І рэўнасць — іржой па жалезу,
І радасць бясконцая, шчасце — гарою
Ад першай пралескі да бэзу.

Няхай жа не толькі да бэзу каханне,
Няхай яно будзе і ўлета,
Няхай яно нават і ўвосень не вяне,
Хай зімак ім будзе сагрэты.

*1963*

## ЯБЛЫНЬКА

Было ў яблынькі і лісце, быў і цвет,
Былі яблычкі чырвоныя — ранет.

І цяпер яшчэ вісіць — адным адзін,
Самы хітры, што хаваўся між галін.

Не ўтрывае ён, апошні,— па ўсяму,
Бо няма ўжо дзе схавацца і яму.

Не ўгаіць ёй боль і сорам не ўтаіць.
Лісце, лісцейка... галюткая стаіць.

Абабрала восень яблыньку як след,
І цяпер ёй — хоць ты з торбаю у свет!

*1963*

## МІЧУРЫНСКІ БЭЗ

Бэз мічурынскі
махрасты...
Ясны дзень.
Вясновы дзень.
Між галінак пакручастых
У лісці снуе прамень.
Прабіваецца,
свідруе,
Тне зялёную парчу;
Па чале тваім вандруе
І люструецца ўваччу.
Бы кашлатая папаха
З ружаватага руна,
Згустак колераў і пахаў.
Гронка бэзу?
Не, вясна.
Ты гаворыш:
«І цяжкая ж!
Шчасце я знайду ці не?»
І, схіліўшыся, шукаеш,
Усміхаючыся мне.
Як у песні:
ўсё чатыры,
Не знайсці, відаць, пяці.
У жыцця кіпучым віры
Пяць пялёсткаў —
не знайсці.
Ці ж канешне —
пяць пялёсткаў?
Ну, а восем іх калі?
Шчасце — ў дубальт...
пагалоска
Ёсць, што мы яго знайшлі.
Ветрык шэпча штосьці...
Гронні
Ружавеюць і маўчаць.
Ён параіць,
не староннi,
Што рабіць
і што пачаць.

*1963*

* * *

Крыўдна мне за каханне-любоў маю,
За душу маю, ласкаю поўную.

Увайшоў я у раніцу веснюю
З непачатай, нясконччанай песняю.

Абрыдаю, але не абрыдаю:
Увайшоў я нячутна і выйду я;

З невідушчымі выйду вачыма я...
Ёсць жадомае, ды немагчымае,

Ёсць магчымае, ды нежадомае...
Гэта ісціна — ўсім вядомая.

Не пачуеш ты, не, як мой голас сціх,
Захлынуўшыся ў смутку і кволасці.

*1963*

## ПАДАРУНАК

Гэты вечар, вечар весні,
Вымагае,
дарагая,
ціхай песні.
Не, ёй песні
непатрэбны.
Ахвярую,
падарую
месяц срэбны.
Ах, пасля падзей касмічных
Ён не дужа
ўжо, мой дружа,
рамантычны?
Чым жа вечар
ушаную?
Вось вазьму я
падарую
цішыню ёй!

Цішыню...
a сэрца
б'ецца —
Гэтак гучна,
гэтак гучна
б'ецца сэрца.
Сэрца!
Тах! Тах!
Сэрца!
Так, так!
Падарую сэрца.

*1964*

## СЛОН І МУХА

— Каб з мухі ды зрабіць слана?..—
Слон абураецца.— Мана!
Тут Муха:
— Жу-жу-жу!
А я табе скажу,
Што праўду знойдзеш і ў мане.
Вось хобат...
і ў цябе ёсць і ў мяне.
Заўсёды ў свята б'юць у звон:
Ёсць хобат,
значыць, будзе слон.

*1965*

* * *

Згадаў я зерне і мякіну...
Навука, як на свеце жыць.
Адзін прыйшоў
і след пакінуў,
Другі прыйшоў,
каб наслядзіць.

*1965*

## СКАРГА

На лёс свой скардзіўся
                    лісток лаўровы.
Тут пэўна,
          пэўна, не без змовы:
Хіба ён болей важны?
                    Хіба я меней значны?
І ён лісток,
          і я — лісток,
Чаму ж ён трапіў у вянок,
А я — у крупнік ячны?

*1966*

* * *

Сябе самога, дружа, вінавацъ,
Калі спакою, вытрымкі не стала:
Чарвяк і той, калі яго ўзлавацъ,
Джгануць цябе заўсёды знойдзе джала.

*1966*

* * *

Калі б прырода мне наканавала
Лёс чарвяка,
          гадзюкі
               ці шакала,
Я б мусіў джаліць,
          і кусаць,
               і поўзаць,
Як гэтая
     ў жывёльным свеце позадзь.
Але
   на чалавечае пасадзе
Хіба магу так жыць,
          як гэтае пазаддзе?

*1966*

## ЧАРНАБУРКІ

*З паляўнічых апавяданняў*
*сучаснага Мюнхгаўзена*

Неяк раз іду,
дарогі не пытаю,
Лес я ведаю, бы свой уласны сад,
На хаду, знай,
лапаць падплятаю.
І зблудзіў — ні ўперад і ні ўзад.

Тупаў, тупаў — разлажыў цяпельца,
І агеньчык хутка — бліснь ды бліснь...
Побач — дуб, а ў дубе тым дупельца,
А ў дупельцы, бачу,— рыжы ліс.

Ну цяпер, кажу, нягоднік, шэльма,
Рук маіх ніяк ты не мінеш!
Ліс сядзіць, уставіў свае бельмы,
А пасля — як скочыць на мяне!

Я — за хвост... А ён як заскавыча!
Кінуў хвост і ад мяне — бяжком.
Я не разгубіўся, як зазвычай,
І прыстукаў ліса абушком.

І чаго залез ён у дупельца?
Я — на дуб, скачу з сука на сук...
Глянуў у дупло, а там — кубельца,
А ў кубельцы — яек дзесяць штук.

То было кубельца берасцянкі...
Але ж ліс!.. Як трапіў ён сюды?
Ды хіба даваў ён абяцанкі
Берасцянкам не чыніць бяды?

Не тутэйшы, мусіць, быў — наводны...
Лес чужы навокал — ледзь не здох.
Так, відаць, блукаў сабе галодны,
Аж пакуль не трапіў на гняздо.

Ліс, вядома, доўга не чакаўшы,
І не аблізнуўся — птушку з'еў.
Недаседкаў жа малых пашкадаваўшы,
Ён на яйкі, відавочна, сеў.

Падзівіўся я: выпадак рэдкі.
Думаў, развaжаў і варажыў...
Ох, шкада, загінуць недаседкі!
І на яйкі сесці сам рашыў.

Ты смяешся, думаеш, што байка?
А калі б ты сам паспрабаваў
Тыдзень цэлы выседзець на яйках,
Дык не тое б, браце, заспяваў!

Кажаш, я маню, нібы наняты...
Як ты хочаш — вер сабе ці не,
Пралупіліся за тыдзень лісяняты
Чорна-бурыя... Былі яны ў цане...

Я развaжыў ды жыўцом — у кайстру...
Дзесяць штук было іх акурат.
І, як я, такому нават майстру —
Знахадка дзесятак лісянят.

Хочаш вер, а хочаш і не вер мне,
Ды адно даслухай, дай спакой...
З той пары у нас на звераферме
Чарнабурыя пайшлі рукой.

Не люблю хлусні — ва ўсіх выданнях.
Але як жа абысціся без хлусні
Паляўнічаму ў сваіх апавяданнях —
Вечарам, у лесе, пры агні?

*1967*

## АХ, КАБ БЫЎ Я...

Ах, каб быў я ізноў маленькі!
Зноў бы нос уціраў я жменькай
Маленькае хлапчо, хлапчанятка...
І ў школе прапускаў заняткі.
І жыў бы ў мяне апалонік
У слоіку шкляным з-пад мёду,
А ў другім — лупаценькі конік
Стракатаў бы сабе на пагоду.

Апалонік не стаў бы жабкай,
Калі ж конік падбіў бы ножку,
Я сваю паклікаў бы бабку:
«Падкуй яму ножку ў дарожку!»
А бабка, напэўна б, сівенькай
Сваёй галавой паківала:
«Анічога я тут, нічагенькі
Не параджу, унучак»,— сказала б.
І яшчэ я палац бы адгрохаў —
Фантастычны, з мары і снення:
Вымысляў і маніў бы патроху
І ля мамы шукаў бы збавення,
Калі бацька, заспеўшы у шкодзе
(Вінаваты ж хлапцы-звадыяшы!),
Узлаваўшыся, крыкнуў бы: «Годзе!»,
Пагражаў мне бярозавай кашай!
Я ж бы думаў сабе: «Не паддамся
Слязам пад дубчынай цопкай!»
Каб цяпер хлапчанём быў... Прынамсі,
Не душа балела б, а попка.

*1968*

## АРБІТАР

*Байка*

Сустрэліся аднойчы Чэмер і Палын.
Пасля прыстойнай, хоць і пустой, гаворкі—
Аб тым, аб сім, аб дробным і малым —
Усчалі спрэчку: хто з іх болей горкі?
— Я! — кажа Чэмер.
— Я! — Палын яму пярэчыць,—
Успомні, пра мяне і ў песні ёсць, дарэчы:
Пра палынок, пра горкую траву...
— А я — у прыказках людскіх жыву! —
Пачаў /і Чэмер ганарыцца,—
Успомні: чэмер, чэмер-чамярыца.
Спрачаліся, спрачаліся, а вынікаў — няма!
— Вы толькі час марнуеце дарма,—
Умяшаўся Макавы Цыбук,
І, падміргнуўшы хітра,

Прапанаваў: вы Перцу Струк
Узялі б за арбітра.
Ён, карацей гаворачы,
Шмат разумее ў горычы.
Звярнуліся: вось так, маўляў, і так...
Разваж, хто з нас гарчэйшы,
калі ўзяць на смак?
Струк Перцу выслухаў і — аж пазелянеў
(Я-а-кі-я ягамосці!),
А потым і пачырванеў
Ад крыўды і ад злосці.
Пры гэтай прапанове
І адказаў: «Панове,
Хай мой прысуд не будзе мне ў папрок —
Ён канчатковы, справядлівы і кароткі:
І ты салодкі, Чамярок,
І ты, Палын, салодкі!
А хто з вас болей саладжавы,
Не ведаю і ведаць не хачу, ей-права.
А горкі... Горкі толькі я!
І прывілея горычы — мая!»

А байка для таго, каб не рабіў хто спробы
На суд ісці да зацікаўленай асобы.

*1968*

## РАКІ

Да мяне, бач, Якаў прыходзіў,
Каробачкай ракаў лагодзіў.
І даліся ж мне яны ў знакі!
Аж да ночы —
ракі ды ракі!
Распаўзліся скрозь па падлозе —
Ракі па кутках і ў парозе.
Ажно чорна скрозь неўзабаве —
Поўзалі ў застоллі, па лаве.
Ну, а Якаў мой не шманае,
Ракаў сабе, знай, выхваляе:
«Добра,— кажа,— ракі ды з кропам,

Ды яшчэ з салоным сіропам;
Дужа,— кажа,— з ракаў навару...»
А мне тыя ракі — за кару,
Бо што ж таго рака карысці —
Нечага ні з'есці, ні ўгрызці.
Ох, злавала ж я,
ох, злавала,
Калі тыя ракі збірала!
І здалося: ён, небарака,
Дужа сам падобны на рака —
Гэтакія ж вусы і клюшні,
Гэтакі ж павольны, няўклюжны!
Час бы ўжо сказаць і «дабранач»,
А мой Якаў месціцца нанач?
Я нарэшце ракаў сабрала,
А Якава з хаты прагнала:
«Няма месца, Якаўка, ў хаце,
Бо на печы бацька ды маці,
А ў сенцах гэйкі-падружкі
Разабралі коўдры-падушкі.
У запечку дзеці ды дзеці —
Дзе ж мне цябе, Якаў, падзеці?»
Адыходзіў Якаў — заплакаў:
Мусібыць, шкада было ракаў.

*1968*

## З НАРОДНАГА

— Куды едзеш?
— Да Менску.
— Што вязеш?
— Гэнску.
— Што за гэнску?
— Ну, гуску.
— Так бы й казаў, па-людску.
— Дык жа гусей...
Толькі панства купуе!
— Дурань...
Па-панску размаўляць спрабуе!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Куды едзеш?
— Да Навагрудку.
— Што вязеш?
— Вутку.
— Што за вудка? Гарэлка?
— Не, качка.
— Так бы й казала, дзівачка.
— Качку вуткай завуць гаспада.
— А нам якая бяда!

*1968*

## В'ЕТНАМУ

Браце далёкі
і блізкі мой браце!
Голас твой чую
ў сусветным набаце.
Мысль, як сірэна,
і ўдзень і ўначы...
Чым памагчы мне
і як памагчы?
Ведаю кволасць я
слова свайго...
Дужасць у тым,
што падхопяць яго,
Ў тым, што абернецца слова
праклёнам,
Ў тым, што нянавісць
даспее ў ім плёнам.
Веру: нарэшце убачым і плод —
Вольны, з'яднаны
в'етнамскі народ!
Множачы славу
працоўных патомных,
Добры агонь
вы палілі у домнах.
Цепліў людзей,
асвятляў у сутонь
Добры, харошы,
ласкавы агонь.

Праца цяжкая...
Асвяне далонь...
Сэрца ж не гасне —
ў ім добры агонь!
Добры агонь...
Ён не гаснуў, не чах
Ў душах у вашых,
у вашых вачах.
Думка раптоўна —
як куля у скронь:
Добры агонь...
А варожы агонь?
Прарваўшы зенітак,
ракет агарожы,
Яго раздзьмуваюць,
агонь той варожы.
І з морскіх прасцягаў,
прасцягаў нябесных
Шугае агонь той,
шугае злавесна.
Падаюць бомбы...
Нішчацца дамбы...
Якім бы шчаслівым
ты сёння, В'етнам, быў,
Каб сонечны, мірны
прамень з вышыні,
Каб мірны, ласкавы
спакой цішыні!
Каб боль не трывожыў,
каб смутак не грыз,
Каб бачыць, як квола
праростае рыс,
Каб слухаць, як мора
ласкава ракоча...
Ды гэта злаба...
І чаго яна хоча?
Дзікунства, і хіжасць,
і прагнасць, і зайздрасць
Сягоння укралі ў вас
вашую радасць.
Шалее
бяссільная вылюдкаў зграя,
Бо сэрца В'етнама
гарыць, не згарае.

А ворагі вашы аглухлі, аслеплі:
Злавесны агонь
іхніх сэрцаў не цепліць.
Ды ўбачаць сляпыя і ўчуюць глухія:
Гнеў,
гнеў народаў,
ваш гнеў — як стыхія!
Жыццё або смерць —
сёння спрэчка ідзе.
Мы з вамі
у вашай і нашай бядзе!

*1968*

## КАЛІНКА

*З народнага*

Як збіраўся сынок
далёка ў дарогі,
Пакланіўся маці
у самыя ногі:
«Маці мая, маці,
а ўжо ж ад'язджаю,
На цябе, на маці,
жонку спакідаю.
Жыць вам, не журыцца,
жыць вам, не сварыцца,
Дзе трэба — уважыць,
дзе трэба — скарыцца».
Ой, цяжка нявехне!
Дзень ноч абмінае,
А свякрухна-матка
кляне, выклінае:
«Скінься ты, нявехна,
горкай арабінай,
Горкай арабінай,
чырвонай калінай...»
Не знайсці спагады
і ў злой залвіцы,
Толькі тае рады,
што слязьмі абліцца...

Ноч дзень абмінае...
Ой, шляхі-дарогі!
Ці блізка-далёка
родныя парогі?
Як дамоў вярнуўся
— ох ты, доля, доля!
Не пазнаў ён хаты,
не пазнаў і поля:
«Маці мая, маці,
што ж у нас за дзіва?
Вырасла каліна
каля нашай нівы.
Вырасла каліна
стромка ды высока,
Стромка ды высока
і лісцем шырока».
Ох ты, доля, доля...
Кажа маці сыну:
«Пайдзі, сыне, ў поле
ды ссячы каліну».
Як першы раз цюкнуў —
аж кроў паказала:
А другі раз цюкнуў —
уголас сказала:
«Бадай тваёй маці
так лёгка ўздыхаці,
Як мне, маладзенькай,
ў полі паміраці...»

*1968*

* * *

Зненавідзеў
паэзію-амброзію,
Зненавідзеў
паэзію-карозію —
Гугнявую,
як казань прапаведніка,
Сухую,
як старонка даведніка,

З думкаю
мёртванароджанай,
Дзе наплецена,
дзе нагароджана,
Як шляхцянку да фэсту
прыбраную,
Бразгатлівую,
барабанную;
Языкатую,
без'языкую,
Што жыве крадзяжом
і пазыкаю,
Звышрахманую,
звышпалымяную,
Дырыжорам усім
паслухмяную,
Бясплодную,
халодную,
Як халіф на гадзіну,
модную;
І такую,
дзе ўсё пераперчана,
І такую,
дзе «вось вам паперчына»,
Калі часам
прыспела да ветрыку,
І дзе ліра-герой —
як метрыка.
І паэзію
ўкрута і ўсмятку,
І што цяжка глынуць
сухамяткай,
Што мышкуе рудою ліскаю,
Што віецца
гадзюкаю слізкаю...
Пазнаёмішся
з гэтаю кобраю,
І знялюбіш
паэзію добрую.

*1969*

* * *

Гады́ гулялі ў цот і лішку —
Санлівыя і навальнічныя,
А Беларусь жыла ў зацішку,
То віравала, то крынічыла.

Лёс сустракалі мы ўсялякі.
Заўжды вялікім — межы вузкія.
«Мэльдовал» пан нас у палякі,
Баярын нас пісаў у рускія.

Спытаць бы (але ж адцураецца)
У паспалітае санацыі:
Забойства простае караецца,
А як з забойствам цэлай нацыі?

Што ж, як гарох мы пры дарозе —
Сцяблінй да зямлі прыгбаныя,—
Заўжды ў трывозе і знямозе
Былі ціхмяныя, рахманыя.

Гнялі, прыгнечвалі, каралі —
Агнём, турмою, крыжам, мечам нас,
А мы ўсё свой загон аралі,
Крывёй, слязой і потам мечаны.

Бывала, чулі: «Цаца, цаца»,—
А далей — у кішэні мацалі.
А хто быў згодзен сынам звацца
Бязмоўнай, без'языкай нацыі?!

Вякамі даспявала гора.
І як управіцца з тым горам нам?
І калі гляну я ва «ўчора»,
Мне сёння крыўдна, горна, сорамна.

Былі «сякімі» і «такімі» —
Хапіла дзёгцю нам і патакі:
Усход крычаў — ерэтыкі мы,
А захад зноў-такі — схізматыкі.

Не мелі доўга ўласных бардаў,
Ляжаў цяжар на сэрцы каменем:

Да мовы роднае пагарда
Была прышчэплена вякамі нам.

Але яна жыве, віруе...
О мова родная, дзівосная!
З табой жыву, з табой памру я,
З табою, веру, і ўваскрэсну я.

І пакаленні, пакаленні
Брылі б па шляху, смерцю значаным,
Але на свет з'явіўся Ленін —
І лёс наш быў пераіначаны.

Ў сям'і вялікае улонне
Вярнуў, даў волю нам і мову ён.
Сваёй гісторыі сягоння
Гартаем мы старонку новую.

*1969*

## ПАТРУЛЬ

Восень цёмная...
Ноч туманная...
Страх жывёліны
ў хрыплым «хальт!».
Боты сталлю ў іх падкаваныя.
Чуеш —
з ляскатам
шкрабуць асфальт...
Ой, бяда вам,
бяда бядушчая.
Лапачы хоць,
а хоць маўчы:
Ноч,
глухая ноч,
невідушчая...
Не хадзілі б лепш
паначы,
Дзесяць крокаў...
І зноў для смеласці

З аўтаматаў даюць чаргу.
Крык пачуўся
і анямела сціх.
Далей крочаць
нага ў нагу.
Далей крочаць...
А ці далёка ім
Наканована
па зямлі
Крочыць —
катам і іхнім лёкаям?
Покуль меціўцы іх
не змялі!
Цэнтр у ворага.
Наша ўскраіна.
Дзень...
Палонны дзень,
знікні, збоч!
Дзень...
Палонны дзень...
Удзень каралі нас...
Дзень...
Палонны дзень —
наша ноч.
Хай —
з гарматамі,
з аўтаматамі...
Гнеў, нянавісць, гнеў —
супраць іх!
Гнеў, нянавісць, гнеў —
суд над катамі!..
Цэнтр ашчэрыўся і прыціх.
Восень цёмная...
Ноч туманная...
Страх жывёліны
ў хрыплым «хальт!».
Боты сталлю ў іх
падкаваныя.
Чуеш —
з ляскатам шкрабуць асфальт...
За фасадамі,
за прысадамі:
— З аўтаматамі?
— Не бяда!

— Нацянькі заходзь!
Мы? Адзаду мы.
— От і ведацьмуць —
«вэр іст да».
— Возьмеш правага.
— Мне каторага?..
Сцяўшы зубы,
суняўшы дых,
Следам-назіркам
сочаць ворага
Трое помслівых,
маладых,
Восень цёмная...
Ноч туманная...
Ледзь не шопатам:
— Хто? Адкуль?
Цішыня стаіць скрозь
спадманная...
На ускраіне —
наш патруль.

*1969*

## ТАЛЕНТ

Хіба павінны вы дзівіцца,
Што ледзь ступіў ён на парог...
Як кажуць:
veni,
vidi,
vici —
Прыйшоў,
убачыў,
перамог!

*1969*

* * *

Добры дзень табе,
добры вечар!
Ці ты дома,
ці у вырaі.
Адгукніся,
добры чалавеча,
На ласку,
на шчырую.

Адгукніся добрай справай,
Песняю прыгожаю,
Адгукніся працай жвавай
Ці то ўсмешкай гожаю.

Усё да месца і дарэчы...
Цяжкаю і звонкаю
Пахваліцца, чалавеча,
Можаш ты скарбонкаю,

Дзе сабраны нашы сненні,
Мары і дзярзанні,
Нашы справы і здзяйсненні,
Думкі, спадзяванні;

Дзе сабрана безліч скарбаў —
Нашых, а не нечых,—
Розных водценняў і фарбаў,
Цёплых, чалавечых.

Добры дзень табе,
добры вечар!
Ці ты дома, ці у вырaі.
Спадзяюся,
добры чалавеча,
На ласку,
на шчырую.

*1969*

* * *

Сонца.
Нябёсы.
Прамення пучок.
На праменьчыку сонца
Вісіць павучок?
А можа, за хмарынку,
За аблачынку —
За што зачапіў ён
Сваю павучынку?
Гайдаўся,
Гайдаўся
Маленькі, ледзь бачны,
І прызямліўся —
Ды як жа ж удачна!
Трапіў дакладна
У кветкі глячок,
Дзіўная малеча,
Дзіўны павучок!

*1969*

* * *

Я з дня і ночы спарышоў
Нагбом піў і не без карысці.
Цяпер — пайду, адкуль прыйшоў
І адпачну сабе да прыйсця.
І стану зноў у вечны круг,
У вечны круг, у круг замкнёны,
Для новых радасцей і скрух,
Каб слухаць песні і праклёны;
Каб зноў на іншых наракаць,
Сябе самога вінаваціць,
Інакш і гэтак жа кахаць,
Каб зноў знайсці жыццё і страціць.

*1969*

* * *

Ізноў дажджы... Ізноў дажджы!..
І трэба ж быць такім няўдахам,
Як гэты жнівень! Не бразджы,
Не гамані ты, кропля, з дахам!..

А дожджык з кропляў, знай, прадзе
Цяжкія шэрыя валокны...
У ранняй восеньскай бядзе
Не то зямля — душа прамокне.

*1969*

* * *

Як дыхне, павене
Сівер-вецер з рання...
І няма збавення,
І няма адхлання.

Вып'е доле росы,
Туманы разгоніць,
Да бярозак босых
Злосна загамоніць.

Не ўцячы ім, белым,
Не ўцячы у свет ім —
Немым і самлелым,
Дагала раздзетым.

*1969*

* * *

Ох, жыццё, жыццё!..
Як ты мяне вярэдзіла,
Шкуматала,
Трапала,
Кідала;
Якія пасткі на маім шляху ставіла!..

Кпіла,
Пасміхалася,
Салодкія хвіліны—горыччу прыпраўляла,
Раны мае соллю пасыпала;
Дні і ночы, ў словы пералітыя,—нішчыла.
І цяпер, калі час мой прыцьмеў,
А смутак мінулы і радасць мінулая
У нейкі дзіўны сплаў злітаваныя,—
Засталася ўсмешка,
Горкая і ласкавая ўсмешка.
Ці не занадта ты любіла мяне, жыццё!

*1969*

* * *

З гадамі мы сталеем і старэем.
Глядзіш —
і Мудрасць ступіць на парог.
Ды толькі...
Дзіўна неяк, далібог:
Прыйшла,
а мы яе
ўжо не разумеем.

*1969*

* * *

Нясём мы, стогнучы, з адчаем,
Не больш, як можам мы панесці,
І роўна гэтулькі ўмяшчаем,
Колькі нам дадзена умесціць.
І аддаём (не пазычаем,
Бо мы не скваппы на аддачу)
Не больш таго, што самі маем,
Але заўсёды на прыдачу,
Хоць людзі і не заўважалі,
Сябе мы кідалі на шалі.

*1970*

* * *

Гляджу ў акно, у сад я ўсхвалявана,
Дзе дрэвы, ўжо зялёныя такія,
Стаяць шумлівыя і трапяткія,—
Вясна прыйшла зусім неспадзявана.

Чарэмху, бэз штогод я сустракаю,
Як навіну, бы першы раз угледзеў,—
Ці не праз іх ласкавей я вітаю
Сваіх сяброў, знаёмых і суседзяў?..

Пачуцці, што паспелі прытупіцца
За доўгі зімак, абудзілі кветкі...
О, несмяротнасці і аднаўлення сведкі,
Як добра вашым водарам упіцца!

*1970*

* * *

Цяжка з табою, бессмяротная душа чалавечая!
Цябе аддаюць і прадаюць д'яблу,
І ты пакутуеш у вечным агні пекла,
Як гэта сталася з душою пана Твардоўскага;
Цябе ўзнімаюць анёлы ў сферы нябесныя,
І ты радуешся ля столу божага,
Як гэта было з душою Фаўста...
А ты ўсё застаешся самой сабою:
Заўжды ў радасці, заўжды ў пакутах,
Заўжды грэшная, заўжды невінаватая.
І няма табе міру, і спакою няма табе.
І зноў, і зноў ты вяртаешся да нас,
Прайшоўшы ўсе дзевяць кругоў смутку
І ўсе радасці сямі нябёсаў,
Да нас вяртаешся ў вечнай прагнасці сваёй,
Бо дзе яшчэ, як не на зямлі,— пекла горшае,
І дзе рай святлейшы, як не на зямлі,
Бессмяротная душа чалавечая!

*1970*

* * *

Песня... Дзяўчына... Ану падцягну!
Песня, дзяўчына гукаюць вясну.

Дрэва... І вецер... Ану страсяну!
Дрэва і вецер гукаюць вясну.

Длубае дзяцел упарта сасну...
Длубае дзяцел — гукае вясну.

Трактар у полі арэ цаліну...
Трактар грукоча...
гукае вясну.

Ўсё прачынаецца ўвесну ад сну...
Чуеш,
народ мой гукае вясну!

*1970*

* * *

Я погляд сустрэў
непрыязны, калючы...
Адразу на сэрцы
балюча, балюча...
Дзіцёнак і котка...
«Не трэба, не мучай!»
Дзіцёнак смяецца...
На сэрцы балюча...
Зламанае дрэва.
Аголена суччa...
Нібыта і глупства,
а сэрцу балюча...
Не слова людское,
а пошапт гадзючы
Часамі пачуеш...
На сэрцы балюча...
Нянавісці гронкі...
Нахабнасці струччa...
Злаба і пагарда...
На сэрцы балюча...

На ўсё б гэта трэба
вадзіцы гаючай!
А дзе яе возьмеш?
На сэрцы балюча!

*1970*

* * *

Корань дрэва
вада поіць,
Але часам
падмывае.
Рану сэрца
мара гоіць,
Гоіць,
а бывае,
А бывае,
мара — кара:
Нішчыць,
забівае!

*1970*

* * *

Заірдзеў дзівосна
Яблык ананасны,
Я ступіў у росны,
Шумны сад калгасны.
Бы рака ў разліве,
Воддаль льецца песня.
Спелае каліўе
Кідае чарэсня.
Сцежак, троп карункам
Між кустоў упролаз,
Я пайшоў кірункам
На дзявочы голас.
Крочыў не багата —
Нейкую хвіліну,—
Ды пакуль я шатаў
Не прыўзняў галіну.

Ўбачыў гэткім чынам
Грады па прагаллі,
Дзе хлапец з дзяўчынай
Ягады збіралі.
Спелымі клубніцамі
Смачна частаваліся...
Ці здалося? Быццам бы
І пацалаваліся!
Вецце дрэў прыціхлых,
Ад цяжару ніцых,
Я зраніў над іхняй
Светлай таямніцай.
Чуў, услед з дасадай
Мне гукнулі строга...
Рушыў я ў глыб сада
Торнаю дарогай.

*1970*

## АМАЛЬ САМАКРЫТЫЧНАЕ

Аднойчы ішоў я сабе задумёны,
Глядзеў навакола, на ўсё, як староннi,
І раптам натоўп нейкі перада мною —
З усёй сваёй праўдай, з усёю маною.
Цікавая справа — людская шматграннасць,
І ўвесь я — увага, увесь я — стараннасць.
Пачуцці людскія бываюць прыкрыты
Прыгожаю вопраткай, густам і спрытам,
А гэты натоўп, хоць апрануты — голы...
Ды гэта ж знаходка, знаходка, псіхолаг!
Вось мытар біблейскі—б'ючы сабе ў грудзі,
Ён каецца, каецца: «Грэх на мне, людзі!»
А заўтра зноў гэты нязмылены змылак
Награшыць і новых наробіць памылак.
А гэты нагадвае мне фарысея.
Пагарду і пыху здабыў пакрысе ён —
Не гэтакім зналі калісьці яго вы,
Тады, калі іншым ён сам прыслугоўваў!
І колькі ў ім дрэні, у тым фарысеі,
Каб хто яго ўзяў ды на сіта прасеяў!

А той вось, здаецца, разумны, цвярозы,
А ён на вяселлі ракою лье слёзы
І скача, пяе на памінках халтурных,
Нібыта прыйшоў ён з той казкі аб дурнях.
А той, геніяльны,— на шмат што ён квапіць,
Ды дзіркаю дзірку ніяк не залапіць.
А гэты, эстэт, без сучка, без заганы,
А гэты ў самога сябе закаханы.
А побач — гарэза, блазнота, шкаляр.
А далей — стары, што глынуў цыркуляр!
Адзін аднаго падмінае і мне!
А гэты натоўп... не ў табе, не ўва мне?

*1970*

## ПАРТРЭТ

Усмешка назаўжды забытая на твары —
Як калі для каго: ліслівая, абыякая,
халодная,
Гострыя канты адпрасаванае пары...
Гальштукі, заўсёды новыя і заўсёды модныя.
Болей маўчыць, але маўчыць адмыслова:
Усё, маўляў, глупства, нішто не вечна,
А слова хоць срэбра,
але не верабей — слова.
Маўчанне — золата, адзнака розуму,
І наогул — бяспечна.
Думкі свае хавае і перахоўвае.
Зброя яго — цнатлівасць галубіная.
Цішком ды трушком...
Вучыць, выхоўвае
Жэстам, ухмылкай, стрыважанай мінаю.
Крывіцца, выскіляецца —
кепікі ды кіпікі!
А часам сарвецца і... выбухае!
І тады пачынаюцца такія філіпікі!
Усё абплюе,
абрыгае,
аблае!
Вулічны пылок на ім не асядзе.
Вецер не паставіць валасы дыбка:

Гэткае
          адмысловае пазаддзе,
Гэтакі кшталт
                    драпежнага галубка!
Скажаце:
            чалавек без усякага гучання,
Скажаце:
            такі — ні рыба ні мяса!
Бо што такое, напрыклад, маўчанне?
Ці траціць ад яго
                        працоўная маса?
Балазе што трымаюць такога ў вальеры,
А бывае, пратышчыцца і з яе...
І тады ён бярэ такія бар'еры,
Што дзівішся проста:
                          ну і дае!

*1970*

## НА КРУГІ СВАЯ

Час... Ён горы рушыць,
Час каменне крушыць —
Крушня застаецца.
Час цячэ, імклівіць,
Час ідэі жывіць —
Вечныя, здаецца.

Час апавядае,
Песню час складае —
І яе спяваюць!
Позна а ці рана —
Песня даспявана!
Песню забываюць.

Скончыць круг свой гонкі
Час — жыцця старонкі
Зноў назад гартае.
Лепшыя здабыткі —
Даўнія забыткі
З забыцця вяртае.

*1971*

* * *

Ці бачылі натоўп вы калі-небудзь,
Дзе людзі наперад імкнуцца,
прабіваюцца, пралазяць.
Адны — ласкава, ціхенька,
Каб, божа барані,
Не замінаць каму, не перашкодзіць.
Другія — пруць нахабна, штурхаюцца і пнуцца,
Працуючы рукамі, локцямі, плячыма,
А трэція — навальваюцца ўсім сваім цяжарам
І падштурхоўваюць пярэдніх,
падпіраюць, падпінаюць.
Чацвёртыя — павольна адыходзяць...
«Дзе там! Маўляў, і спрабаваць няварта —
не далезеш!»
А некаторыя з іх тышчуцца, ныруюць,
Знікаюць, каб пасля ўсплысці на паверхню.
Ёсць і такія, што стаяць цярпліва, нерухома,
Чакаючы, пакуль хто з ласкі вызваліць ім
месца.
Якія ж яны розныя, нясходныя, адменныя!
Якія ж не падобныя да іншых, непаўторныя!
І мыслі прабіваюцца праз свой натоўп, як людзі,
Як людзі і яны — стракатыя, нязвычныя,
Зласлівыя, нервовыя, гуллівыя, хлуслівыя,
Пустыя, сарамяжныя, благія, добрыя.
І ўсе да мэты мкнуцца, да запаветнай мэты!
А мэты... Таксама розныя бываюць мэты!

*1972*

* * *

Я такі, як і ты, як другі...
Чалавек, што жыве і трапеча.
Можа, я і зусім не благі,
Можа, добры якраз чалавеча.
Можа, трэба часамі ўлічыць
Акалічнасці — гэта і тое,
Бо ўва мне і маўчыць і крычыць
І праклятае і святое.

*1972*

* * *

Розум і сэрца падказваюць — не,
А вусны сцвярджаюць — так!
Калі ты патураеш мане,
Які ж ты да д'ябла мастак!

Карункі прыгожых слоў,
Як ты іх ні пляці, ні вяжы,
Расплятаюцца зноў і зноў —
І не звяжаш канцоў ілжы.

*1972*

## КАЛЫХАНКА

Пайшоў каток пад масток,
Злавіў рыбку за хвасток.

А з катком і мой сынок
Злавіў рыбку ў нераток.

Каток хоча рыбку — гам!
Ды катку я не аддам!

Нікому не пакажу,
А сыночку засмажу!

Люлі, сынок, люлі — спаць!
А я буду калыхаць.

Спіць ужо і твой каток,
Спі, засні і ты, сынок!

*1972*

## ЦЕНІ

Чалавек па белым свеце ходзіць,
А за чалавекам — цень, і дзень пры дні
Аніяк збавення не знаходзіць
Чалавек ад чорнае радні.

Скрозь і ўсюды — цені, цені, цені,
Чорныя, як першародны грэх.
Здзейсніць бы жаданні ўсе, хаценні,
Каб было ўсё белае, як снег.

Нешта вымысляеш ты, паэце,
З'ява цень — звычайная удзень:
Не было б святла на белым свеце,
Дык адкуль узяўся б гэты цень?!.

Здзейсніць твае мары немагчыма.
Хіба сонца хочаш пагасіць?
Глянь на ўсё інакшымі вачыма,
Здолей зразумець і ацаніць.

Толькі як належыць ацаніць іх —
Справы, і пачуцці, і людзей.
Наша сонца сёння — у зеніце,
Значыцца, і цені карацей.

*1972*

## ПАРАДОКС

Ты мне ілжэш у вочы.
На твары тваім — вясёлая ўсмешка.
З вуснаў кропля па кроплі
Сцякае сіроп — ліпкі, прытарны.
Мяне пачынае нудзіць.
Ілжа — заўсёды салодкая.
Нават святая ілжа.
Хіба што ад яе не нудзіць,
Бо ведаюць і даруюць.
Ты мне рэжаш праўду-матку.
Аблічча тваё — збянтэжанае і смутнае.
Вусны сухія, падцятыя.
Ад слоў тваіх патыхае палыном.
І я нутром адчуваю горыч іх.
Праўда — заўсёды горкая.
Нават святая праўда.

Хіба толькі... Але не —
Ведаюць і не даруюць.

І ўсё ж такі
салодкая — праўда.
І ўсё ж такі
горкая ілжа.

*1972*

* * *

Прыходзьце, людзі добрыя, прыходзьце!
Стукайце ў дзверы маёй хаты.
Мацней, мацней стукайце,
Калі я не адразу пачую вас.
І я адчыню вам,
З радасцю адчыню вам.

Прыходзьце, мыслі добрыя, прыходзьце!
Стукайце ў мой мозг.
Не бойцеся зблудзіць у яго лабірынтах.
Для вас заўсёды знойдзецца ў ім
Утульная каморка.

Прыходзьце, пачуцці добрыя,
прыходзьце!
Стукайце ў маё сэрца.
Я не пераблытаю стуку сэрца
З вашым стукам.
Націскайце на ўсе яго клапаны.
І маё сэрца адкрыецца вам.

Стукайце,
Стукайце,
Стукайце!..
Пакуль я магу адчыніць вам...

*1973*

* * *

З патаемных віроў, з глыбінь,
Дзе ўсё дрэмле вякоў дзічынка,
Б'е і б'е каламутная плынь
Падсвядомых, дзіўных учынкаў.

І, бывае, гук песні жывой
Скаламуціць паток глыбінны —
І пачуецца хіжы вой
Замест радасці галубінай.

Як знайсці ў сабе дужасць, гарт,
Як падолець цяжар сумнення,
Каб адчуць, што ты часу варт,
Што жывеш не адно імгненне?!.

*1973*

* * *

Бывае, сум агорне, змога,
А дзень за днём — паўзе з начы...
Куды мне бегчы ад сябе самога?
Не, ад сябе самога не ўцячы?

Ты кажаш мне: «Пакінь дзівачыць
І лепей смейся, а не плач!
Не можаш свет пераіначыць,
Дык сам сябе пераінач!»

А як сябе пераіначыць,
Калі ў табе таксама свет?
І для цябе ён столькі ж значыць,
Як і бязмежнасць, як сусвет!

І, можа, ісціна у гэтым
І мэта — ў вечнай барацьбе
Твайго маленечкага свету
З тым, што не змесціш у сабе?

*1973*



## НА ШАШЫ ЭНТУЗІЯСТАЎ

Пока свободою горим,
Пока сердца для чести живы,
Мой друг, отчизне посвятим
Души прекрасные порывы.

*А. Пушкін*

**Святло нязгаслае — Айчына!
Табе мой спеў, мая хвала.
Ты й пад злямцованай аўчынай
Сябе ў вяках не пазбыла.
Бяда, ды не бяда — бядзішча,
Хто што ні возьме, ні кране.
Ці мыслімы былі Радзішчаў,
Шаўчэнка ў гэтай старане,
Дзе ўсё на фальшы збудавана!
У царстве глуму і спадмана
Для сэрца дзейснага, жывога
Была адзіная дарога...**

**Санліва, цьмяна, бездыханна —
Ледзь тлее ў цемры каганец...
Калі ж і з'явіцца ганец
Ў надзел тутэйшых багдыханаў,—
Ганец з нязвычным словам шчырым,
З нязнанай будучыні, з кроз,—
Глядзіш: у далячынь Сібіры —
Прасторай неабсяжнай скрозь —
Жалезам грымне, ў ночы кане...
І зноў туга, і зноў чаканне.
Але струмень жывы, бруісты —
Калі, калі не клекатаў!
На пляц выходзяць дзекабрысты
Пад пахавальны гук літаўр;**

Званар з далёкае званіцы
Няспынна б'е трывогу ў звон,—
Вяшчуе буры, навальніцы,
На подзвіг кліча, гоніць сон...

Яшчэ убоства, шал і згуба,
Але акрэслен цемры скон —
Тургенеў, Лунін, Дабралюбаў,
Няіставы Вісарыён...
Якія светлыя імёны
Цяжар ускалалі на рамёны
І, часта гінучы пад ім,
Нам пакідалі запаветы,
Як жыць, змагацца і да мэты
Прыйсці жывым і маладым.

А ў пецярбургскі ранак хмары
Ці ведалі, каго ссляпа
Прыцвікавалі да слупа
Смяротнай грамадзянскай кары!
Пакуль халопствалі месіі
І кат над ім ламаў лязо,
Ён бачыў прышлы час Расіі,
Таму не горкаю слязой
Сустрэў ён у Сібір дарогу,
А вераю у перамогу.
Радзеў натоўп. На плошчы ўнылай
Застаўся толькі чорны слуп,
Як здань, як абгарэлы труп,
Як сімвал самаўладнай сілы...
У мжы растаялі: карэта,
Жандары, конніца... услед
Спяшалі людзі... нехта кветак
Кідаў, спазніўшыся, букет:
— Да пабачэння, Чарнышэўскі,
На берагах свабодных неўскіх!

Багата з мужнаю душою
Прайшло Ўладзімірскай шашою
І знікла ў цемрадзі начы,
Вітаючы і клянучы
І свет, і лёс, і гэты пуць.
А ўсё ідуць... А ўсё ідуць...
Барацьбіты народнай волі —

Надзея кволая пары —
І непрыгбаныя ў нядолі,—
За люд гаротны змагары —
Нашчадкі Разіна Сцяпана
І Пугачова Емяльяна.
Шчаслівы пуць! Пракляты пуць!
Ідуць... Вітаюць і клянуць.
Не, не, жахаючыся смерці,
А гледзячы ёй мужна ў твар,
Прайшоў бясконцы лік ахвяр,
І часу іх слядоў не сцерці.
І зноў шалее вораг люты,
І рушаць зноў шляхам пакуты,
Жалезам кайданоў закуты,
Ідэі верныя сыны,
І сняцца лепшыя ім сны.

. . . . . . . . . . .

Не, ўжо не здань, не прывід-сненне,
Цьмяны і хісткі, як туман,
І не надзей самаспадман,
А мары велічнай здзяйсненне.
О, барацьба! О, перамога!
І не палохае дарога
Людзей з іх верай у сябе.
Ніхто іх з тропу не саб'е,
Ніхто адданасці не скрушыць.
Яны ўваходзяць у вякі.
Ідуць, ідуць бальшавікі,
Што іх штурхае? Што іх рушыць?
Якая сіла іх вядзе?
У іх чаканенай хадзе —
Гаспадары, не катаржане.
Кастрычнік. Свет стары — на тло.
Апошні раз на адвітанне
Махнула ноч крылом кажаннім.
Няхай жыве святло! Святло!

1

«Ля лукамор'я дуб зялёны.
Ланцуг на дубе залаты.
І днём і ноччу кот вучоны
Па ім снуе сюды-туды».

Не спіць дзіцёнак, пазірае...
Дрымоту казка прэч жане.
Над ім схілілася старая
У старасвецкім шушуне.
Святло ледзь цепліцца ў каморцы,
Ля абразоў ліловы змрок,
Скрабецца недзе ў цёмнай норцы,
Бы неўнікнёны лёс, шчурок.
А нечаканыя падзеі
Тугім заблытаны вузлом —
Няма ні выйсця ні надзеі —
Дабро змагаецца са злом.
Ад хвалявання шэрхне цела:
Праўдзіва казка паначы!
Маленькаму ж так і карцела
Ўмяшацца і дапамагчы.
Дзеля дзіцячай моцнай веры
Зла пэўна ўзлётае вага:
Царэўну воўк ратуе шэры
І баба добрая Яга.
Ды ці не тая, што цярпліва
Тхне ціхай дрэмай у чало?..
Салодка-соннае мёд-піва
Ля вуснаў Сашыных плыло.
І дагарае чадна свечка.
І ў норку коціцца клубок;
Ад кадубка згубіўшы вечка,
Складае нянька ў кадубок
Недавязáную панчошку,
Гняздзечка нітак і пруткі,
І падыходзіць зноў да ложка,
І ціха слухае ўкрадкі:
Як дыхае ён, ці не цяжка,
Аб чым ён трызніць, што ён сніць? —
Яе маленькі слаўны Сашка —
Катка, Кашчэя ці сініц?
Так пачыналася дзяцінства,
Нам любае на схіле год;
Дзяцінства! Смеху, слёз адзінства,
Лятункаў час, пара прыгод.
Так адмыкала казка дзверы
У незнаёмы белы свет,
А справядлівасць веры й меры
Пазней сам вызначыў паэт.

Што добра — ўзяў. Што блага — кінуў.
Дабру ў карысць і злу на зло
Па ветры высеяў мякіну,
А зерне — ў глебу, каб расло.
. . . . . . . . . . . . .
Вясна. Масква. Замаскварэчча.
Птушыны несціханы грай.
Татарын, паўжабрак шахрай
Пяе: «Куплю старыя рэчы...»
Туга шарманкі. Чарнарызнік
Збірае грошы для царквы.
Клянецца й лаецца рамізнік.
Штукар хавае ў рукавы
Няхітрыя прылады дзіва
І, падлічыўшы бедны куш,
Глядзіць сур'ёзна і маўкліва
У свой дзіравы капялюш.
Смяецца брухам Сіла Псоіч.
Гудзе ўстрывожана кабак.
Ток п'яных слёз ліе паповіч
У атачэнні разявак.
Маўчаць бяздомныя сабакі
На сыты брэх дваровых псоў,
Што ад зладзея і бадзякі
Замок пільнуюць і засоў,
Паркан высокі, двор багаты,
Злачынны лад, смуродны быт,
Купецкія харомы-хаты,
Барыш іх, працант, попыт, збыт.
Сюды, ледзь вольная хвіліна,
Да дальняй нейкае радні,
Ці да знаёмай праскурні,—
Прыходзіла з малым Арына.
Пачаставаўшы Сашу сайкай,
Сваяк Арынін Адрыян,
Калі не быў залішне п'ян,
Іх пацяшаў вясёлай байкай.
Звычайна хмурны трунары,
А гэты, хоць і быў трунар,
Але свавольнік і лухтар;
З пылком, як чмель, на каўняры,
З сасновай залатою стружкай
Ў капне агністых валасоў,
У шчэці барады, вусоў;

З шырокаю натурай рускай,
З вясёлых прыказак запасам,—
Які ён разам выкладаў
(Ці хто жадаў, ці не жадаў)
Прыемным сіплаватым басам.
Страшны — п'яны, цвярозы — ціхі,—
Адзін меў грэх трунар: жадаў
Скanання Трухінай купчыхі.
(Пасля убачым, ці прыждаў!)
Нябожчыкі б ляжаць павінны
Ва ўтульных моцных дамавінах
Без скарг якіх на трунара,
Пакуль не прыйдзе іх пара
І ў дудку анел не засвішча
Пачатак страшнага судзішча,—
Бо памінаў іх адмыслова:
Гарэлкай з перцам, моцным словам.
Ляжаць бы ім, каб нечакана
Не патрывожыў «там-той свет»,
Паклікаўшы да Адрыяна
Іх на ўваходзіны паэт,
Далей што здарылася з імі...
Але пра ўсё гэта пазней,
А зараз, ці ж сядзець з старымі,
Калі над хатай кружыць змей,
Чуваць дзятвы вясёлы крык,
І смех, і плач, і свіст, і гік.
І покуль ставіцца пукаты
Загрышпанелы самавар,
А няньку клічуць да гарбаты
І трунарыха і трунар,—
Маленькі крадзецца у сёнкі,
Адтуль на ганак і на вонкі
Ляціць и імклівасцю стралы,
Каб распачаць там назіранне:
Што, дзе і як, чаму, калі...
Пакуль ўстрывожаная няня
Не схопіцца: «а дзе ж малы?»

. . . . . . . . . . . . .

На Мохавай, Цвярской, Басманнай —
Прыстойнай сціпласці узор:
Гучанне звонкіх срэбных шпор,
Вычварнасць моднага убрання,

Пранонс сапраўднейшы французскі,
Расійскай мовы абарот
Нялюдскі і зусім не рускі;
Арапаў, карлаў дробны зброд
І тушы гайдукоў сажэнных
Каля дзвярэй асабнякоў,
Дзе ў кожным камені Бажэнаў,
Ухтомскі альбо Казакоў
Людзям для добрага ўспамінку
Сябе пакінулі часцінку.
Сюды з Уздзвіжанскіх завулкаў,
З крывых Арбацкіх тупікоў,
Скрозь разлягаючыся гулка
Скорагаворкаю падкоў,
Даўгім запрэжаныя цугам
Карэты рушаць рысакі,
Слухмяныя фурманскім пугам,
Як жэсту панскае рукі
Слухмяны самі фурманы,
Як у сваю чаргу паны
Слухмяны цалкам найвышэйшай
Манаршай волі аўгусцейшай.
Ў адзін з такіх дамоў-палацаў
У дні сямейных нейкіх свят
(Бо нельга ж сапраўды цурацца
Фамільных векапомных дат
Ці занядбаць такія дні,
Не зневажаючы радні!)
З'яўляўся сам Васілій Львовіч,
З няхітрым жарцікам жывым,
З сваім пляменнікам малым,
З драбнюткім бісерам размовы.
Смуглявы хлопчык кучаравы,
Калі ляны, калі рухавы,
З агнём у поглядзе дзівосным —
Багата знаў і разумеў
І дрэнны часам звычай меў
Пытанні задаваць дарослым,
Каб, атрымаўшы іх адказ,
Аналізам дакладна, ўраз
Яго абвергнуць дасканала...
І раптам «ісціна» канала,
Дарослы выглядаў убога,
І, павярнуўшы ад варот,

Ператвараўся у малога,
А той якраз наадварот.
Ім любаваліся, хвалілі,
Па-вундэркіндаўску галілі
І , апрануўшы пачысцей,
Займалі ім сваіх гасцей,
А зрэдку і з сабой вазілі.
Ды з цягам часу ўсё часцей
Збянтэжана нейк адступаўся
З гаспадароў хто ці з гасцей,
Нейк прымусова усміхаўся
Пасля не вельмі ўдалай спробы
Пагутарыць жартоўна з ім,
Як звычна гутарыць з малым;
Відаць, было не даспадобы,
Што хлопчык разумеў «завельмі»,—
Не-не, дый праўду ў вока стрэльне —
Што не прымаў жаванай кашкі —
Хоць сам ты еш яе бяры,—
Што зубы мудрасці у Сашкі
Прарэзаліся да пары.
Паэт Васілій Львовіч Пушкін
Быў задаволен, хоць трымаў,
Як кажуць, «на макушцы вушкі»
І захады свае прымаў.
Калі было ужо «занадта»,
Славуты майстар эпіграм
І слоўка краснага аматар,
Улезшы у размову сам,
Якімсьці позіркам адменным
Спыняў задзёр хлапца суздром.
Маўкліва хмурыўся пляменнік,
А дзядзька рагатаў нутром
І, паўшчуняўшы па дарозе
Дамоў — за розум ці за дур,—
Назаўтра ж да сяброў завозіў
Бязгрэшны Сашаў каламбур.
З маленства шлях паэта коўзкі.
Ён пачынаў свой шлях, бо з ім
Пазналіся тады Жукоўскі,
Крылоў, Хяраскаў, Карамзін.

2

На Русь нахлынулі французы.
Масквою трызніць Банапарт.
Забыты гульні, вершы, музы —
Ліцэй дзяжурыць каля карт.
У гучным вымысле рэляцый
Бяда стаілася цішком.
Маўчаць злавесна у палацы,
А чуткі страшныя бяжком
Бягуць па гарадах, па сёлах...
І сеюць жах, і сеюць сполах.
Заняткі ў класах занядбаны.
Ліцэй, як вулей ўзімку, сціх.
Учора ўранні барабаны
Трывогай абудзілі ўсіх.
І Саша, ў плошчу закаханы,
Глядзіць нібы зачараваны.
А там — драгуны і уланы —
За ўзводам ўзвод, за ротай рота...
Услед ім рушыла пяхота.
Прайшлі сталічныя ўлюбенцы,
Нібы зазвычай на парад —
Сямёнаўцы, прэабражэнцы —
Расіі лепшыя палкі;
Прагарцавалі казакі,
І вецер паласкаў на дзідах
Іх каляровыя сцяжкі.
А далей — стрэльбы ў пірамідах,
І нерухомы і цяжкі
Застыў пад вернаю аховай
Абоз з маёмасцю вайсковай.
О, як цікавіць гэта кладзь!
І Сашу там абавязкова
Патрэбна будзе пабываць.
У мгненне вока ён і Пушчын
Згубіліся ў салдацкай гушчы.
Спярша ўглядаліся ціхутка,
Але асвойталіся хутка
І паказалі раптам хватку
І кемнасць рускіх хлапчукоў,
Скатаўшы шынялёк у скатку,
Ды так, што люба! Барчукоў
(А барчукі на сёмым небе!)

У прыклад ставіў сам фельдфебель.
І нехта з бравых грэнадзераў
Слязу на хлопчыкаў зраніў,
І нехта ківер свой прымераў,
І нехта крыжам блаславіў.
Усё: і смех іх грубаваты,
І зухаваты добры жарт,
І той задзёр, і той азарт,
З якім на фронт ішлі салдаты,
Давала месцейка надзейцы,
Што ворага змятуць гвардзейцы.
Мінай жа, час! Чаканне — нудна.
Няпэўнасць — горшая з пакут.
А час знарок паўзе марудна
Бяскрылай саранчой мінут.
Мінай жа, лепшы ці горшы!
І ўрэшце лёс нам паспрыяў.
Пасля баталіі ля Оршы
Душою Саша акрыяў.
Зноў эпіграмай вострай свішча,
Зноў змова (Дэльвіг, ён, Жано),
І Кюхля — беднае казлішча,—
Каму праз лёс цягаць дано
Сяброўства груз,— рад ці не рад —
Вітае іх трыумвірат.
Аднак бяда каля Смаленска
Была адчута ўсім нутром.
Прайшла пара, пара маленства,
Юнацтва надышло суздром.
Вастрэй адчулася знявага,
Мацнейшай стала помсты прага.
Ён навучыўся разважаць,
І зневажаць, і паважаць.
Барклая падмяніў Кутузаў
(Барклай — прычына ўсіх няўдач).
Цяпер пачнем мы біць французаў
І далей адступаць — прабач:
Прабіў юнацтва час, хаця
У ім жыло яшчэ дзіця
З усмехам шчырым і вясёлым,
З бярэмцам запаветных кроз,
З капрызам, норавам, з расолам
Салона-горкіх едкіх слёз.
І Саша марыў пра пагоны,

І трызніў шабляю, ружжом.
Патайны замысел ягоны
У зрэнках выбухаў агнём;
Яму б вось пабываць на фронце,
Дзе супраць раці стала раць,
Дзе на жыццё і смерць стаяць
Расіі-маці абароны.
О, ён бы ўсё пераіначыў!
І плача, плача паначы,
Каб слёз бяссілля хто не ўбачыў,
І вырашае уцячы.
Маленькі, мужны летуценнік!
Ён сёння запісаў у дзённік:
«Ці са шчытом, ці на шчыце...»
А гэту вільгаць на шчацэ
Як ворага ён ненавідзіць
Або як гэты важкі груз
Мянушкі, ад якое гідзіць:
Не, лепей «малпа», як «француз»!
Паверыць чуткам не хацелі,
Што Банапарт ужо ў Маскве.
Пакуль душа жывая ў целе,
Датуль надзея ў ёй жыве.
Шукалі нейкай панацэі...
Сумненні ўсё часцей, часцей...
І дачакаліся ў ліцэі
З маскоўскіх попелішч гасцей.
Цяпер сумненне немагчыма.
Масква мая! Мая Айчына!
Каменне цёплае руін
Тваіх палацаў і святынь
Хто абгалосіць?
Хто абплача?
Хто пакарае варагоў?
Хіба ў адказ груган пракрача
З чужых штандараў і сцягоў...

. . . . . . . . . . . . . . .

Вачэй маўклівае пытанне
Не парушае цішыню.
Як страшна іх апавяданне!
Праўдзіва сведчанне агню,
Якім абпалена Радзіма,
Сагрэт хвілінны холад душ.

Прабіла пэўная гадзіна.
Народ устаў — магуцен, дуж.
Праз дзень, ад самага ад рання,
Уражаны апавяданнем,
Тугі не можа ён пазбыцца
І ў сне на яву не забыцца.
Перад вачыма стаў малюнак:
Паночы, ў бездараж-дарог,
З кавенькай, за плячыма клунак,
Не чуючы здранцвелых ног,
Ідзе старая. Гэта маці.
Чыя? Усіхная. Яго.
Пайшла яна? Дзеля чаго?
Куды ідзе? Каго шукаці?
Край неба ледзьве-ледзьве жары,
І ад таго наўкольны змрок
Чарнейшым успрымае зрок.
Не здолен ён працяць абшары,
І гэту ноч, і гэту мжу,
Ён толькі прадчуе пажары:
Страшную полымя мяжу,
Руды куродым смолі, гары,
Бляск хуткіх выбухаў ірдзяных —
Агнёў, агеньчыкаў, агнішч,—
Нібы рухомы жар мядзяны
Ды тло ружовых папялішч.
І Саша чуе стогны, енкі
І бачыць... поле перад ім.
Спыніліся. Узмах кавенькі...
Тужлівым поглядам сваім
Старая ўсё глядзела ўперад,
У мёртвым, жудасным ашчэры
Убачыў ён перад сабою
Ў святле блакітным месца бою.
«О поле, хто цябе ды хто
Тут мерцвякоў касцьмі засеяў?»
Дык вось куды, але пашто?
Яго паклікала Расея!
Гарачай хваляй непакою
Б'е ў мозг яго: Барадзіно!..

. . . . . . . . . . . .

Па крык з суседняга пакою
Прыбег узбуджаны Жано.

У дзверы дзядзька калідорны
Прасунуў сівы хахалок,
Прарэзліва гучаў паўторны
Вясёлы ранішні званок.
Мінула ноч. Дзінь-дзінь, дзінь-дзень.

3

Ліцэй вітае новы дзень.
Прыйшла пара ліцэйскім птахам
З гнязда на волю вылятаць,
Крыла яшчэ няпэўным махам
Блакіт нязнаны рассякаць.
Так, кожны ўласны лёс сустрэне:
Той, апрастаўшы келіх свой,
Пад сцень фамільнага скляпення
Да продкаў прыйдзе на спакой,
Другі ў Італіі спачыне
У росквіце юнацкіх год
(А мірты ўсё ж не на айчыне
Бярозак белых карагод!),
Той, служачы сумленна ў войску,
Не зносіць буйнай галавы,
А той на катарзе ў Табольску,
Згадаўшы берагі Нявы,
Або ў глыбокай цёмнай рудні,
У безнадзейнасці начы
Смерць прывітае, клянучы
Яе, адно, за крок марудны.
А покуль час прыйшоў збірацца.
Сігнал пададзен у паход;
Вучоным, воінам, дарадцам —
На поўдзень, поўнач, захад, ўсход —
Ляглі шляхі. Чаго баяцца?
Мінае ноч. І ўжо відно.
Шчэ доўга ім пераклікацца...
Што ж смуцен ён, каму дано
Жывой і цудадзейнай брагі
Для іншых наліваць карэц,
Не ўтаймаваўшы ўласнай смагі,
Агнём паэзіі гарэць?..
Што ж смуцен ён? Не гэтак проста
Губляць братоў, таварышоў;
Сачыць, як рвецца ніць сяброўства,

Калі, ён ведаў, надышоў
Ягоны час і трэба брацца
За справу і другіх склікаць,
Бо хопіць ім пакуты, працы,
Бо нельга, нельга больш чакаць!
Сярод чужога яму тлуму,
Што пасвіцца пад батажком,
З кім здзейсніць ён сваю задуму,
Ім пеставаную цішком?
Хто дапаможа у пачыне?
Дзе гэта моц? Дзе гэта раць?
Калі так пуста на айчыне,
Што льга па пальцах перабраць
Усіх, яго увагі вартых.
Ды як пазнаеш, хто з іх варт!
Не, мала мужных і упартых!
Каму — жыццё не больш як жарт,
Каму — цяжар,— дадзела ношка,
Змарыўся, а ідзе... ідзе...
За крокам крок, ціхом, патрошку,
Пакуль на дамавіны дошку
Не ступіць і не упадзе.
А іншых вабіць навальніцай
Пачуццяў кволая сутонь;
Чароўная ім выспа сніцца,
Дзе цішыня, дзе таямніца,
Дзе непарушна ўсё па скон;
І посуд нібыта любові
Пранесці хочуць стараной,
І кожны з іх адчаю повен,
І кожны з іх — няпэўны човен,
Што страціў ветразь і стырно.
Не, небагата іх — абранцаў
Са шчырай рускаю душой...
Той не гатоў, той не дайшоў,
Той пад уладай балаў, танцаў,
Той ні халодны, ні гарачы —
Пра гэткіх, пэўна, неіначай,
«Зірні й прайдзі»,— сказаў паэт
Другому ў страшным царстве ценяў;
Так, Дантэ праў, жахлівы свет
Без мэты, барацьбы, хацення!
Што іншаму Радзіма, мова,
Якую ён не разумеў?

І роднае жывое слова
З іх кожны б знішчыў, каб прымеў.
Той — палахлівы, нібы заяц,
Злачынца — той, той — абібок...
І грудзі матчыны кусаюць,
Ледзь-ледзь прарэжацца зубок.
Але паэту ўсё магчыма,
Так, нават мёртвых абудзіць,
І ён духоўнымі вачыма
Ўсё бачыць... Кроў яго брыдзіць
І словы просяцца навонкі —
Адно з адным уперагонкі.
Ўсе адчуваюць дужасць іх,
І ў нейкі момант гоман сціх,
І нібы чутна, як глыбока
Паэта словы і прарока
Са звонам падаюць у душы;
Падзення гукі чуюць вушы,
Вагу іх адчуваюць рукі
(Бы сапраўды вагомы гукі!).
Узняты келіхі. Спляценне
Юнацкіх рук. Ярчэй агні.
Ў жывой застольнай мітусні
Паблеклі страшнай явы цені.
Знікае цемра. Сонца ззяе,
Як толькі што паэт казаў,
І кожны ўслед яму дзярзае,
А ўсё таму, што ён дзярзаў!
І Дэльвіг робіцца маўклівым,
І Пушчын чуе звон акоў;
Адкінуў крэсла рухам мклівым
Пястун агульны Гарчакоў;
Слязу раняе Кюхельбекер,
Адчуўшы, што прарвала гаць...
Дзіўны і любы «хлебапекар»
Збег, каб уволю парыдаць,
І зноў вяртаецца і слкі
Гарачы ток ліе пііт
На Аляксандра камізэлькі
Такі пяшчотны аксаміт;
Няп'яны Корсакаў п'янее,
Дзіўны ў Вальхоўскага выраз,
І дзіўна выглядаюць неяк
Мацюшкін, Якаўлеў, Данзас...

І роздум,— горкі, нібы зелле,—
Даніна розуму. Вяселле
І радасць плешчуць зноў праз край.
Жыццё ідзе: зважай, зважай!..
І слёзы, і віно ліліся,
І, ў сведкі пасклікаўшы муз,
Вялікай клятвай пакляліся
Павек не рушыць свой саюз.
Забаў юнацкіх безгалоўю
Не загасіць душы пажар.
Сяброў атулены любоўю,
Ён нёс любоў іх, як цяжар.
Ёсць многа палу ў ім, адвагі,
Задзёру, часам мітусні,
Але хістання і развагі
Паэт не ведае ані.
Бывае жорсткі ён і кволы,
Бывае смутны і вясёлы,
А зрэдку страшны ў гняве́;
Падобна ўз'юшанай Няве,
Слухмянай морскай непагодзе,
Але мінае шквал — і годзе,
Зноў твар усмешкай асвятлён,
І зла не памятае ён.
Няўжо ў істоце яго, дзесьці,
Дзе і сябрам не пагасціць,
Любоў займае столькі месца,
Што пе́навісці не ўмясціць!
Але такі дзіўны́ настрой,
Які валодаў ім парой,
Быў вынікам у нейкай меры
Таго, што ён глядзеў наперад.
Сябры яго не разумелі,
Дый ён не разумеў сяброў.
Калі ў ім гаварыла кроў,
Яны, замкнуўшыся, нямелі.
Ён адкрываў сваю душу ім,
Як насцеж адчыняюць дзверы;
Пясняр — ён імі быў віншуем,
Змагар — не заслугоўваў веры.
А ён хацеў бы скрозь быць першым —
На барыкадах і у вершы...
Сябе ён ведаў добра надта,—
Што дадзена, што можа даць.

І ведаў: дадзена багата,
Багата будуць і пытаць.
Каму ж, як не яму, паэту,
Прызначыць бацькаўшчыне мэту
І каменем краевугольным
Пакласці верш свой звонкі, вольны,
Цішком, употай ім каваны,
Агнём душы загартаваны.
І акрамя... патрэбна справа,
А гэта... ў рэшаце вада!
Яму дакучыла, ей-права!
Ну, што без справы верш? Бяда!
Прыйшла, відаць, яго пара,
І горыч капала [redacted] пяра.
Не, не яму, як дзіцяняці,
Бясконца ўсё пустышку ссаць,
Сяброў старэйшых даганяць
(Калі ўжо здолеў перагнаць іх!),
Час марна трацячы, пісаць...
Верш у дзявочыя альбомы,
Жарт-эпіграму на знаёмых,
Без злосці, гневу, без запалу,
Ўсё выпадкова, як папала...
Ад вершаў гэтакіх ікотка,
А час даводзіць (і давёў!)
Патрэбу радыкальных сродкаў,—
Арлоў, Тургенеў, Мураўёў
Даўным-даўно на гэтым згодны;
Ўсё маладое — заадно.
Ітак, выпадак верагодны,
Што арзамаскае судно
Ў бліжэйшы час ідзе на дно.
Што ж, арзамасцы самі грэшны,
Дасюль спрачаюцца, як быць,
Каб нейк пакаштаваць яешні
І яек, бач, каб не разбіць.
У нечым іншым ёсць патрэба...
Паставіць кропку, а засім,—
Што ж, блаславі, як кажуць, неба,
А ён, а ён гатоў зусім.

4

I Пушкін Аляксандр чыноўнік.
(Сямейка? Пенсія? Катар?)
Не, не па ім і лужа й чоўнік,
I чын: ка-леж-скі са-кра-тар!
О, ад чыноўнай чэрствай ласкі
Ён, занядбаўшы абавязкі,
Здаецца б, збег без галавы
Туды, дзе у краіне казкі
Буяе зелле трын-травы.

. . . . . . . . . . . . .

Ад прозы, ад нуды разгульнай
Ён часта кіраваў свой крок
Туды, дзе цепліцца утульна
Зялёнай лямпы каптурок.
Сябры ужо даўно на месцы.
На месцы, так, ды што з таго,
Калі няма яшчэ яго.
I покуль што аб новай п'есцы,
Аб новай кнізе разважаюць,
Аб тых, каго не паважаюць,
Або якраз наадварот.
А не — каменьчыкі шыбаюць
Цішком суседзям у гарод.
Так сціпла ўсё і ўсё разумна,
Але чамусьці нудна, сумна.
Няма яго. Ўсе нешчаслівы...
I раптам — Пушкін, як віхор
Ўсезахапляючы, імклівы.
Зліваюцца ў адзіны хор —
Вясёлы, гаманкі, упарты,—
Вітанні, воплескі і жарты.
Паэт, пры логіцы жалезнай,
Не можа жыць без каламбура,—
Жарт, эпіграма, верш гарэзны,—
Такая ўжо яго натура.
Біў з асалодай, жорстка біў
Тых, хто маўчаў, і тых, хто выў,
Біў тых, хто лёгка й цяжка думаў,
Біў і сланоў, біў і шашкоў,
Біў шаркуноў і авакумаў
З кампаніі Хвастоў — Шышкоў.

Як з пісталета па мішэні,
Па ворагах ён трапна біў;
Не лез за словам у кішэні
Ён і для тых, каго любіў,—
Сяброўства, розум ён вітаў
І толькі лёгка ласкатаў.
Спрабуе часам і паэта
Той-сёй падцяць: не-не й кальне,
Хоць боязна... Ды толькі — не,
Рабром выходзіць спроба гэта.
Па-пушкінску, забойча, сцісла
Парыруе паэт удар,
І усміхаецца (хоць кісла)
Збянтэжанай ахвяры твар.
У ім нянавісць і любоў
Кіпяць часіне адпаведна.
Сябры да кроплі дробнай-беднай
Збіраюць жоўць ягоных слоў,
Каб заўтра, як і сёння, зноў
Магла вяльможная сталіца
Злым вострым жартам падавіцца.
Так у штодзённай барацьбе
Набыў ён ворагаў сабе.
Яму прарочылі Сібір
Ці... Салавецкі манастыр.
«Ото б узрадаваўся Фоцій
З усёй кампаніяй святош!»
Не то святошы, а ў балоце
Ўсе чэрці цешыліся б... Што ж,
«Пакуль жыву, датуль я веру...»
Ён адступаць не меў намеру:
Што ён такое? У забаве
Прысуджаны камусьці фант?
Хто ён? Нявольнік, арыштант?
Падсудны на ганебнай лаве,
Без права вольна дыхаць, мысліць,
Якога можна ўзяць ды выслаць?
Ахвяра царава навечна?
Яго халуй ці падапечны?
«Нам трэба светлы розум мець,
Бо сэрца часам дрэнны радца...
Ох, здольны мы шумець, шумець,
Пасля ж узяць ды адцурацца...
І верш у нас яшчэ халоп!

Ён мрэ пад панскаю лазою
І просіць ласкі са слязою,
А трэба цэліць, біць у лоб...»

. . . . . . . . . . .

Ў тэатры сёння шэпт і шолах,
І нават болей, нават сполах.
— Што там?..
— А, Пушкін, зноў... Ох, зелле:
Паказвае партрэт Лувеля!..
— І з подпісам: «Урок тыранам...»
— Быць Аляксандру пакараным!..

. . . . . . . . . . . . .

Праз тыдзень ён у пакаранне
На поўдзень ехаў у выгнанне.

5

Мінуў кароткі дзень зімовы.
Гарачы сонечны прамень
Сагнаў апошні снег. Струмень
Спяваў аб сіле весняй змовы.
І хоць яшчэ чарнелі дрэвы,
Ды сокам кожны прут набрак,
Вятроў ласкавыя павевы
Бадзёрылі — і сіл не брак,
І жыць так хораша, і новы
Зноў бродзіць буйны хмель вясновы.
Ён поўніць скрозь жывіцай моцы,
Імклівіць, пеніцца, бруіць
І нараджае у крыві
Дзіўную мітусню эмоцый.
Пара красы...
Пара кахання...
Як не любіць вясну-красну!
Час моцы стоенай паўстання,
Час адрашэння ада сну...
Пралеска, першы ліст суніцы,—
Свет повен весняй таямніцы.

Вось хутка год... Як час імклівіць!
Ў сяле Міхайлаўскім, адзін,
Жыве паэт. Ён нелюдзім —
Самотны, ссыльны нешчаслівец.

Вясна і сум не сумяшчальны,
А ён сумуе; горад дальны,
Сяброў, таварышаў згадае...
Перад вачыма Чаадаеў...
А Дэльвіг, Пушчын, Кюхля дзе?
Няўжо ён кінуты ў бядзе
І жар сяброўства ахаладаў?!
Міжвольна смутак ім валодаў.
Адзін... І шлях адным-адзіны!
Плывуць, плывуць, плывуць гадзіны,
Ды што яму гадзіны? — Вечнасць!
Яе ён чуе за сабою.
І зноў паэт гатовы к бою,
Спяшаецца, схапіўшы зброю,
Туды, дзе смерці небяспечнасць,—
За чалавека й чалавечнасць.

Над вершам катаржная праца;
Як любіць працу ён! Ізноў
За «Гадунова» трэба брацца —
Яго трывожыць «Гадуноў».
Ці ж «Гадуноў»? У ім ён пэўны —
Трывожыць цэнзар-ліхадзей,
А тут... «Цыганаў» верш напеўны...
Ах, скончыць бы усё хутчэй
Ды за «Анегіна» засесці...
А ў мозгу светлай патайніцы,
У далечы далёкай дзесьці,
Падобна ззянню бліскавіцы,
Дрыготнай, кволай, мгненнай, мабыць,
Ўзнікае новая паэма.
Так моц спытаць нясцынна вабіць
Цяжкое генія бярэма.

Хацеў бы ўсё ён абхапіць
І планы, мары разам здзейсніць,
Ды часам ледзь снуецца ніць,
І небяспека ёсць заплеснець.
Паэт чытае, марыць, піша
Лісты, пасланні да сяброў,
І ўжо не так страшная ціша
Яго пакою, точыць кроў
Імклівей, сэрца лёгка б'ецца,
І рады ён, і ўжо смяецца,

І з Радзівонаўнай старою
Жартуе вольнаю парою.
Яго жаданню паслухмяны,
Ў акно гарохвінкі духмяны
Паўзе сваволына завіток,
Ў гародчыку неадмысловым
Спачынку, роздуму куток —
Прыгожыя, як вершаў словы,
І простыя, як і яны,
Цвілі і адцвіталі краскі:
Півоні белай куст буйны,
Чырвоны мак, як кветка казкі,
Вяргіні, астры, касачы,
Наготкі жоўтыя і кволы
Нарцыс, рамонак,
                    а ўначы —
Чад, ад якога не ўцячы,—
Дурманіў водар мацыёлы.
Усё жыло, цвіло, буяла
І ў час зімовы памірала.
Прайшла вясна. Мінула лета.
Зноў зорак падаюць дажджы,
І ноч, здавалася, бражджыць
Ад паду хуткіх самацветаў.
Патроху прыпадаюць росы,
Ў паветры, покуль што крамяным,
Зноў прадчуваюцца туманы.
Ён узіраецца ў нябёсы,
Ён пасягае таямніцы
Жыцця. І гэтак зразумелы
Жыцця нязнаныя крыніцы.
І падае, як плод паспелы
Да ног, пытанне за пытаннем,
Ім разгаданыя ўканец.
І ўжо не чадны каганец,
А ісціны бясспрэчнай ззянне,
Якога не перамагчы
І гэтай восеньскай начы.

Ён чуў бязгучных зорак хоры,
Браў час, адлегласць, сілу, рух...
Браў шэраг іншых катэгорый...
І адмыкаў замкнёны круг.
Не ведаў розум неудачы,

Няўёмен, сквапен і жадзён,
Развязваў лёгка ён задачы,
Спакон вякоў да гэтых дзён
Напластаваныя.
                    Зноў бачыў
Паэт ва ўсім карысць і плён
І мэтазгоднасці закон
З вялікай радасцю адзначыў.
І мысль яго была, як вежа,
З якой глядзеў ён у бязмежжа.
І белы свет яму прынадны,
І не існуе таямніц,
З клубка чароўнай Арыядны
Трымае моцна, моцна ніць.
І ўдзячны за пітво і меру,
Што атрымаў з быцця крыніц,
Сваю ўпэўненасць і веру
Хацеў у іншых ён уліць.

6

Бывае, дома не сядзіцца,
Няма натхнення, верш не йдзе,—
Кіпучы, хмельны кагадзе —
Цячэ, як прэсная вадзіца!
Блукаюць думкі воддаль дзесьці,
Не бавіць час яму дарма ж!
І Пушкін едзе на кірмаш
Ў Святыя Горы, каб развесці
Тугу, што гэтак ціснe грудзі,—
Туды, дзе гоман, рух і людзі.

А не — ледзь золак, ледзь світанне
Збіраецца на паляванне,
Вандруе па лясных сцяжынках,
На пожні трапіць да сялян,
Удзел прымае ў дажынках,
І між гаротных пасялян
Сябе ён чуе гэтак вольна,
Нібыта ў іх сям'і узрос,
Нібыта ўсё у іх супольна —
Бяда і радасць; іхні лёс
Ці ж то не лёс яго Расіі?
Хацінкі бедныя, крывыя,

Святло злацанае іх стрэх,
Агонь іх вогнішч, пах аўчыны
Яго хвалююць. Чорны грэх
Ён чуе на сабе. Злачынны
Ўсе, што праходзяць моўчкі міма
Ці, паціскаючы плячыма,
Глядзяць, упяўшы тупа зрок,
У простага народа верад;
І той, хто словам сее змрок,
І той, хто крочыць нібы ўперад,
А сам на месцы топча крок...
І гвалт разбэшчанага панства
І ў імя бога ашуканства,—
Ўсе вінаваты, ўсе злачынны,
Адказваць ўсе, усе павінны!

Краты сляпыя і глухія!
Народ жывы. Паэт... ён з ім.
З ліхога тла галодных зім
Расце народная стыхія
І немінуча захлыне —
Ён пэвен, позна а ці рана —
І панства гвалт, і здзек тырана.
Узгадаваны на лане
Нявольніцтва, узрос асілак;
Ледзь зварухнецца, ледзь кране —
Няма кайданаў, крат, астрогаў;
Сігне — даўгая далеч ссылак,
Як шлях да ўласнага парога,
У шчасце нацянькі дарога —
Без скрыжаванняў,
без развілак.
Айчына! Твой паэт з табой,
Табе жыццё яго і здольнасць.
Гатоў ахвяраваць сабой.
Вось прагучала слова «Вольнасць»,
Як заклік, як сігнал да зброі,
І ворагаў працяў «Кінжал».
Пячэ агнём усё нутро іх
Атрута незлічоных джал.
Ужо пяройдзена мяжа
І новая пачата доба.

. . . . . . . . . . . .

Як ён любіў і паважаў
Святую працу земляробаў!
Іх мова, песня, трапны жарт —
Кранае ўсё душу паэта.
Народ не гэткай долі варт,
Дзе лепшы ёсць народ, як гэты?
Вось перад ім з убогай явай,
З мінулай, будучаю славай,—
Вялікая, святая Русь...
Дык паспрабуй, сябе прымусь,
Каб ёю не замілавацца
І ўсёй істотай не падацца
Вось з гэтага страшнога «сёння»,
Што ледзь варушыцца спрасоння,
У «заўтрага» шчаслівы дзень.
Ды паспрабуй яшчэ сустрэнь
Той дзень, што так хвалюе, вабіць
(О, як бы ён сустрэў той дзень
І плакаў бы ад шчасця, мабыць!),
І моц знайдзі, каб сэрцы ўзрушыць,
Пачуццяў лепшых ўзняць прыбой,
І шлях, якім павінен рушыць
І весці іншых за сабой;
Не той, што лёг перад вачыма
Або пакінуў за плячыма,
А іншы — цяжкі, пакручасты,
Якім ідуць энтузіясты.

А перад ім ляжыць радзіма
Ва ўсёй прыгожасці, красе,
І не прайсці халодным міма —
Красу радзімы пакрысе
Ўбірае прагна, як у сне,
І п'е, і не ўтаймуе смагі,
Каб потым, некалькі пазней,
Пачуццяў вынік, плён увагі —
Усё, што сабрана не дарэм,—
Нейк саснаваць дзівосным ладам
І раптам рушыць вадаспадам
У несмяротнейшых з паэм.
Дык што ж яна такое — Русь?
Ды што ж яна? Навек прымус?
Трупярня? Пустап? Праўды тло?
Кірмаш зняславы і няволі?..

І ён адказвае: святло,
Святло, нязгаслае ніколі:
Жыцця празрыстая крыніца,
З якой шчэ будуць піць і піць,
І хто нап'ецца,— не пазбыць
Жадання зноў з яе напіцца.

7

Мільгаюць хутка квадры году.
Снег выпаў, значыцца — зіма
Змяніла восені нягоду.
— Мароз?
— Марозік.
— Ну, дарма,
Адно дрывец падкінь у печку...—
У дробным срэбры завірух
Праз лёдам скованую рэчку
Абозы распачалі рух.
Наўрад, ці хто сюды заверне,
Да гэтай сумнае мяжы;
Адсюль далёка да «губерні»,
А да сталіцы — не кажы!
Чакай выпадкаў і аказій
Прачуць якую навіну.
Дый то мяркуй у кожным разе
На недарэчнасць і ману.
Ніхто не зойдзе, не заедзе,
Не ступіць на парог нага,
Лістоў няма — захраслі недзе,—
Туга, бясконцая туга!

Чакай, чакай, а можа, й бразне
Здалёк жаданы бубянец!
І ўсё бліжэй, і ўсё выразней,
І ўжо на ганку пасланец
Часоў далёкага юнацтва —
Паплечнік, сябр яго забаў,
Нясталых выхадак, дзівацтва,
Свавольства і сур'ёзных спраў;
Увойдзе... любы, любы дружа!
Як толькі ўмее ён адзін,
З усмешкай, вока прыімружа,
І не прыкмецяць цяг гадзін...

Прэч крозы, прэч лятункі, годзе!
І то іх засталося ў дне.
Было так у мінулым годзе,
А ў гэтым сябр не ўвойдзе, не.
Ён там душой хварэе — Пушчын,
Сярод бяздушных і тупых.
Лягчэй сляпым паміж відушчых,
Чымся відушчым між сляпых!
А за акном, у голым вецці
Віхор кружыў, імгла вакол;
Ў пакоі цесна, цесна ў свеце,
Але наперад, чорны вол.
Не наравіцца, не ўпірацца,
Хай перашкоды знішчыць праца.

Дом мёртва спіць. Тужліва, ціха,
Адно цвыркун ізноў цвырчыць,
Дабро вяшчуе ён ці ліха?
А ноч самотаю гарчыць.
Сядзіць, забыўшыся, пры свечцы,—
Лягчэй за працай горыч збыць.
Пяро рыпіць, рыпіць і сведчыць,
Што гаспадар яго не спіць.

У трапяткім святла мігценні
Гульню ў пакоі пачалі
Пачварныя, дзіўныя цені.
Бялеюць аркушаў палі,
Радкі гуляюць — цот і лішак...
Дзіўны к жыццю заклікан свет,
Свет вобразаў: з Марынай Мнішак
Каля фантана сам паэт
Вядзе суровую размову.
Ён выкрывае шляхты змову,
Што ўзняла зноў меч іржавы
Супроць Расійскае дзяржавы.

Ох, што ён варт — царэвіч Змітры!
З даўно прызначаным канцом.
Чарнец застаўся чарняцом,
А тут патрэбен розум хітры!
Паэту нават цяжка з паннай
Да ўлады прагай апантанай,
Сіпіць, віецца,— немінуча
Джгане са спрытнасцю гадзючай.

Зусім інакшая Земфіра
З паўдзённай вабнасцю вачэй,
Пачуцці тут, як бездань віра;
Яна кахае проста, шчыра,
З ёй і вальготней, і лягчэй.
Жане яго, бы ўвосень лісце
Жануць суровыя вятры.
У Бесарабіі, калісьці,
Наведаў цыганоў шатры
І чуў ля вогнішчаў, у полі
Іх вольны, крыху сумны спеў...
Ці не таму і праг ён волі,
Што аніяк яе не меў.
І вось згадалася: Адэса...
Гарачы поўдзень... Кішынёў...
Вязьмо надзённых інтарэсаў
І кола шумнае сяброў...
Раеўскі, Пестэль... Іх прамовы,
Як ветру свежага павеў...
Расце «крамола», і да змовы
Ўжо недалёка — спее гнеў.

8

Тады, у Тульчыне, як мала
І як багата ён спазнаў!
І зноў быў духам акрыяў,
На рэчы й справы глянуў стала,
Усё узважыў дасканала —
Здаецца, нават пасягаў
Сяброў дзіўныя таямніцы...
І ўжо ж не розумам ён ніцы,
Што ўсё дарэшты не пасяг.
Ён — і дасціпны і бядовы,
Хто сэнс прасяк светабудовы,
Душу людзей, быцця працяг...
Дык хто, дык хто ж тут вінаваты?
Няўжо сябры? Няўжо яны?
Сябры не здольны да маны,
Дый ён не варт такой адплаты.
Як цёмна ўсё і невядома!
Ён толькі можа падсвядома
І адчуваць і прадчуваць,
Здагадак вежы будаваць,

Не верыць, верыць, спадзявацца,
Пакутваць, плакаць, сумнявацца...

А дзень святое Кацярыны!
Такі дзіўны падбор «гасцей»,
Што нібыта на «імяніны»
Тады прыехалі... прасцей
Цябе няма на свеце, Пушкін!
Там быў Раеўскі Уладзімір...
Арлоў, Давыдаў і Якушкін...
Размовы, спрэчкі — цэлы вір
Страсцей, што рынулі навонкі,
Калі высокі голас звонкі
Упаў раптоўна ў дзёрзкім тосце...
Пілі тады за волю «госці»,
А ты не зразумеў сяброў,
Табе не падказала кроў,
Калі пачуў ты прапанову
(Наўпрост назваўшы змовай — змову)
Аб таварыства заснаванні,
Каб потым абвярнуць у жарт,
Хто зразумеў... О, той быў варт!
Той вытрымаў выпрабаванне!
А ён? Не здолен супраць хвалі
Плысці — змагацца і змагаць?
Што ад яго сябры хавалі?
І ці ўдалося ім схаваць?
Ён, нібы прадчуваў нягоду,
Душою там быў — на Няве.
Як лыжка дзёгцю ў бочцы мёду
(Ён ледзь не плакаў у гняве),
Было яму усведамленне
Няпоўнай шчырасці сяброў,
Іх неймаверства, іх сумненне...
І ён пакутваў зноў і зноў.
Паэт пакутваў і не знаў,
Што верш ягоны іх з'яднаў
Перш узнікнення таварыства,
Тады, калі цару падсвістваў,
Свабоду, мужнасць, працу ўславіў
І вольнасць мэтаю паставіў;
І што сябры, хоць не прасіў іх,
З ім ратавалі для Расіі
Яе надзею, гонар, славу

І што рабілі так па праву.
Каб ведаў, ён не быў бы рады
Апецы, клопатам сяброў
І не прыняў бы іх ашчады.
І не ўхіляўся б ад акоў.
А можа, усё гэта пустое
І ён хвалюецца дарма —
Нічога не было й няма?
Не тое, штосьці тут не тое?
«Ну, а на поўдзень ездзіў Пушчын
Без мэты, так сабе, спраста?
Намёкі зноў жа у лістах!»

. . . . . . . . . . . .

Ён вочы зморана заплюшчыў.

Ноч. За акном вятры шасцелі.
Чадзела сплыўшая свяча.
Няўтульна гэтак у пасцелі,
Сляза салоная ў вачах.
Пасля, у сне, прыйшоў Яўгені —
Дзівакаваты чалавек,
Спустошаны, як гэты век.
Ён сёння ў нейкім утрапенні,
Ён выглядае сумна, цьмяна,
Гаворыць аб сваёй віне
І просіць памірыць з Тацянай,
Але паэт рашае: «Не,
Каханне — гэта не прычына,
Такой павінна быць жанчына».

9

Зноў свежым ветрам захістала.
Надзьмуты ветразі надзей.
Цяпер, у чым бы там ні стала,—
Плысці яму ў віры падзей.
Вядома стала афіцыйна,
Што «воляй божай цар спачыў»
І што ў жалобе «ўся айчына»,
Што прасталюдзін далучыў
Свой «горкі плач вернападданы»
Да плачу горкага мяшчан,
Прастолу шчырых і адданых

Купцоў і клеру і дваран.
Ужо спраўлялі паніхіду
Ў манастыры, ў Святых Гарах,
І тлусты, як цюлень, манах,
Што выклікаў не раз агіду
Майстэрствам сочкі і падгляду,
Пасля жалобнага абраду
Тачыў елей смірэнства, слёзы
Аб дэспаце, «спачыўшым ў бозе».

Злітуйся, неба! — Распачнецца
Дварцовы трагівадэвіль.
Хто ж на прастоле апынецца?
Цяпер з сталіц, за многа міль,
Ва ўсе канцы лятуць кур'еры,
Вязуць сакрэтныя паперы,
А ў іх загады, мольбы, просьбы,
Заўвагі, напамінкі, грозьбы.
І ліхадзеі, дабрадзеі
Употай пестуюць надзеі
Урваць ці месца, ці чынок —
Імперыя, як той шынок.
Хто ж стане на чале дзяржавы?
Той, што у Польшчы, у Варшаве —
Забойца, пачуццём шчарбаты
І розумам не так багаты,
Ці той — з душою езуіта,
Ласкава-жорсткі, ядавіты.
Ці Канстанцін, ці Мікалай —
Дабра ўсё роўна не чакай.
Так, Пестэль рацыю меў тройчы:
Жывой вады не дасць скала,
Сава не родзіць сакала,
Лад манархічны — лад забойчы!
Але сумненне і трывога:
Ці знойдзецца яшчэ Квірога,
Які б на беразе Нявы
Стаў за папраныя правы!
Дый ці патрэбны нам Квірогі?
У рускіх іншыя дарогі...
Еўропе часам неўцямкі,
Што шлях каротшы нацянькі,
Што можна мостам, можна ўброд —
Ён моцна верыў у народ

І, разважаючы наконт
Паўстанняў, рэвалюцый, бунту,
Ён разумеў: не мелі грунту
Мадрыд, Неапаль ці П'емонт.
І страшна й радасна было
Спазнаць, што выбух —
неабходнасць,
І ў думках прывітаць святло,
Імя якому — ўсенароднасць.

10

Лёс жорсткі быў бы болей жорсткім,
Бяда б гарчэйшаю была,
Ды па-суседству, у Трыгорскім,
Сям'я цудоўная жыла,
Яму знаёмая з маленства.
Калі б бліжэй пазнацца з ёй,
З вядомай Ларыных сям'ёй
Знайсці б не цяжка падабенства.
Сюды з губерні і сталіцы
Сябры з'язджаліся штогод —
Пагасцяваць, павесяліцца
І адпачыць тут ад нягод.

Сярод гасцей сям'і цудоўнай,
Сустрэтых шчырай ласкай кроўнай,
У той год з'явілася яна.
Між іншым, з Аннаю Пятроўнай
Паэт знаёмы быў здаўна.
Тут бавіў, ў гэтым цесным коле,
Зусім забыўшы аб нядолі,
Хвіліны вольныя свае,
Калі ж шчэ бачыў і яе —
Шчаслівы быў ён як ніколі.

У смутным зацішку выгнання
Ён і не марыў пра спатканне —
Мінулае было, як дым.
І вось сустрэліся. Каханне
Даўнейшае ўваскросла ў ім.
Яно, як лепшы верш выбраны,
Яно, як спеў недаспяваны,
Як радасць ціхіх смутных сноў;

Ні ў ім надзеі, ні ў ім мэты,
А ён і гэткім быў сагрэты
І паўтараў быў зноў і зноў:
«Згадаў цудоўнае імгненне,
У маіх вачах паўстала ты...»
І ўжо няма ў душы сумнення,
Няма вакольнай пустаты,
Яна уся — «як летуценне —
Здань хараства і чыстаты».
Сядзець бы ў кволым расчуленні,
Амаль змяшаўшы смех і плачам,
Пляча даткнуўшыся плячом,
Зраніўшы рукі на калені...
І словы б страцілі ўмоўнасць
У ззянні чэрвеньскіх начэй
І, акунуўшыся ў бязмоўнасць,
Гучалі б радасней, званчэй.

Ці то сапраўднае каханне,
Што ўжо прайшло выпрабаванне
І атрымала пэўны гарт;
Ці то пустое заляцанне,
Без будучыні, без пытання —
Свавольства, просты сэрца жарт;
Дзіўна! Ад самага пачатку
Жыццё ўжо кідае пальчатку,
І лёс-чаўнок — снуе, снуе...
Пакуль не выснуе ўскутку
Тканіну з жалю, слёз і смутку
Як для яго, так для яе.

Чаму ж сягоння, невядома,
Так холадна у іхнім доме,
І цела і душу знабіць!
Туга, лянота і утома,
Каля дзявочага альбома
Ён пазяхае і маўчыць.
Яму дадзелі іх вязанні,
Аб туалетах разважанні...
Ён толькі травіць час дарма.
І вырашае: «Хутка ў сані —
Дамоў — да працы і да няні...»
Зіма! Зіма! Яе няма!
З вясною вернецца яна

У край іх сумны, край убогі —
Хутчэй бы сцежкі і дарогі
Размыла весняя вада!
А ў сэрцы ўсё расла трывога,
Нібыта стала ля парога
Ліхая, чорная бяда.

Ці ёсць трывога без прычыны?
Яна ў палацы і хаціны,
Як злодзей, крадзецца ўкрадкі:
«Ў сталіцы, кажуць, непарадкі!»
Яна вырастае за тыдзень,
І чэрад думак — чорных, злых —
Баяцца вымавіць услых,
Бо час бывае горшы злыдзень.
На добры спадзяюцца скутак,
Але паўзло, паўзло, паўзло
І прыпаўзло страшыдла чутак,
Прыцягшы за сабою зло.
Сусед, што завітаў нянацкам,
Лісты з сталіцы перадаў,
А потым сам апавядаў
Здарэнні на пляцу Сенацкім.

Вось і названы іх імёны...
Як многа блізкіх і знаёмых!
Валконскі... (бедная Марыя,
Ну як, ну як яна знясе?)
Бястужаў, Пестэль... Не, не ўсе,
А лепшыя сябры старыя:
Рылееў, Кюхельбекер, Пушчын...
Агледзеў зрокам невідушчым
Працяг... Ну як тут быць трывалым
З такою ношкай на лане?
. . . . . . . . . . .
Пачуўшы волю, конь учвалам
Імчыць па снежнай цаліне.

11

Цяпер далёкі неўскі бераг,
Такі жаданы да таго,
Не будзе вабіць больш яго.
І ён блукае паміж шэрых

Пятрова града аграмадзін,
Пад сценем страшных пераkладзін.
Ён пранікае ў казематы,
Ён бачыць мукі іх ахвяр
І мужнасць іх... (О, каты, каты!)
Амаль уяве чуе гвар
Вазні патайнай ў Шлісельбурзе
І стогн салдат, якіх канвой
Жане і валачэ праз строй
У мёртва-немым Пецярбурзе.

Чаму, чаму і ён не з імі,
Каб падзяліць іх страшны лёс?
Заплакаць бы слязьмі густымі,
Каб плач душу яго устрос,
Каб вочы не былі такімі
Страшнымі, шклянымі, чужымі...
Але няма чамусьці слёз.
Асела недзе ў сэрцы злая
Салона-горкая слата,
І у вачах яго зіхае
Бязводнай прэрвай пустата.
Адно, калі ўзышоў на ганкі —
Душы жывой і роднай рад,—
Заплакаў на плячы ў нянькі,
Як плакаў дваццаць год назад.

. . . . . . . . . . .

Спявалі пеўні на адлігу.
Канаў зімовы дзень. Сутонь.
Ён патрымаў і кінуў кнігу,
Другую, запаліў агонь,
Пашарыў вобмацкі ў шуфлядзе
І ў панаваўшым там бязладдзі
Рукою звыклаю знайшоў
Лісты сяброў, таварышоў.
Схаваўшы глыбака абразу
(Ісці б ім разам крок у крок),
Шукаў ён у лістах адказу
На гэты цяжкі свой папрок.

Зайшла бяседа іх за поўнач,
Здавалася, нібы яны
Сядзяць тут, у пакоі, побач,
З запасам добрай навіны,

З вясёлым смехам, вострым жартам,—
Спрачаўся кожны, гаманіў...
І вось ужо раскрыты карты
Па раптам скончанай гульні.
І што было дагэтуль цьмяным,
Незразумелым і блазным,
Паўстала розуму слухмяным,
Дакладным, поўным навізны.
І раптам думка працінае:
«Лісты... то ж доказы віны!
Над хатай чорна здань лунае —
Здань падазрэння, і яны
Яшчэ да рання быць павінны...
Каму даўгі — ім блізкі пуць!
У ночы ж злічаны хвіліны,
Яны бягуць, яны бягуць!
Ты, Аляксандр... Ты блазан, блазан...
Даўно ўсё знішчыць абавязан...
Праз ноч, праз ноч кружыць вавёркай,
Пустою цешыцца гаворкай
І даць ім столькі казыроў
Супроць сябе, супроць сяброў!
Усё трэ знішчыць да зары,
Бо ля варот стаіць бяда...»
І ён кусае пазуры.
Рука дрыжыць: «Шкада? Шкада».
Лісты, артыкулы, нататкі —
Усё знішчаў і жэр агонь.
І так праз ноч, пакуль украдкі
Сон не крануў гарачых скронь.
Цяпер, панове, калі ласка!
Ён пасталеў, інакшым стаў,
З тае пары надзета маска,
Якой да смерці не скідаў.

12

Бы ў дамавіне, у Трыгорскім —
Ні слоў, ні смеху — ўсе маўчаць,
І што рабіць і што пачаць?
Не ведаюць. Учынкам дзёрзкім,
Але прыгожым, апраўданым,
Заняты думкі. Зноў і зноў,
Як немарадь пачварных сноў,—

Пяць чорных шыбеніц. Так, танным
Тут будзе слова спачування —
Самоты, цішы прагне жаль.
Душы пакуты — адчуванне
Фізічнаткненнае амаль.
Крывёю точаць раны сэрца;
Сумлення праўды ці душы
Дарма шукаць у людажэрца.
Сябры, браты, таварышы,
Суцешцеся, бо не адны вы
Ўзнімалі цаліну пад нівы;
Не плачце, што не давялося
Убачыць спелае калоссе.
Даспее ніва залатая,
Багата новых аратаяў
Выходзіць, каб яе ўрабіць.
Няма пытання: быць? не быць?
Але як цяжка мне, Расія,
Цябе убачыць на дыбе!
Ад сённяга, відаць, красы я
Больш не угледжу у табе.
Крывёй плач, сэрца, несціханна —
Дзень, вечар, ноч, парою ранняй,—
Табе праз лёс наканавана
Не сэрцам — верадам быць, ранай.

Няўжо канец? У круг жалобы
Замкнёны уступіў паэт,
Дзе ані веры, ані мэт.
Аддаў бы ўсё, ледзь ажыло бы,—
О не, не пэўнасць спадзявання
І не надзейкі пачуццё,
А права, хоць ў самаспадмане,
Вярнуць ім волю і жыццё.
Ды толькі не, паэтаў розум
Быў надта сціплым і цвярозым.
І розум не знаходзіць рады.
Вачэй цьмянее біруза,
Жальба, адчаю і спагады
Паўзе салоная сляза.
Не верыць — верыць; у чаканні
Зноў задае (каторы раз?),
Як сам ён, хворыя пытанні,
А дзе знайсці на іх адказ?

Маўчыць паэт, маўчыць і хмура
Глядзіць праз шыбу ў сад, дзе бура,
Наскочыўшы з выццём і рэвам,
Пладовым пагражае дрэвам.
Хто ён? Паэт, грамадскі дзеяч
Або слабенькае дзяўчо?
— «Куды вы? Аляксандр Сяргеіч!» —
Балюча выцяўшы плячо,
Навонкі рынуў. Тут лягчэй.
Сад, бурай да зямлі прыгбаны,
Нібыта знік з яго вачэй,
Плады і вецце паасшыбаны,
Маланка ў цемры... Як прыгожа...
Як дыхаць лёгка. Хараство!
Між ім і бураю, дальбог жа,
Існуе нейкае радство!

13

Паэт сустрэў не без здзіўлення
Ў двары фельд'егера з'яўленне,
Які паведаміў указ
Ў Маскву збірацца гэты ж час.
І адбылося, нібы ў казцы.
Ад сёння ён у царскай ласцы,
А ласка царская вядома!
Ў палацы добра — лепей дома.
Ох, каб яно было, што ў казцы!
Цары у ёй, па большай частцы,
Хоць злыя, але дурнаваты,
Ў жыцці б такія ніштаваты,
Але наяве іх ці многа?
І ў сэрца ўкралася трывога.
Не зразумець усё адразу,
Не ўзяць у толк, не ўзяць у лад,
Як успрыняць цароў загад —
Як ласку, гнеў ці як абразу?
Тут, нібы ў шахматнай забаве,
Незразумелы хітры ход:
Ў палац праводзяць, а на справе
Не трапіць бы на эшафот!
І недарма расла трывога,
Ад венцаноснага «сябра»
Не спадзяваўся ён дабра,

Канца чакаючы благога.
Нягоды ведае здаўна,
А радасць — госць неспадзяваны;
Плывец з разбітага чаўна,
Сяброўствам шчырым зратаваны,—
Адзін унік ён царства ценяў.
На сонцы высушыць адзенне
І ледзь ад буры акрыяе,—
Зноў тыя ж песні заспявае.

Крылом махнуўшы ў раз апошні,
Застаўся за гарой вятрак,
Бярозы жоўтымі лістамі
Аплакалі знаёмы тракт.
Праплыў у хмарным небе бусел
З чырвонай параю панчох,
Гадзюкі ў жоўтай дзюбе вузел
Разблытаў — знік з вачэй спалох.
Бадзяга-вецер нелюдзімы
Скуголіў нудны спеў без слоў...
Ах, колькі сёлета буслоў
Упрочкі мкне и яго радзімы!
Дарога сцелецца абрусам.
Рыпіць пад коламі жарства,
І пахне чабаром і Руссю,
І хутка ўжо Масква... Масква!

14

Вось тут бы, ля вякоў парога,
З старых, замшэлых веж Крамля
І прачытаць, каб ўся зямля
Пачула водгулле былога —
Трагедыю жыцця народа!
Хоць больш дзвюх соцень год сплыло,
Як адшумела непагода,
А як гучала б і жыло
Тут слова хітрага юрода,
Барысу кінутае мельгам:
«За злодзея маліцца нельга,
Бо маці божая гразіцца —
За Ірада-цара маліцца...»
Вярыгі грымнула жалеза...
«Мяне зарэжаш, як зарэзаць

Сказаў царэвіча малога...»
І зноў вярыг іржавых скрогат...

«Падай капеечку...» Рука
Знаходзіць дробязь у кішэні...
Бражджыць скарбонка жабрака...
Як звыкла ўсё. Здароў, блажэнны,
І сорак іншых саракоў,
І тлум галодных жабракоў.
Здарова, матухна-сталіца!
Слязьмі ці доўга табе ліцца,
Што не змясціць ў Масква-рацэ,
Стаяць з скарбонкаю ў руцэ,
Ўздыхаць, цярпець, стагнаць, маліцца;
Калі ж ужо занадта млосна —
Маўчаць, але маўчаць галосна.

Так, зухаваты быў юрод —
Акцёр і дыпламат нядрэнны,
Ў ім увасоблены народ,
Такі ж адважны і хітрэнны.
А ён, што скажа ён цару,
Які чакае у палацы?
Што й ён бы сустракаў зару
Там, з тымі на пляцу Сенацкім,
Той самы ён, якім быў перш,
І яго песні — тыя ж песні;
Ці ж не яго шчаслівы верш
На тайным знаку быў накрэслен!

Ў Маскве сустрэў ён хлебасольства,
Гасціннасць, ветлівасць, любоў.
Штодня з'яўлялася пасольства
Адзінадумцаў і сяброў.
Паэт у тэатральнай ложы,
І ўсе глядзяць, і ўсе ўстаюць;
З усмешкай кіслаю вяльможы
Руку паэту падаюць.
Яго вітаюць ўсе салоны,
Яму зайздросцяць, тупа кпяць,
І літаратар, пёс шалёны,
Паспрабаваў ужо кусаць.

Ў палацы, у вышэйшых колах
Яго зварот пасеяў сполах.

13*

Яго, так званыя, «бонмо»
На зрэнках «свету», як бяльмо.
Яго не любяць і баяцца,
Ён іх няшчасце, ён іх жах.
Ох, як умее ён смяяцца!
Заўжды ён з імі на нажах.
Ім не зрабіць яго рахманым,
Царкве і трону паслухмяным,
Ён не даруе, не прабачыць,
Ў ім «джала мудрае змяі»,
Яго ніщто не перайначыць,
Нянавісць вораг затаіў:
Цішком, лісліва, спакваля
Віецца, месціцца каля
Яго жыцця, яго спакою;
Сваёю бруднаю рукою
Душу паэтаву кранае —
Душа паэта замінае!
Адзінае імкненне-мэта —
Знішчожыць дзёрзкага паэта.

15

Валконскую Марыю ўчора
Праводзілі ў далёкі шлях.
І памяці яго пячора,
Дзе захаваны боль і жах
Няздзейсненага спадзявання,
Надзеі ўсіх масцей і фарб,
І слодыч першага кахання,
І горыч здрады — цяжкі скарб,—
Вяртаць пячора неахвоча,
Хоць гаспадар таго і хоча.

Такой павінна быць жанчына.
Такой і знаў яе здаўна,
Калі была яшчэ яна
Дзіцяча-кволаю дзяўчынай.
Магчыма, ён кахаў. Магчыма,
Яна хавала пачуццё.
Глядзела ў белы свет, жыццё
Не тымі, як усе, вачыма.
Любіла вершы, густ адменны
Тады адзначыў у яе;

Дзіцячай шчырасцю сагрэты,
Ёй даручаў свае сакрэты
І вершы прысвячаў свае.
Яна найлепшым, па ўсяму,
Была б апірышчам яму;
Магчыма, ў ёй знайшоў бы шчасце,
І жыць было б куды лягчэй,
Каб нейкі выпадак не засціў
Яму святла яе вачэй.
Ці гэткаю была б Тацяна?

Ці прамяняла б свету вір
На невядомасць, на Сібір,
Дзе ўсё сурова, марна, цьмяна,
Ва імя свайго пераканання,
Ва імя найлепшага сябра,
Ва імя вялікага кахання
І ўсеагульнага дабра.

Ён быў у нейкім расчуленні.
Яшчэ крыху — дайшло б да слёз.
Жанчыны гэтай мужнай лёс
(А ўсё ж не стала на калені
Перад сапраўднасцю гвалтоўнай!)
На нейкі выклікаў слату,
А потым радасцю запоўніў
Ў асмяглым сэрцы пустату.

І што за гэткае насланне!
Усё, што дорага яму,
Асуджана на смерць, выгнанне,
На боль, пакуту, на турму.
Ён перадаў сябрам пасланне,
Да іх у думках завітаў,
Руку Марыі ён падаў
На шчасце і на развітанне.

16

І па Ўладзімірскай дарозе,
Душой праводзячы сяброў,
Блукаў самотны, у знямозе,
Між шэрых верставых слупоў
Вялікі Пушкін. Усё жыццё

Аддаць для велічы радзімы,
Крывёю сцвердзіць пачуццё,
Прадбачыць светлыя гадзіны,
Надзею пеставаць, любіць,
Нішто і нікога не забыць —
Тунгуса, калмыка і фіна,—
У кожным бачыць пабраціма
І верыць, верыць да астання
(Нават тады, калі свінец
Прайшоў у грудзі і... канец),
Што Русь ад сну свайго паўстане,—
Такім быў ён. У часе працы,
На балі ў велічным палацы...

Застылі ў смутку і трывозе
Капцы глухія. На дарозе —
Грыміць канвой, рыпяць драбіны,
І для начлега ўжо прыпынак,
І амуніцыя — у груд...

Далёка да сібірскіх руд!

17

Вясна спазнілася. Шыпшыннік,
Язмін амаль дагналі бэз.
Агонь курослепу ўжо чэз
Пад кволым каптурком пушынак,
Жучка не ўбачыш залатога
Ў махрыстым харастве вянца,
І хутка летняя знямога,
Ўспамінаў млявая лянца:
Пра плесню першую аселіц,
Пра бель чаромхавых мяцеліц.
Ва ўсім, усюды, скрозь — каханне.
Аб ім нам сведчыць і струмень,
І весні сонечны прамень,
І ветру млявае дыханне.
Будзённы дзень здаецца святам,
І столькі ў нас шляхоў-пуцін!..
Мы незнаёмца клічам сватам,
Нам недруг — сябр і пабрацім.
Вось і прыйшло яно, каханне,
Вялікае, як сам паэт,

Усе ў ім гамы адчування,
Увесь цалюткі белы свет.
Зімой мінулаю на бале
Ён з Ганчаровою Наталляй
Сустрэўся. Быў зачараваны
Яе вясёлым харaством
І поглядам падараваным,
І нейкім вонкавым радством
З жанчынаю, даўней ім знанай
І, можа, нават і каханай.
Мінула квадра маладосці,
І сталасць завітала ў госці,
А з ёй надзея ажыла
На ўцехі ўласнага кубла,
На радасць ціхага утулку —
Ад навальніц і бур прытулку.

З гадамі, ведама, цьмянее
Ланцуг злацаны Гіменея —
Турботы, клопаты праз край;
Глядзіш — каханне і паблекла,
А тое, што лічыў за рай,
Ператвараецца у пекла.
Але аб гэтым мала дбаюць —
Спрадвек кахалі і кахаюць.
Развязана ў наш час пытанне
Адносна шлюбу і кахання.
Няма надрыву, шалу, віру,
Адчаю, роспачы, страсцей —
Кахаем здорава і шчыра,
Тым больш прыгожа, чым прасцей.
Таму на сцэне ў нас цяпер
Не прыжывецца адзюльтэр,
А персанаж з старога фарса —
Ён рэдак, як улетку снег,—
Здаецца нам аднекуль з Марса,
Агіду будзіць, а не смех.
Інакшай стала і жанчына:
Не корань зла цяпер яна,
Не посуд грэху, не прычына,
Якой знімалася віна
З усіх сапраўды вінаватых.
Калісьці быў у нашы хаты
Прыдбаны кволы, рэдкі фрукт,

Заходняй мудрасці прадукт:
«Як хочаш зла спазнаць прычыну —
«Шэршэ ля фам — шукай жанчыну».
Такія прыказкі ўстарэлі
І намі кінуты ў архіў,
Дзе іншай дрэні варахі,
У чым патрэбны не сустрэлі
Мы, людзі новай грамады.
Ляжаць ім там, такой бяды!
У нашых душахззяе сонца,
І смутак вычарпан да донца,
І пачуцці цвітуць, як бэз,
І ў гэтай справе мы лікбез
Прайшлі й забыліся здаўна.
Таму я не магу дагэтуль
Другому даравань паэту
Аб быт разбітага чаўна.
Каханне! Гэтай рэччу крохкай
Умее ў наш савецкі век
Валодаць новы чалавек.
Даўней кахаць было нялёгка.
Ледзь пакахаў паэт, ледзь здолеў
Сябе самога зразумець,
І... ўсе вакол, як на вуголлях.
Кпіць пачалі, сіпець, шыпець.
З вялікасвецкіх завуголляў
Шэпт пераростае ў набат —
Гудзе на ўвесь сталічны град,
На ўсё расійскае прыволле:
— Ну як жа можна: літаратар!
Няхай сабе яшчэ б аматар,
А гэта ж — прафесіянал!
— А да таго — яго прыбыткі?
Якія мае ён набыткі?
Як дасць, напрыклад, скажам, бал?
— Паэт — брат дэрвішу!
Адменна!
— Запомніце: ён скончыць дрэнна!
— Ён непрыгожы, болей — брыдкі!
— Ён пад наглядам, па ўсяму!
— Што пойдзе ў спадчыну яму?
— Не, ён хлапец занадта прыткі
І да таго ж спазнаў прыгод,
А ёй адно шаснаццаць год!

— Яму ж не вылезці з пазык...
— Ах, бог мой, а язык, язык!
То ж не язык, а скарпіён!
— Вальтарыянец ён... масон...
А да ўсяго яшчэ бязбожнік...
— Галаварэз, і не з апошніх...
— Дальбог, ён горш за дэлібаша...
— Ах, гэта бедная Наташа...
Дзе плявузгам і плёткам дно?
Усе згаджаюцца ў адно,
І паасобку кожны з іх,
Што Пушкін... гэта не жаніх.
Хоць гань яго, а хоць хвалі —
Зарана замуж Наталі!
Ну, а сама Наташа што?
Ды што, яна сабе нішто.
Яна падобна да дзіцяці,
Ва ўсім слухмяна волі маці.
Пакуль ніць сватання снуецца,
Яна жартуе і смяецца.
У ёй пацверджанне ён мае,
Што гэта праўда, не мана —
Чым больш жанчыну мы кахаем,
Тым менш кахае нас яна.
Ён нешчаслівец у каханні...
Скрозь праз жыццё — выпрабаванні.
Так сватанне і не ўдалося.
Праз край, як кажуць, пралілося,
Нат болей: келіх быў пусты.
І вабяць зноў дарог скуты.
Што ж заставалася паэту?
Згадаць: «Карэту мне, карэту!»

18

Каўказ, Каўказ! Даўно ён марыў
Адчуць вятроў тваіх на твары
Пяшчотны, ласкавы павеў,
Ступіць на гор тваіх вяршыні,
У прэрвы глянуць, у цясніны,
Пачуць патокаў бурных рэў
І з імі рушыць у нізіны,
Дзе мкнуць між буйнай зеляніны
Кура, Арагва і Рыён,

Дзе вінаграду спеюць гронкі,
Дзе песні мілагучны, звонкі...
Аб чым яшчэ мог марыць ён?
Вядома, ён бы не пярэчыў
Супроць шчаслівае сустрэчы
З знаёмцам добрым ці з сябром;
Сяброў знайсці ў тваім народзе,
Укрыцца буркаю ў паходзе,
Сустрэцца ў бойцы з варагом...
Магчыма, чуў ён і аб славе
Шата вялікага з Руставі,
Праз доўгі цяг вякоў жывой,
Знаў верш ягоны неўміручы,
Як гэтых гор каменных кручы,
Што звіслі тут над галавой.
Хацеў бы, можа, сам парою
Ва ўсім падобным быць герою
Тваёй аповесці, Каўказ,
Перамагчы выпрабаванні,
Каб у сяброўстве і ў каханні
Станоўчы атрымаць адказ.
І што б тады ўсе перашкоды,
Пакуты ўсе і ўсе нягоды?..
І ўжо яму здаваўся ледзь
Не дабрачынным барсаў кіпець...
Ён верш любіў,
як келіх, выпіць
І нават крыху захмялець.
Падобен верш п'янному зеллю,
І ад таго, магчыма, хмелю
Сярод Каўказскіх пуцявін
Ён паўтараў бы словы песні,
Пявучае, як ветрык весні,
Імя красуні Цінацін.

. . . . . . . . . . . . .

Ланцуг казацкага канвою...
Арба з засмоленай труною —
З гары насустрач, ледзь не ўскач...
Душою ён прадчуў, праведаў:
— Каго вязеш?
— А, Грыбаеда!..
О, гора розуму! Хоць плач!
Так давялося ім сустрэцца,

А больш ужо не давядзецца.
З бядой стыкнуў яго Каўказ.
Збіраў аскепкі даўняй мары,
І ў прадчуванні новай кары
Каменным твару быў выраз.
Так мары даўнія збыліся:
Ён апынуўся у Тыфлісе
І тут на нейкі час захрас.
І ўсё не тым было наяве,
Абскубенай падобен паве,
Перад паэтам лёг Каўказ.
Ў стракатай сумятні будзённай,
У гуках песні задумённай,
У жартах вострых тамады...
Кантрастаў шэрагі няўтольных:
Жабрацтва й бляск, народ-нявольнік
І здзек вышэйшай грамады.
Народ, што ведаў ён як племя
Тых кавалёў, якія лемех,
Меч, спеў куюць спакон вякоў,—
Гібеў гаротны і пакутны
Пад жорсткаю і ўсемагутнай
Князёў уладай і князькоў.
Усюды пусташ і руіны.
На целе змучанай краіны
Злачынства дзікага сляды.
Надзей не страціўшы, асманы
Усё яшчэ бярэдзяць раны,
І ці далёка да бяды!
А ён краіне зычыў плёну —
Пасля персіцкага палону,
Пасля турэцкага кала
Не ўстрэцца з доляю былою,
Каб Русь не мачыхаю злою,
А маці роднаю была.
Прыйшоў, нарэшце, ліст жаданы:
Раеўскі кліча, сябр адданы,
І бог, чужы паэту, Марс.
Зноў піць яму з дарожнай плягі,
І ён пытаецца, дзе лагер
І ці далёка «гэты Карс».
І вось мяжа. Сыны Расіі
Яе крывёю арасілі,
Каб радасць знялі, не адчай

Праз век пакутныя армяне.
Рака ў дажджу густым тумане.
Якая назва — Арапчай!
Дні адзвінелі залатыя.
Сябры — і тыя, і не тыя...
Не, часам не пазнаць сяброў.
Багата часу пралілося,
І мала, мала засталося
Ад племя вольнага зуброў.
Вальхоўскі, Бурцаў, Міша Пушчын
Захраслі моцна ў гэтай гушчы
Салдацкай кашы, злых дарог,
Ідуць, брыдуць па іх без мэты,
І тых, далёкіх, запаветы,
Бог ведае, ці хто збярог!
— Ну як там, як там у сталіцы?
— Ды так, няма чым пахваліцца —
Туга, сумота, вецер сціх...
— Як там званы літаратурні?
— Як і даўней: дадзелі дурні,
Ды іх бязглуздзе — супраць іх.
— Што дурні! Іх і тут нямала...
А помніш, помніш, як бывала...
Ах, Саша, Саша дарагі!..
Няўжо ўсе мары — тло, руіны?..
Нібы каштоўнасці, ўспаміны
Перабіралі дзень, другі...

. . . . . . . . . . . . .

— А тут у вас, сябры, няблага:
Заўсёды пеністага пляга —
Такога я нідзе не піў,
Паспаць, паесці добра можна,
Пажартаваць, хоць асцярожна...
Як і заўсёды, Пушкін кпіў.
— Калі ў дарозе не загіну.
Сюды Анегіна закіну.
Тут жыць яму і паміраць.
Пакрыўджаным, расчараваным,
Людзьмі і богам занядбаным —
Тут месца. Так таму й бываць.
Ён кпіў... Але расчараванне,
Неапраўданае чаканне...
Усё не гэтак і не так.

Усё забыта, занядбана,
Жыццё ідзе бяздарна, танна —
Той — баязлівец, той — дзівак.
Тут знаюць выпіць, пахмяліцца,
Не мінуць, каб не пахваліцца
Сваёй сапраўднаю гурдой,
Сваёю моднаю чаркескай,
Трафейнаю турэцкай фескай,
Рукою, пэйнай і цвярдой...

. . . . . . . . . . . . . . .

Яму пара. Бо ўсё дадзела:
Зара, што тут не так ірдзела,
І вільгаць, і гарачыня,
І твары, што глядзяць няшчыра,
Палац і еўнух Сераскіра,
Туга, спякота, цішыня.
Бо зноў яго радзіма кліча,
Бо Русі светлае аблічча
У яве бачыць ён і сніць.
Скрозь... як пастылае каханне...
Ужо не вабіць пазяханне
Арзрумскай крэпасці байніц.
І час прыходзіць адвітання...
Сядзелі позна, да світання,
Зноў келіх выпілі, другі...
Ён абяцаў прыслаць ім вершы,
А ў горле пачынала першыць
Ад расчулення і тугі.
Абраных кола засталося,
І слова іншае лілося,
Змываючы будзённы бруд,
І твары раптам спахмурнелі,
І моўчкі узнімалі келіх
За тых, што ў тле сібірскіх руд.

19

Плыве аб ім благая слава —
Слыне задзіраю з задзір.
Якім жа й быць яму, ей-права?
Не, сэрца вогненная лава
І камер-юнкерскі мундзір
Ніяк не могуць пагадзіцца.

Kроў у яго, а ці вадзіца?
І ён клякоча і кіпіць,
Жартуе, джаліць, злосна кпіць.
І як рака віруе ўвесну,
Так ён выходзіць з берагоў,
І нішчаць, нішчаць варагоў
Паводкі хвалі... Пэўна, цесным
Быў камер-юнкерскі мундзір,
Падараваны царскай ласкай
(Цара зычлівасць — толькі казка,
І нават горай казкі — здзек).
Паэт не згодзіцца на мір —
Ён Грамадзянін, Чалавек.
О, лепш было яму памерці,
Калі пад Саганлу, ў баі,
На самым агнявым буі
Шукаў і не знаходзіў смерці.
Яму здаецца: ён адзін,
У мёртвым холадзе ільдзін,
Гарыць агнём незагасімым.
Бы ў сне мінаюць леты, зімы —
Бясплодны цяг пустых гадзін...
Не растапіць яму ільдзін!
Папросту, кажучы між намі,
Не задаволен ён сябрамі.
Як лёд, усе яны застыглі,
Нібы расплаўлены метал
Застыў у схаладзелым тыглі...
Туга вырастала у шал...
Не, уцячы б куды... далёка...
У тройчы блаславены край...
Ды дзе ён? Дзе ён, гэты рай?
Усюды — пан! Усюды — лёкай!
Душа гарыць. Адным-адзіны.
Пусты вялікі белы свет.
Не стала Дэльвіга. Паэт
Перабірае успаміны.
Суровы век. Туга і жах.
Як здань з'яўляецца ў вачах
Вільгельм, які яго ўгледзеў.
Калі іх не стыкнуць не мог
Сам лёс, на скрыжаванні недзе
Расійскіх блытаных дарог.
Як ён абняў, як ашчаперыў...

Глядзеў і веры даць не смеў,
Ды і цяпер яшчэ не верыў,
Што гэта сталася не ў сне,—
Жыццё здзяйсняе часам мары.
Яму ў Сібір лёг шлях тады
Са Шлісельбурга, і жандары
Іх разнялі. Гады! Гады!
Дзе ты, мой сябар лепшы, Пушчын?
Чаму я, між сляпых відушчы,
Блукаць павінен, як сляпы?
Вакол — слупы, слупы, слупы...
Тыранства, цемры вартавыя,
Перад якімі хіляць шыі.
Слупы царквы, дзяржавы, трона,
Слупы злацаныя мамоны,
У эпалетах і пагонах,
І чорных шыбеніц слупы...
І архіслуп — той, пад каронай,—
Шэдэрны, жорсткі і тупы.
Наталля што... яна дзіця,
Яна не ведае жыцця —
Адно балы ды туалеты...
Ніхто, ніхто не разумее
Яго імкненняў, яго мэты...
Але ж у ім ёсць мудрасць змея,
Няхай сабе даспела змова,
Ён мае зброю. Зброя — слова.
Паэтаў гнеў для іх забаўны,
Ўсе рады раздзьмухаць пажар:
— Ах! Ах! Наталля Мікалаўна!..
— Ёю цікавіцца сам цар!
— Яна сапраўдная царыца...
Царыца балу...
— Не, чаму ж!
— Такою жонкай ганарыцца
Павінен кожны добры муж...
І што ні слова — шпількі, церні.
О, як іх адчуваў паэт
За сціплай формулаю чэрні,
Імя якой — «вышэйшы свет»!
Няма ад ворагаў адхлання —
Шпегоўства, чорная злаба,
На вуснах словы прывітання,
Але не ведае хіба

Паэт цаны тых дабрадзеяў,
Ад Мікалаяў да Фадзеяў!
Нікчэмнасць, пыха, фальш і бруд...
Не, лепш бы ў глыб сібірскіх руд!
А вораг б'е не без майстэрства...
О, сэрца чэрствае, з дуплом,
Дзе ўпотай гнездзіцца шэдэрства!
Вось перад ім ляжыць дыплом,
Дыплом на годнасць раганосца.
Ён вырашае ўсё адразу:
Не, да бар'ера, ягамосцю,
Крывёю толькі змыць абразу!
Сабой валодаць — не вучыцца,
Здаўна вучыўся пакрысе,
Не, не шалёная ваўчыца
Нікчэмнай рэўнасці грызе
Паэта ў цемры гэтай ночы.
Праз цьмянь заплюшчаных павек
Глядзяць уперад яго вочы,
У іншы, невядомы век.
І розум раптам нішчыць межы,
Што марна час нагарадзіў:
Імя маё не мне належыць,
А той, хто ўсіх нас спарадзіў,—
Айчыне-маці. І хачу я
(Хто мае вушы, хай пачуе)
Яго без пляміны адзінай
Высока ўзнесці над Радзімай!

. . . . . . . . . . . . . . .

Марозна. Сонца. Моцны вецер.
Данзас супуціўся, як цецер.
Маўчыць збянтэжаны Данзас.
Імкліўіць час? Марудзіць час?
Як палазы рыпяць! Паэта
Цікавіць стрэчная карэта.
Ён нават жартаваць спрабуе,
Пры ім і пачуццё і розум:
Цяпер належыць быць цвярозым,
А конь шыбуе і шыбуе...
Асснежаны прыціхлы бор...
Страляць... Страляць адно ва ўпор...
Сцяжынку ў снезе пратапталі...
Хтось кінуў плашч... Вось ён, бар'ер!

Ну што ж, сыходзіцца... Цяпер
Жыццё і смерць ляглі на шалі.

. . . . . . . . . . . . .

Жыццё спынілася і... міма.
Натоўп перад яго дзвярыма
Не разыходзіцца, стаіць.
Усе чакаюць у надзеі,
Што не, не абарвецца ніць...
Канец?
Няма канца бядзе іх.
Агонь пагас. Узор фіранак
Здаецца нейкім вычварным...
Мінае ноч, і хутка ранак,
І з комінаў струменіць дым.
Шуршыць пад вокнамі салома...
Трывожны шэпт глухой гамонкі
І цокат капытоў нязвонкі
Чуваць штохвілю воддаль дома...
Жыццё, жыццё! Яму цячы
Нават тады, калі ўначы...

. . . . . . . . . . . .

Душы высокія імкненні
Не кануць марна ў бездань год,
Не згінуць праца, летуценні,
Жыццё ўсё ў цела й кроў надзене
І дасць у час і цвет і плод.

*1948—1958*

14 Зак. 552



# ПЕСНЯ ПРА ТУРКМЕНСКІ КАНАЛ

## 1

Я адгадаў,
Туркменія,
Тугу спрадвечных дум:
Сыпучая, каменная
Пустэльня Каракум!

Вякамі падначалена
Гульні пясчаных бур.
Як карабель, прычалена
Да прыстані віхур.

Без меж, прасторы вольныя,—
Мільёны га зямлі
Вятры, вятры няўмольныя
Занеслі, замялі.

Парэпіны, праваліны,
Праедзь з канца ў канец —
Гарачым сонцам спалены
Пясок ды саланец.

Нішто не ззяе фарбамі,
Нішто не цешыць зрок,
Нібы з вясёлак скарбамі
Не знацца дан зарок.

Ўсё сонцу падначалена:
Пясок, трава, вада;
Ўсё колеру мачаліны
І шэрсці вярблюда.

Атары скрозь кашчавыя —
Які ўжо там нагул,

Дзе палыны гаркавыя
Ды жорсткі саксаул.

Бляюць ягняты...
гора ім —
Дзень без вады цяжкі!
Саланчакі —
азёрамі
Ды хвалямі —
пяскі.

Нібыта лёс ім вызначыў
Спыніць падзей ваду,
І людзі чэзлі, трызнячы
Пра кветкі і ваду.

Глядзяць жанчыны знорана
У пяскоў куравы вір;
Дарэмна, ўстаўшы з зорамі,
Бяруцца за чыгір [1],

Бо жоўкнуць ледзь зялёныя,
Мізэрныя палі,
Хоць ты вазьмі салонаю
Слязой зямлю палі.

Ткучы дыван, за кроснамі
Век трызнілі яны
Пярэстымі і роснымі
Суквеццямі вясны,

І вінаграду гронкамі,
І пазалотай ніў,
І ручаямі звонкімі,
З якіх бы піў і піў.

Ды вочы неаслеплыя,
Зірнуўшы на дыван,
Знаходзяць мары светлыя
Твае, Туркменістан.

---

[1] Чыгір — кола з чарпакамі, пры дапамозе якога вада з калодзежа падаецца на палі.

Ляжыць аазіс казусам
Між прысаку бархан,
А трэба, каб аазісам
Быў скрозь Туркменістан.

2

Абпален сонца спёкаю,
Пяе стары чабан
Пра даўніну глыбокую
Тваю, Туркменістан.

І раптам новай песняю
Звініць дамбры струна,
І песні гэтай цеснаю
Здаецца старана,

Дзе рэха, тройчы звонкае,
У пясках заглухшы злых,
Не пестуе гамонкаю
Наш чалавечы слых.

Над роднымі прасторамі
Мкне песня ўдалячынь,
Лунаючы пад зорамі
Айчыны ўсіх айчын;

Вясёлкай гукаў ззяючы
У прасцяг маскоўскіх меж,
Мільгнула, дзень вітаючы,
Каля Крамлёўскіх веж;

Шчаслівы гэты дзень яе,
Вясёлай, маладой...
Цяпер, цяпер,
Туркменія,
Гаворыць Крэмль з табой!

Мінулі дні суровыя
І канулі ў вякі.
Час новы накіроўвае
У пустэльню плынь ракі.

І коціць хвалі шкляныя,
Слухмяныя яму,

Вякамі неслухмяная
Рака Джайхун-Аму [1],

Закон вякоў аспрэчыўшы,
Папраўшы іх прэстыж,
Па старадаўнім рэчышчы
Імкне ў Сарыкамыш.

І, растварыўшы хвалямі
Кель-Кору саланцы,
Пад Краснаводска скаламі,
Дзе ўсіх шляхоў канцы,—

Зацугленай, стрыножанай
Упасці ёй дано,
Нарэшце пераможанай,
У Каспія лано.

А песня акрылёная
Вяртаецца у край,
Жывая і натхнёная,
Вясёлая, як май.

І вольна разлягаецца,
Імчыць, як шумны вал,
І рэхам адбіваецца
Між каляровых скал,

Жывіцай звонка-срэбнаю
Ліецца ў мёртвы стэп —
Магутная, патрэбная,
Як наш надзённы хлеб.

У песні ўсё улічана,
У песні — мэта мэт;
Уладна ўперад кліча нас,
У шчасны новы свет.

Яна, як друг, надзейная
У радасці, бядзе,
У жорсткі бой вядзе яна,
І ў мір яна вядзе.

---

[1] Джайхун — шалёны. Так называюць Амудар'ю.

Наперад!.. Зоркай яснаю
Нас вабіць напрасткі
У камунізма шчасныя
Праменныя вякі.

І песню працы шчырую
Прымаюць, як загад,
Шырокі стэп Башкірыі
І слаўны Ашхабад,

І край, дзе пенай пырскае
Імклівая Кура,
І роўнядзі сібірскія,
Мой Мінск і Бухара.

3

Знаёмымі дарогамі
З пятнаццаці канцоў
Шлём з весткай перамогі мы
У камунізм ганцоў.

Руплівыя ды ладныя
Да стром Амудар'і
Спяшаюцца сапраўдныя
Яе гаспадары.

Дзяржавы радасць множачы,
Усякі з іх жадзён
Служыць, служыць, хто можа чым,
Будоўлі нашых дзён.

З легенды людзі-волаты,
У кожнага амаль
Ці зоркі ззяе золата,
Ці ордэн, ці медаль.

Людзям тым накавана
Усё спазнаць і знаць,
Таго, што некаштована,—
Пакаштаваць, спытаць;

Што быццам немагчымае —
Спазнаць і зразумець,

І, жывучы айчынаю,
Дзярзаць, трываць і смець.

Такі наш час няўрымслівы,
Такі ужо наш век
І край наш, дзе нямыслімы
Інакшы чалавек.

Хай скажа наша партыя,
Хай скажа наш урад —
Выконвае упарта ён
Любы, любы загад.

Загадана — адказана
Маланкаю, ураз.
Без красамоўства блазна,
Без розных выкрунтас.

Як стрэл, што косіць ворага
Кароткім словам — ёсць!
Пачуеш — люба-дорага,
На сэрцы весялосць.

Вось тым і доля красная,
Што ўсё ідзе улад —
Жаданне наша ўласнае
І партыі загад.

4

Устань жа, сонца яснае,
Прамень пераламі.
На тое ты і краснае,
Каб красаваць зямлі.

На тое ты і шчэдрае,
Каб там, дзе жвір-пясок,
Дзе глеба марна пстрае,—
Жыцця струменіў ток.

А ты, вада імклівая
Джайхун — Аму-ракі,
Нястрымная,
бурлівая,
Цячы ва ўсе бакі.

Каналамі, арыкамі —
Віруй, звані, гудзі,
Чаруй жывымі зыкамі,
Пустэльню абудзі.

Не будуць больш аголены
Ляжаць зямлі пласты.
Барханы, як жывёліны,
Падтульваюць хвасты,

Паміж сабою раяцца,—
Далёкі лёг ім пуць,—
У небыццё збіраюцца
І хутка адпаўзуць.

Мы не варожым надвая —
Не, варажыць не нам!
Уладна мы загадваем
Суцішыцца вятрам!

Гуляйце над плацінамі,
Кружыце ветракі,
Пад белымі галінамі
Хвалюйце гладзь ракі.

Няхай ваш подых радуе
(Умеру сабе дзьмі),
Служыце верай-праўдаю,
Сябруючы з людзьмі.

Даволі ўжо бадзякамі
У пясках гультаяваць.
За працу! У падзяку мы
Вам будзем падпяваць.

Знаёмая мелодыя,
Мелодыя вятроў!
Хвалюе і валодае...
А словы... будзь здароў!..

А словы самі створым мы —
І лепшых не набыць —
Пяшчотнымі, суворымі
Яны павінны быць.

5

Чарджоў працуе горача —
Агеньчыкі, агні!
Імкнуць, хутка гаворачы,
За цягніком цягнік.

З'язджаюцца работнікі —
Цвіце людзьмі перон:
Прыслалі лепшых «Воднікі»,
«Туркводпраект», «Эпрон»;

З завода, з акадэміі,
Ад фрэза і пяра —
Якіх адзначыць прэміяй
Ужо даўно пара.

У тога працы тоўшчы,
Той практык, знаны ўсім,
А хто з іх не вядомы шчэ,
Напэўна, будзе ім.

Шляхі, дарогі дальнія!
— Прыехалі!
Якшы!
І песні прывітальныя
Складаюць ім бахшы [1].

К вагонам кран прытуліцца —
На захад жэзл, на ўсход,—
Зялёнай вольнай вуліцай
Ізноў на поўны ход.

З адзінаю адзнакаю —
Уславіць працай век —
У стэп Кара-Калпакіі
Прыходзіць чалавек.

Экзотыкі ён таннае
Не ведае спакус,
Руплівая, старанная
Мкне моладзь у Нукус.

---

[1] Бахшы — народныя песняры.

А там і вольна й шырака
Для явы і для мар,
І проза працы — лірыка,
І кожны сам — пясняр.

Напруж сталёвасць мускула
І розум завастры —
З мундзіра вучня
вузкага
Выростай у майстры.

Спрабуй бетону месіва,
Стырно ў руку бяры,
Красай скалу, як крэсіва,—
Капай, свідруй, буры.

Маленькі, але важненькі
Шуміць Тахіяташ —
Складанейшы мантажнікі
Распачалі мантаж.

Мантаж лабараторыі,
Дастаўленай сюды,
Каб дапісаць гісторыю
Бязводдзя і вады,

Самім жыццём ухваленай,
Людзям дапамагчы:
У пясках краіны спаленай
Знайсці крыніц ключы.

Сюды няспынна маршамі,
Па шумавінні хваль,
Плывуць буксіры з баржамі,
Вязуць цэмент і сталь.

Агні, агні, агеньчыкі!
Пах нафты, маслаў пах.
Пясок, жвірок, каменьчыкі
На вуснах, на зубах.

Рукавы ўжо закасваюць,
І ўжо не мары ўзлёт,—
Па-над канала трасаю
Ўзмывае самалёт.

І сення пошта-авія,
Учорашняму ўслед,
У Ашхабад даставіла
З Масквы, з ЦК пакет.

6

Амаль забытай тропкаю,
На даўнасці манер,
Хадою нетаропкаю
Сігае драмадэр,

За ім другі, у цесную
Запрэжаны арбу,—
Людзям вадзіцу прэсную
Прынеслі на гарбу.

Устаць з лагва прымушаны,
Напрогшыся як след,
Дзьме вецер, дзьме раз'юшаны
І замятае след.

А хутка ўбачыць прыйдзецца,
Што пойдзе ўсё не так,—
Не будзе болей крыўдзіцца
На нас вярблюд-бядак,

Бо не пашлём скаціны мы
Ў шматмільную бяду:
За моцнымі плацінамі
Збіраем мы ваду.

Улічана, прадбачана,
Усё ідзе на лад,
Дакладна ў час прызначаны
Абрушыць вадаспад.

Страшную плынь кіпучую,
Праз грабяні плацін,
Усёй грымучай кручаю —
На лопасці турбін.

Спякота... Сонца... Градусаў
Лічы — хоць не лічы!

Чакай, чакай і радуйся,
Што халадок к начы;

Сам дзень яго не менш чакаў,
І вось закат сатлеў.
Брыгада аўтагеншчыкаў
У сініх зор святле

Варыла, гнула, рэзала,
Наддаючы накал,
Злавалася,
гарэзіла...
І ўжо ярчэў метал,

І, якасці патрэбнае
Дасягшы,—
ледзь не цёк...
З гарэлкі ж іскра срэбная
Сігналіла ў шчыток.

Ў кар'ер брыгады ладзяцца —
Чуваць вячэры пах;
А змрок павольна крадзецца
Хадою чарапах.

Далёкіх, блізкіх вогнішчаў
Бліскучы паясок.
Не зможаны сягоння шчэ,
У вочы б'е пясок.

І над вячэрняй зменаю,
Што стала у страі,
Ноч сее поўнай жменяю
Сузор'і і раі.

А тым, хто па-за зменаю,—
Да ранняя спачываць,
Здаровую, прыемную
Утому адчуваць.

І раптам... Выбух грымнецца
Ў густы настой начы,—
Зухавы хлопец вымкнецца:
— Пайсці дапамагчы!..

А там ужо аскепкамі
Лягла скала у друз,
І механізмы чэпкімі
Рукамі цягнуць груз;

Драглайну ўжо дарога там —
Сігнуў, як па шашы,
Ссыпаючы са скрогатам
Шматтонныя каўшы.

Зямля... Вада... І багнаю
Утворан буйны бунт,
А земснарады прагныя
Размыты гоняць грунт.

Агні, агні, агеньчыкі!
Пах нафты, маслаў пах;
Пясок, жвірок, каменьчыкі
На вуснах, на зубах.

А ноч!
А ў ноч угледзецца —
Плыве маладзічок,
Па-над Дар'ёй Мядзведзіца
Схіліла чарпачок.

7

Маё. І мне трывожыцца.
Таму я і пяю —
Ажыць ёй і ўпрыгожыцца —
Туркменію маю.

Душа паэта гэткая:
Жыццём народа жыць,
Над бацькаўшчыны кветкаю
У клопатах кружыць.

Душа паэта чулая,
Ёй дадзена гарэць.
За ўсё: за люд, аул яго,
За край яго — хварэць.

Я зноў гляджу ў мінулае
Тваё, Туркменістан...

Чуваць мальба прачулая:
«Дажджу, дажджу, султан...» [1]

У небыццё уліты, сціх
Часоў тых крык, калі
Прасіў вады,
як літасці,
Паэт Махтумкулі.

І зноў, і зноў, блукаючы
На ростанях дарог,
Дарэмна абіваючы
Пустых нябёс парог,

Той крык з засмяглых губ яго
«Дажджу ісці дазволь!»
У пустцы, тхнуўшай згубаю,
Гучаў, як гнеў, як боль.

А сёння сталі яваю
Жывой паэта сны —
Жывуць не марай млявую
Туркменіі сыны.

З прыродай выйшлі дужацца,
І сіл у нас стае,
І колькі ёй не тужыцца —
Мы здолеем яе.

Бар'ерамі зялёнымі
Жывых шумлівых дрэў,
Дзе ветру па-над кронамі
Ледзь трапяткі павеў,

Дзе лёгка адчуваецца
Прыемны халадок,
Куды спачыць спяшаецца
Здарожаны хадок,—

Жывымі агароджамі
Садоў, кустоў, лясоў —

---

[1] З вершаў паэта Махтумкулі, вядомага народнага песняра Туркменіі. Жыў у XVIII ст.

Цяністымі,
                прыгожымі —
Атулім шыр палёў.

Багата пачынальнікаў
Набыў зялёны рух.
У дрэвагадавальніках
Не пакладаюць рук.

Вырошчваюць багацце іх
Сяло, кішлак, аул —
І белыя акацыі,
І чорны саксаул.

Не знішчаць справы шчырасці
Спякота, сухавей.
Расці, расці і вырасці
Інжыру і айве.

І пад рукой любоўнаю
Павырастуць ляскі,
І зацвітуць бавоўнаю
Туркменіі пяскі.

Не, нам пражыць не цяжка іх,
Кароткіх колькі год,
Пакуль ў гаях фісташкавых
Даспее першы плод.

І ўстануць, пладаносячы
На сонечным буі,
Ад плоду рады просячы,
Лімонныя гаі,

Бо забурліць і ўспеніцца
Ў пясках рака Аму,
І слава й назва зменіцца
Пустэльні Каракум.

Вада ідзе, Туркменія,
У твой засмяглы край,
Жывенная, адменная,
Прымай яе, прымай!

*1952*



# НАД СПАКОЕМ КРЫНІЦ

*Светлай памяці Янкі Купалы*

У агнях арабін,
Між крап'я журавін,
На купчастым
Няходжаным мошасце,
Свой зліваючы звон
З шэптам хвойных карон,
Білі з нетраў
Крыніцы прыгожасці.

І такі тут спакой,
У старонцы лясной!
Цішыня
Над спрадвечнаю пушчаю;
Толькі зрэдку ў кустах
Шасне спуджаны птах,
Пройдзе лось
Сцежынай невідушчаю.

Цішыня...
Цішыня...
А і ўдзень і да дня...
З рэхам грымнецца дзе сухастоіна;
Звер рыкне ля лагва
Ды ўздыхае дрыгва,
Гэтак ціха ўздыхае,
Прытоена.

Толькі песня, як стогн,
Ды жальба, ды праклён,
Ды бяда скрозь,
Бяда скрозь бядушчая;
Ці пачуюць?

Пакліч!
Кане гук, нібы зніч,
Над вяковаю ціхаю пушчаю.

Нібы ўсё тут і ўсе
Ў соннай вечнай красе...
Нерухомае...
Зачараванае...
Нібы сполах зарніц
Над спакоем крыніц
Не зліваўся
У мора барвянае.

А ў бядзе тым барзджэй
Чэзне вера ў людзей.
І такія былі, што прарочылі:
Тут усё пакрысе
З часам багна зассе,
Будуць жыць
Толькі тыя,
Што збочылі.

Так міналі гады —
Між жуды і бяды —
Лёсам люду ўсё гора варочала.
І з'явіўся на свет,
Нарадзіўся паэт,
Нарадзілася
Слова прарочае.

А ў зялёным бары,
Ад зары да зары,
Кукавала зязюлька
Няшчырая:
Ох, і будзе ж, ку-ку,
Яну-ку
На вя-ку
Гора з гэтай няшчаснаю ліраю.

Выйшаў рана. Быць дню.
Высек іскру агню.
Высек іскру
З душы сваёй крэсіва.
А наўкол — немата,

Цемра,
Немач,
Слата —
Бездарожжа,
Агіднае месіва.

Паспрабуй даімчы
У гэтай цемры,
Ўначы
Спеў ад сэрца
Да сэрца народнага!
Растлумач,
Давядзі
І любоў абудзі
Да закутага слова іх роднага.

Тлее іскра ледзь-ледзь...
Чэзнуць ёй
І датлець
На ўзвівецер
Развеяным прысакам?
Ці расці праз туман
У агонь-ураган,
У нябёсы
Шугаючы высака.

Але душы людзей
Нам адкрыў чарадзей,
З ім у ноч
Пад Івана Купала мы
Чулі словы кляцьбы,
Чулі гук барацьбы,
Гора люду
З грудзямі запалымі.

Чулі:
Вострацъ нажы
Ля адчаю мяжы,
І каса
Размаўляе з сякераю...
А ў бяздонні вачэй
Разгараўся ярчэй
Бляск, народжаны мукаю,
Вераю.

Цяжка спеў нарадзіць.
Ён, як рана, брыдзіць.
Ён, як рана, баліць —
Не ўтаймуецце
Ані чым гэты боль —
Б'ецца ў сэрца: дазволь!
Але вось ён гучыць ужо,
Чуеце?

І народ зразумеў
Гэты велічны спеў —
Бо ў тым спеве
Адбітак пакут яго,
Бо ў ім бачыў сябе
Па цяжкой барацьбе
На пачэсным пасадзе,
Раскутага.

Каля кроснаў — ткачы,
На плытах — аснач,
На палях за плугамі —
Аратыя.
Пастухі,
Кавалі —
Падхапілі, ўзнялі
Гэту песню,
Што душы іх кратае.

Паспрабуй — патушы
Той агонь у душы!
Справа ўсчата
Рукамі не кволымі!
Паспрабуй — парашы,
Паспрабуй — задушы
Ці крывёю залі
Тое полымя!

Колькі іх?
Колькі ж іх!
І сляпых і глухіх
Пагарджаных век лёсам і доляю?
Не адзін мільён!
Не адзін мільён

Выйшлі з думкай:
«Памром ці падолеем!»

Глянь:
А хто там ідзе
У людской грамадзе,
У шляхі камунізма аззяныя?
Беларусы ідуць,
Сваё слова нясуць,
Сваё слова нясуць
Палымянае.

*1960*





## НА ЛАСКАВЫМ ХЛЕБЕ

Хмарыцца неба няласкае.
Вецер. Надвор'е золкае.
Дзюбай чырвонаю ляскае
Бусел над змоклай буслоўкаю.
Сёння яшчэ над імшарамі,
Ў водары зжоўклага верасу,
Буслы збіраліся парамі
Дзеля свайго інтарэсу.
Доўга кружылі над пожнямі,
Над паплавамі азёрнымі,
Днямі рашылі апошнімі
Рушыць шляхамі зорнымі.

Хата з малёваным пеўнікам,
З ганкам, падобным да кліраса,
Колядным пісаным пернікам
Побач царквы прытулілася.
Бэзам абсаджана дворышча,
Тынам з бярвенняў аточана,
Пахне антонаўкай хораша
Садам занятая ўзбочына.
Моцная брама дубовая,
Важкі замкі сакрэтныя.
Зграя сабак ахоўвае
Скарбы, дабро запаветнае.
Ёсць тут і срэбра і золата,
Потайна ў лёхах прыкрытае,
Лапай кашчаваю голаду,
Ласкай ліхвярскай здабытае.
Ў клецях — тканіны ядвабныя,
Футры, сувоіны кужалю...
Ўсё, што пакоі прывабныя
Сквапна ўвабраць не падужалі.
Сцены пярэсцяць шпалерамі,
Шафы уздоўж, этажэрачкі,
Дзівячы вока памерамі —

Куфрышчы, куфры, куфэрачкі.
Моцная тут старасветчына
(Хоць жа і новае згадана!),
Любасць да бога засведчана
Зыркай лампадкаю, ладанам.
Вокны прыбраны фіранкамі —
Фікус, лімон у ажуры іх.
Чуць і начамі і ранкамі
Вальсік «На Сопках Маньчжурыі».
Хата, што чарачка поўная,
У Барушкова Анісіма.
Ходзіць дачушка папоўнаю,
Сам ён з апостальскай лысінай,
Ветлы, з усмешкаю ёлкаю;
Бес, а здаецца цяцерай вам,
Годзіцца ледзь з камізэлькаю
Цяжка абплыўшае чэрава.
З зоркаю ўстаўшы рана, ён
Знай загадвае наймітам:
Там паласа неўзараная...
Коні не поены ў стайні там!..
Там шчэ атава не скошана...
Тое не зроблена, гэтае...
Найміт не ў госці запрошаны —
Трох іх зімуе і летуе!
Мае скаціну рагатую,
Коней стаенных пяцёрка ёсць,
Двое ганей за хатаю —
Млын паравы і крупадзёркаю.
Пчолку, работніцу боскую,
Любіць ён згодна са звычаем.
Мае і мёду і воску ён —
Сорак калод налічвае.
Роіцца пчолка калматая.
Аж гаспадар не нацешыцца.
Строіць з сябе ўжо магната ён,
Жонка — як тая памешчыца.
З рынку ён едзе — малюначак:
Новая брычка з рысорамі...
Жонцы, дачцэ ў падаруначак
Шалі вязе з узорамі.

Ўвесну, хадзіць за авечкамі,
Хлопца прывёз з вёскі блізкае.

Чорныя зрэнкі пад вечкамі
Дзіўна у хлопца паблісквалі.
Кляўся Анісім мацеры
З ім абысціся «па-божаму»,
Нават навучыць яго пацерам
(Хлопец яшчэ і нябож яму).
Юрасем звалі хлапца таго,
Не спадабаўся Аніську ён,
Бы варагá зацятага
Стрэў яго лаянкай нізкаю.
Ледзь працягнуў да восені...
Ну і жыццё было Юрася! —
Хмарнае неба без просіні,
А гаспадар адно юрыўся.
Статка аднойчы авечае
Пасвіў за млынам, за гацямі,
Позняй парою увечары
Недалічыўся ягняці ён.
Доўга блукаў ён алешнікам,
Багну імшаную месячы,
Покуль сыча перасмешніка
Выгнаў на пошукі месячык,
Думкі агортвалі сумныя,
Слёзы каціліся з воч яго —
Хіба ж ягня неразумнае
Вернецца з логава воўчага!
Рукі ў Аніські — свінцовыя...
Вочы — шалёна-вялікія...
Б'е ды яшчэ вытанцоўвае
Скокі са злосці дзікія.
Знаў Юрась звычай драпежніка —
У хату ўвайшоў збянтэжаны.
Стаў ля дзвярэй, у камешніку,
Не распрануўшы адзежыны.
Глянуў Анісім зверугаю —
Прагнасць крыві ім валодае —
Чобатам выцяў, пугаю
З прагнасцю біў, з асалодаю.
Кружыць Анісім коршакам,
Юрась да печы туліцца;
Жонка, злякаўшыся горшага,
Выгнала хлопца на вуліцу.
Снег падаў буйнымі клоччамі,
Выслаў зямлю абноўкаю.

Пасябраваў гэтай ноччу ён
З асірацелай буслоўкаю.
Сталаму, часам, цвярозаму
Думкі — цяжэй ад волава...
Ну, а дзіцячаму розуму?
Выцяла хлопчыка кволага.
З вока паўзла нежаданая
Дробнай слязы маніссціна,
І зразумеў ён, што танная
Праўда, Аніськава, ісціна.
Бразнулі дзвернаю клямкаю...
Нехта стаіць пад бярозаю...
Ён!.. працінае маланкаю...
Ходзіць, гукае з пагрозаю...
Свята спраўляе, «чупрынніка»,
П'яны без меры тым выпадкам.
Доўга шукае ў малінніку,
Лаючы Юрася вырадкам...
Думкі у хлопчыка — znічкамі,
Думкі страшныя, страшэнныя.
Пушку нянацкам з сярнічкамі
Раптам адчуў у кішэні ён.
«Будзе ён памятаць, нечага,
Думаў, адпомшчу Аніську я...»
Дух у хлапца не заечы быў,
Сэрца было не нізкае.
Ў шыбу глядзеў карабатую:
Госці з страшкімі пачварамі...
Бабы пяршак за гарбату ім,
Знай, падаюць самаварамі.
Слухаў: у п'яным гармідары
Хата ўсхадзілася ходырам.
«Сам» у святочным гарнітуры
Побач з бандытам Тодарам.
Хто тут не ведае п'яніцы,
І канакрада, і злодзея!
Позірк ад чаркі туманіцца.
З твару ён быццам салодзее.
Высхла пад мёртваю маскаю
Ўсё чалавечае насуха.
Сябар з фальшываю ласкаю —
Камень трымае за пазухай.
Шэпчацца нешта, туляцца,
Чорныя справы здзяйсняючы,

Ў шыбу глядзяць на вуліцу,
Некага выглядаючы.
Сцяты у Юрася сківіцы,
Сціснута горла спазмаю.
Тварык у хлопчыка крывіцца —
Крыўда, жальба невыказная.

Неба, бы ў пекла прабоіна.
Песню ўшчаў вецер зімовую.
Нібы і ночка напоена
Чорнай, таемнаю змоваю.
Фарбамі ўсімі, адценнямі
Выззялі зорак праменні высь.
Доўга блукаў загуменнямі,
Покуль выростала ненавісць.
Неба лізнула полымя.
Цякло разагрэтымі хмарамі.
Дрэвы разбегліся голымі
Абвугленымі парамі.

Ноч ці не крадзе дарогу тут?
Дубы абступілі волаты.
Вецер заходзіцца з рогату.
Свет на часцінкі расколаты.

Бег апантаны і змучаны,
Сцежку знайшоўшы знаёмую
(Лапці — ў руках з анучамі),
Ноччу дабіўся дадому ён.
Людна чамусьці і гоманка.
Што за бяседа у час такі?
Корчык палае на комінку,
Змрокі мільгаюць, як ластаўкі;
З кожнае шчыліны ворагам
Цені выпоўзаюць млявыя,
Хату напоўнілі моракам
Гукі псалтыра гугнявыя.
Тут і суседзі вясковыя,
Свечкі-грамнічкі зацеплены,
Бацькавы рукі васковыя
Моцна, няёмка сашчэплены.
Маці глядзіць абыякава —
Гора з бядою спаткалася,—
Не галасіла, не плакала,

Звыкла ўсё зносіць без галасу.
Доля жаночая — шэрая,
Радасцей сумных нішчымніца,
Толькі й прыжджэш: ненажэраю
Ліха страшэннае грымнецца.
Радасць!.. Адкуль яна возьмецца,
Райская гэта жар-птушына?
Зло ад дабра тут не розніцца,
Праўда маной быць прымушана.
Слёз поўна вока нявесціна...
Немае вока удовіна...
Ліху найлепшая месціна
Век за гарбом накanована.
Юрасю жыць абрыдала.
Слёзы па бацьку не дужа ліў.
Псалмаў карункі давідавых
Нeяк яго не узрушылі.
Моцна заснуў пад дзяружынай,
Голыя ногі сынавы
Маці ухутала тузінай
Андаракоў кармазынавых.

Раніца ўстала над казкаю
Сноў, і яны прывабныя
Зніклі з пяшчотнаю ласкаю —
Лёгкія, хуткія, зграбныя.
Вокны затканы мярэжамі.
У коміне ветру пошчакі...
Юрась, падзсяй збянтэжаны,
Доўга глядзеў на нябожчыка.

*1960*



## НАД НЁМАНАМ

*17 верасня 1939 года*

Кроны дрэў крамяны месяц верасень
Ледзь крануў іскрометцю барвянаю.
Чалавек стаяў на стромкім беразе,
Над вадой, вятрамі схваляванаю.
Плынь кіпела... Стрэўшыся з крыніцамі,
Узнімала шумавінне над каменнямі,
Рыбіну з чырвонымі зраніцамі
Гнала срэбна-звонкімі струменямі.
Чалавек знаёміўся з дарогаю,
У шынель паходны быў апрануты,
Меў у постаці адзнаку строгую
Найдакладнейшай вайсковай граматы.
Перад ім ляжала яго родная —
Скутая, падобна ў казцы волату,
Маці, шматпакутная, гаротная
Бацькаўшчына, ўтрачаная змоладу.
Углядаўся ўдалячынь мінулага...
Недзе блізка палыхала зарыва...
Надышоў баец, ледзь-ледзь крануў яго,
Пачакаў загаду камісарава,
Пастаяў з усмешкай вінаватаю
І пабег дурэючы за коннікам
Да сяла, дзе пад сялянскай хатаю
Песня паспявала за гармонікам.
Камісар ніжэй спусціўся берагам
І, дастаўшы кветку белай лотаці,
Уздыхаў... А думкі беглі шэрагам,
Да канца паспеўшы авалодаць ім,
Асака шумлівая у верасень
Летні дзень мінулы шэптам згадуе.
Шызы качар, прыгажун, пры беразе
Каля качкі шэрай цяжка падае.
На куп'я цьмяна-зялёным мохасце —
Чырвань ягад, гнёзды журавінныя,

Бы распырскаў нехта для прыгожасці
Кроплі незлічоныя крыві на ім.
Цецярук, ад'еўшыся брусніцамі,
Абіраў з сябрамі ў хвойным цераме
Месца, дзе ўвесь зімак будуць сніцца ім
Стрэчы са слухмянымі цяцерамі.
А ці ёсць дзе месца, як над Нёманам,
Каб душою спачываць і ўвосені!
Краявід і блізкі і знаёмы нам:
Ніцая бяроза, неба ў просіні,
Туманы паўзуць начамі вохкія,
Зорак, бы гарбузікаў налушчана,
Днём празрыстасць — кволая і лёгкая
Над вяковымі лясамі і над пушчамі.
А ўзімку... Мрояць дрэвы-волаты...
Замірае сэрца паляўнічае —
Футра ліса, што рудое золата!
Цьмяным золатам ільсніцца пільсць
кунічая!
Спіць зямля пад белаю пярынаю.
След блакітны нехта-нейкі вышкадзіў...
Скрозь уперад, сцежкаю звярынаю
Да далёкай, да знаёмай выскадзі.
А ля выскадзі, дзе ў змрочным вулеі
Пчолы спяць над сотамі паўнюткімі,
Стрэцца можна нават і з казуляю
Ці з ласём шчаслівымі мінуткамі...
Камісар змагаўся з успамінамі.
Зняў ён шлем з пяціканцовай зоркаю
І пайшоў, гуляючы галінкамі,
Ручаём размытаю разоркаю.
Прыгадаў апавяданні дзедавы...
Хто не знаў старога паляўнічага?
Дзесяць міль навокал людзі ведалі
Жарт яго і казку маляўнічую:
«Лось, ён быў рахманаю жывёлінай,
Воз — звяртай, а ён ідзе дарогаю,
Быццам адчуваў, што не дазволена
Паляваць за ім, пад карай строгаю...»
Камісар згадаў і зноў панурыўся:
Хворы дзед, раматусам падрэзаны,
Браў у лес з сабою ўнука Юрася —
За сілом прыглядзець, за жалезамі.
Разважаў дарогай дзед з амбіцыяй:

«Наша доля!.. ворагу не зыч яе.
А чаму, унучак? Эх, зямліцы б нам.
У зямліцы — шчасце ўсё мужычае.
Браканьер, ці як там называйце вы...
Мяса хоча толькі ваша чэрава?
Не для вас адных слядочкі зайцавы...
Не, панкі, далёка і да звера вам...»
Крочылі. Зіма была! Мяцеліца,
І мароз трашчаў па лесе з пошчакам.
Стрэліся у лесе з панскай чэляддзю
На чале з Ярылам палясоўшчыкам.
Білі доўга. Моцна білі — ложамі.
Разлілося па снягу ружовае.
Бачыў хлопец: дзед ляжыць зняможаны,
Зубы ўласныя у роце п底ражоўвае.
Ноч канаў, а раніцай пагожаю
Развітаўся з мукамі страшэннымі.
Пахавалі ўсёю вёскай Брожаю —
Са слязою шчырай, з галашэннямі...
Паляваць тут рэч зусім не хітрая —
Ліс пішчом сам да сабакі ласціцца...
Рысь вядзецца, ўстрэнешся і з выдраю,
Ёсць вавёрка, гарнастай і ласіца;
Да каляд вяселлі правіць гульнямі
Воўчая мацёрая ганяя ўначы,
Лапу ссе мядзведзь ў бярлозе ўтульнае—
Тук на малако пераганяючы.
Але вось ён зараве спрасонейку,
На другі бок важка перавернецца —
Весялей заззяе ў небе сонейка,
Прэч збіраецца зіма-сіберніца.
Выйдзе дзеўка красна весну клікаці:
Дробны слёзы паліваюцца з воч яе —
Жальбаю ад Нёмана да Прыпяці
Сэрца надрываецца дзявочае.
Аратай у поле з плугам выедзе —
Хрысціць лоб падранаю магеркаю...
Дзе яшчэ жыве хто ў гэткай выгадзе?
Скрозь жыццё праходзіць паняверкаю.
Зерне высявае ён з праклёнамі
У зямлю ад слёз, ад поту гразкую;
Дошак для труны і то з паклонамі
Здабывае чорнай панскай ласкаю.
З краю ў край прайдзі сцяжынкай торнаю:

Глеба, глеба!—хлеб гатовы ў дзежачцы—
Панская, скарбовая, кляшторная...
А зямля ж аратаму належыцца!
Так жыве народ, нянавісць пестуе.
Крыўда горкая! Няпраўда-мачаха!
Жджэ краіна ўбранаю нявестаю
Жаніхова поезду юначага.
Век глядзіць на ворага з пагардаю —
Ззяе незагоенымі спінамі,
Пеўня над шляхецкаю кукардаю
Тапаром прыймаючы і кпінамі.
Б'ецца сэрца трапяткою птушкаю
У грудзях шырокіх камісаравых.
Хвалі човен ціха-ціха гушкаюць...
Шызы дым паўзе па-над абшарамі...
Маці б прытуліць к сабе сівенькую
Ды прайсціся вёскай роднай, Брожаю.
Чуць: за спарахнелай варывенькаю
Журавель рыпіць каля калодзежу.
Госцем сесці на пачэсным покуце,
Са знаёмымі пабыць, і суседзямі,
А на тварах іх, напэўна, змроку цень
Наштрыхованы гадамі-лецямі.
Ведае: цвісці вясёлкай тварам іх.
Як раскажа пра жыццё багатае,
Пра жыццё, узгодненае з марамі,
Што як песня весняя, крылатая.
Зноў пабеглі думкі пуцявінамі,
Ім адным вядомымі кірункамі,—
Саснавалі мары з успамінамі
Просты шлях дзівоснымі карункамі.
Тут — хадзіў, старцоў, бывала, водзячы.
Пазнае... А ўсё пераіначана!
Там — жылі-былі калісьці родзічы,
Брат стрыечны, ўся радзіна матчына...
З чарадою тут блукаў улетку ён —
Негаддзю, спякотай, навальніцамі,
Смагу пад зялёнаю паветкаю
Прагана ў струменямі крынічымі.
У сяле тым—вунь, відаць, крыж хіліцца!—
Быў і ён, кірмашаваў раз у Стуробіне,
Калі бацька, з абабітай сківі цай,
Прадаваў апошнюю худобіну,
Каб пасля прапіць у горкіх пошуках

Радасцей, што скнарам-лёсам зважаны,
Да мядзянае капейкі, грошыка
З таварыствам, як і сам, зняважаных.
А хлапчук наводшыбе, пад кручаю,
Між дзядзькоў з Дубровы, Брожы, Зальшчыны
Слухаў песню лірніка пявучую,
Казку, старадаўнюю бывальшчыну.
Ці то звоняць струмені крынічныя?
Ці то падаюць іскры з-пад крэсіва?
Ажывае казка таямнічая,
І сапраўднасць казкаю закрэслена.
Чалавек жыў вольны у бязмежнасці.
Меў ён скарб,
што шчасцем клікаць звыклі мы.
Позірк ясны, поўнае кунежнасці
Сэрца, не параненае ікламі
Зайздрасці, жахлівае жывёліны;
Светлы розум меў ён не атручаны,
Для якога ўсё магчыма і дазволена,
Для якога штодзень з праўдаю заручыны.
Прыкра князю цемры.
Нечысць кліча ён.
— З чалавекам цацкаюся вельмі я!
Даў загад істоце даўгалычае —
Выйсці ў свет, за межы за пякельныя.
Абысці, ўпаўзці і ўзяць спакусаю
Скарб цудоўны, скарб жыцця і велічы...
Папаўзло страшыдла спрутавусае,
Клюшнямі павольнымі шавелячы...
Урачыста ў князевых харомінах...
Чалавеча!
Шчасце тваё — дзе яно?
У глыбокіх нетрах захаронена.
Буйнымі вятрамі ўшчэнт развеяна.
Толькі скарб той кожны год прарастае,
Зацвітае цудадзейнай кветкаю
І чакае, покуль сэрца простае
Неўміручай праўды будзе сведкаю...
...З сталі загартаванай, адменнае
Зброю за тры дні няхай каваль скуе...
Як заззяе папараць таемная
Ночкай цёмнай, ночкаю купальскаю...
У галлі бярозы месяц гнездзіцца,
Конь у Нёман збег з крутога ўзгорачка,

Трапяткі вялікі коўш Мядзведзіцы
Дапівае зорачка за зорачкай.
Камісар узяў вады далонямі...
Нёман! Нёман!..
Расплюскаў. Спахмурыўся.
І, дарэшты думкамі палонены,
Зноў адчуў сябе маленькім Юрасем.

*1960*



## НАПРАДВЕСНІ

1

Тымі днямі весні вецер,
Весні вецер лёгкакрылы,
Зашугаў па белым свеце
Поўны радасці і сілы.

І пакуль снягі ён петрыў
І ўздымаў на крыгі крыгі,
Набракалі глебы нетры
Сокам першае адлігі.

Набракалі прагна сокам,
Каб пад веснія напевы
Гнаць яго ўгару высока —
Ад карэння ў кроны дрэва.

А яно — любой галінкай
У дрыготным непакоі,
Кожным парасткам, іглінкай
Ажывала трапяткое.

Назубіўся ліст палонны,
Заружовелі суквецці,
Дробнай завязі зялёнай
Шмат з'явілася на веццi.

І дужэла дрэва голле
Прадчуваннем сілы плоду.
Не схіліцца б толькі доле
Навальніцай, у нягоду.

Дзень маёвы. Сонца ззяла,
Прамянілася, зіхцела,
А пасля, відаць, прыстала —
Сесці сонца захацела.

Абяцала сонца стрэчу:
Заўтра вышлю промень рупны.
Закаціўшыся ж пад вечар,—
Не ўзышло у дзень наступны.

А пакуль — закат барвяны
Ледзьве тлее, датлявае;
Хмары ветразь разадраны
У сутонь начы сплывае.

Размаўляюць з ветравеем
Над ракою вербалозы.
Пахне горкім веснім клеем
Лісце дробнае бярозы.

Вельмі хораша вясною
Шэрым змрокам выйсці з хаты:
Вечар песняй галасною
Вабяць хлопцы і дзяўчаты.

Толькі песні чорнай масці —
Мкнуць бясконцаю чаргою...
Нехта высмактаў з іх шчасце,
Падмяніў яго тугою.

Водар, гукі, радасць фарбаў...
Нібы ўсё — для чалавека!
Людзі ж праглі гэтых скарбаў,
Не знаходзячы век-векам.

Заспяваюць... Песня льецца...
Назавеш ты гэта песняй?
То душа сілком ірвецца
З абалоны іх цялеснай,

То надзея нікне, кане,
Як на хвалях шумавінне,
То бясконцае чаканне...
А жыццё — марнее, гіне...

Вось здаецца... з гэтай хмары —
Бліснe, грымне...— водбліск, рэха...
Толькі мары, толькі мары
Іх адзіная уцеха!

Вельмі хараша вясною
Шэрым змрокам выйсці п хаты:
Вечар песняй галасною
Вабяць хлопцы і дзяўчаты.

А пасля, як ноч агорне
І над сонным цёмным борам
Месяц стане ў небе зорным,
Не спявае моладзь хорам.

Пацякуць, як ручаіны,
Галасы і дзесьці зікнуць.
Спяць і горы і лагчыны —
Прытаміліся, не пікнуць.

Толькі... Скуль яна ўзялася
Песня — дзіўная такая!
Па-над цішай узнялася
І вышэй усё ўзлятае.

Цішыня... у бездань ночы
Зорка-знічка мгліва кане...
Цішыня... і ў ёй дзявочы
Голас прагнага чакання.

Трапяткая льецца песня —
Чыстым, звонкім срэбрам льецца,
Аж пакуль той ноччу веснай
Песня песні адгукнецца.

Зорка-знічка ў цемру кане.
Запаветны шэпт уночы.
Недарэмнае чаканне
Абяцаў ім знічь прарочы.

— Я цяпер, здаецца, Хрысця,
Разумею ветру сполах,
Соннай птушкі шчэбет, лісця
І травы таемны шорах.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Мне цяпер усё здаецца
Любым, гэй! — усё дазвання...
Сэрца плача і смяецца,
Схваляванае каханнем.

. . . . . . . . . . . . . . . .

— Ноч мінула... і не згледзеў...
Ранак певень кліча недзе.
Змоўк салоўка у бары.
— Ноч мінула... не згадала,
Як ружовым неба стала.
Зараз сонца з-за гары...

— Помніш, любы мой, харошы...
Бель чарэмхавай парошы...
Як цяпер — цвіла вясна.
Наша першая сустрэча.
Доўгі дзень быў! Потым вечар!
Ноч імгненная, без сна!

Ты прыносіў абярэмкі
П'яна-водарнай чарэмхі,
Для мяне прыносіў, Хвесь!
Потым зноў дзень. Зноў ад рання
Я чакала ўсё спаткання,
Покуль дзень датлеў увесь.

Так, цяпер не да кахання.
Будзе час, хіба асвяне
Пачуццё ў тваёй душы.
Ці ў маёй душы, мой родны?
Не хачу я гнеў народны
Пацалункам патушыць!

— Мне й самому, Хрысця, прыкра,
Нібы любасць нашу выкраў
У людзей мне дарагіх.
Чую гора. Бачу гора.
Гнеў віруе. Помсты мора
Захлынае берагі.

— Помніш словы запавету?
За табой ісці край-свету,
Дык вазьмі мяне з сабой.
Ты ў бядзе і я з бядою,

Шчасце — шчасныя абое,
Ты у бой, і я у бой!

— Радзівіл ідзе вайною,
Дзе ж табе, дзяўчо, са мною!
Ці вярнуся я, ці не?
Можа цела — зверу ў кіпець?
Можа вочы — птахам выпіць?
Воля смерці на вайне!

Не баюся я памерці.
Я глядзеў у вочы смерці.
Мне цябе шкада адной.
Не, дзяўчо, не доўга згінуць!
Мушу я цябе пакінуць,
Нельга, любая, са мной.

— Твой вырок мне сонца засціў.
Разам быць — у гэтым шчасце.
Як жа буду я сама?
Жыць адным тваім хаценнем,
Быць тваім штохвілю ценем —
Шчасця іншага — няма!

. . . . . . . . . . . .

2

Пахне ў полі на світанні чабаром.
Скрозь пакрыта поле цьмяным серабром.
Заспрачаліся вятры паміж сабой —
Вецер рання гоніць ночны на спакой,
І гарэзяць і валтузяцца яны,
Аж пакуль паразганяюць туманы.
Закурэўся пыл на ростані шляхоў.
Стрымгалоў імчыцца нехта — стрымгалоў.
Конь спяшаецца — агонь з-пад капытоў,
Конь спяшаецца, а коннік —пагатоў.
А за першым — следам-назіркам другі
Вынырае раптам з ранішняй смугі.
Хлопцы з лесу, покуль сонца не ўзышло,
Прыімчаліся учвалам у сяло.
— Гэй, хутчэй, хутчэй збірайцеся ўцякаць!
Каб набытак дый жыццё ўратаваць.
Ёсць адным-адзін ратунак — цёмны лес.
На званіцу, на званіцу б хто узлез!
Хоць не свята, не вялікдзень — бі ў званы:
Праз гадзіну у сяло прыйдуць паны.

Ваявода, пан святлянскі, іх вядзе.
Уцякайце! Часу мала! Быць бядзе!
Возьме пан ды будзе мучыць вас, пытаць,
Што агнём пусцілі — дымам спаганяць...
Шмат жаўнераў і райтараў аж загон.
Са званіцы плыў трывожны перазвон:
— Хвеська дзе? Ну й атаман у нас ай-ёй!
Пэўна, ночку зноў праседзеў са сваёй.
Хвеську кліч, чаго ён бавіцца, шатан?
Каб з-за бабы ды загінуў атаман!
— А з-за гэткай і загінуць бы не грэх,
От дзяўчына!
                От дзяўчына! Што арэх!
Русы косы — паглядзець ды захварэць!
Дзе яшчэ такія русыя сустрэць?
Вусны — ягады, і кожнае брыво,
Нібы ластаўчына чорнае крыло.
Вочы, вочы!
                Толькі глянь у іх — утоп.
Каб мяне кахала гэткая, отө б...
— Ну скажыце, людзі добрыя мае,
Ці не сам ты закаханы у яе?
Кліч, кажу табе! Са смерцю жартаваць!
Іншым часам будзеш зубы прадаваць.
Над сялом плыве трывожны перазвон.
Уздыхнулі... Адпачылі... Зноў прыгон...
— Ой, галосяць!..
                — Ці далёка?
                                — Тры вярсты,
Калі пойдуць паўз балота, наўпрасты.
— Божа любы, ну калі ж ужо, калі
Абароняць, уратуюць маскалі!
— Хто што мае — сала, мяса па кублох...
— Дзе яго калі хто бачыў, бог мой, бог!..
— Збожжа сып хутчэй у ямы, там дарма...
— Ды яго, бадай, ад восені няма!..
— Што ёсць з вопраткі, з адзення —
                                на вазы...
— Скура ўласная, ды лапці вось з лазы!..
— Дык старых збірай, жанчын збірай,
                                дзяцей...
— Так спачатку б і казаў нам карацей!..
Над сялом плыве трывожны перазвон.
— Ой, жаўнераў! А райтараў — аж загон!..

— Нацянькі, дык будзе тры, абходам —
пяць!
— Дзе там пяць, як са званіцы ўжо відаць!
— Божа любы, ну калі ж ужо, калі
Абароняць нас, укрыюць маскалі!

. . . . . . . . . . . . .

— Чуеш, родны? Нехта кліча.
— Я гляджу ў тваё аблічча,
І ў душы маёй спакой...
Клічуць, Хвесь!
— Яшчэ хвіліну,
Каб навек маю Хрысціну
Мне запомніць вось такой!

. . . . . . . . . . . . .

— Хвеська! Д'ябал!

. . . . . . . . . . . . .

— Годзе, Хрысця!
Гоніць лёс нас, нібы лісце
Вецер восеньскі... Не плач!
Пройдзе ўсё. Усё мінецца.
Наканована сустрэцца,
Дык сустрэнемся... Прабач...
За няздзейсненыя мары нашы, сны...
Ну, бывай, Хрысцінка... Што гэта? Званы!
Гэй, хто кліча? Тут я, хлопцы! Гэй, сюды!
Зноў дарэмная трывога, як заўжды!
З перапою ці ад бабскае маны
Шэрай раніцай ударылі ў званы!

. . . . . . . . . . . . .

— Не мана, не з перапою, атаман!
Ой, не з перапою, не спадман!
Вестку ўночы нам прыслаў гайдук Мацей,
Наказаў, каб выбіраліся хутчэй,
Наказаў, што пан сабраўся нас караць
Ледзьве золак... трэба стрэчу рыхтаваць.
Ясна сонца хутка бліснe. Сеў туман.
Ой, пара, пара — збірайся, атаман!
Ён не зманіць. Запытай хоць Хадака.
Не гайдучая душа ў гайдука!
Заблішчалі ў Хвеські вочы:—Добра ж, пан!
Сам нясеш у падарунак свой жупан,
Ды ў прыдачу да яго я папрашу

Тваю чорную, паганую душу.
Стаў. Стаіць — каржакаваты, нібы дуб.
Рухам мклівым ад вачэй адкінуў чуб.
— Вінаваты я, зблудзіў у вішняку!
Гайда, хлопцы, выпраўляйся за раку
За падмогай, да Яська ў Вялікі Бор,
У Пяскі, дзе атаманіць Сыч Рыгор,
І да бацькі да Ісая у Хвасткі,
І да дзядзькі Нікадзея у Масткі...
Заклікайце ды збірайце ўвесь павет,
Я за вамі праз хвіліну еду ўслед.
Будзе бой у нас, крывавы будзе бой —
Шляхты сытае п галоднай галыцьбой.
Тут нага, а там другая, малайцы!..
Граюць коні — панскай стайні жарабцы.
Паімчаліся, імчаць ва ўсе канцы
Са Святлян за дапамогай пасланцы.
Паскакалі нацянькі ды наўпрасты,
Праз балота, абмінаючы масты.
Лесам скачуць — дрэў карэнні ды карчы,
Як гадзюкі, распаўзаюцца — ўцячы.
Полем — дзікае каменне аж грыміць,
Друзам гулкім разлятаецца, ляціць.
Палыснула ярка сонца з-за гары.
Ці паспець з падмогай хлопцам да пары!

Пацягнула атамана, павяло:
«Толькі гляну на бацькоўскае кубло!»
Клён... маланкай недапалены камель,
Далей студня ды пявучы журавель,
Варывенька... «Што? Заваліцца? Брахня!
Перасыпаць толькі трэба — парахня...»
Вось і хатка: «Кінуць вокам лішні раз!»
Хвеськаў бацька тут жыве, стары Тарас.
Глянуў Хвеська—цяжкі камень на грудзях,
Толькі ж слёзы не пакажаш пры людзях.
— Што ж ты, бацька? Не сабраўся?
На бяду ж!..
— Дзе ж мне, сынку, і стары я дый нядуж,
Рад бы з вамі, ды сто год на каўняры,
Прыйдзе смертухна ды скажа мне:
«памры»,
Толькі тога, знача ў самую пару —
Уздыхну я тройчы лёгка дый памру.

Ты ж не баўся, толькі... позна... ой, бяда!
Войска панскае ўлілося, як вада,
Не паспелі людзі з вёскі уцячы.
Наляцелі, як зладзеі паначы.
Дзе ні глянь, або жаўнер, або райтар.
Да царквы людзей зганяюць на цвінтар.
Не ўгледзеў Хвеська свету... Ў барацьбе —
Двух жаўнераў падмінае пад сябе,
Ды па двух яшчэ на кожным на плячы —
Ані ўстояць атаману, ні ўцячы:
«Дзе ж вы, дзе, мае сябры, таварышы!
Хоць бы знаць, што будзе помін па душы...
Схамянуўся, падабаўся Хвеська зноў,
Раскідаючы ва ўсе бакі паноў.
Толькі дзе там! Супраць сілы не папрэш —
Сам адзін дзесяцярых не убярэш.
Апусціўся на патыліцу бярдыш...
— Маеш, хлоп! Ляжы, псямаць, ляжы —
не дыш.
Клікнуў: «Хрысця!»... ды ірвецца думкі ніць.
Што наважыла яна? Аслабаніць?
Ці загінуць назаўсёды разам з ім?
Разам [illegible] лепшым, самым лепшым, дарагім.
Нема крыкнула Хрысціна і да іх.
— Хлопа ўзяць! Узяць дзяўчыну! Абаіх! —
Глянуў воўкам ваявода навакол.—
Гэй, бліжэй зганяйце быдла, ладзьце кол!
А дзяўчыне зрэзаць косы нагало.
Шабля вострая. Касы як не было.
Пану шэпчуць з-пад рукі: «Дык гэты ж хам
Завадатар іх галоўны, Хвеська сам.
Не разумна, пане, робіш, не ў дакор —
Атаман!.. Яго скруціць бы дый у двор.
Шмат што знае, ды расказваць ён не звык —
Аганьком бы развязаць яму язык.
На кала ж узяць любога з грамады.
Вось пачаць, напрыклад, з гэтай... барады...»
Апрытомнеў Хвеська. Дзе ён і чаго?
Хрысця воддаль... углядаецца ў яго.
Знік агонь жывы у зрэнках — знік, ачах.
Толькі страшная пакута у вачах,
І па твары буйна коціцца сляза.
Працінаюць Хвеську слёзы — горш ляза.
Не пагораў (прыйдзе ўрэшце помсты час!),

Адвярнуўся: перад ім стары Тарас,
На кавеньку абапёршыся, стаіць:
Зубы сцяты. Вочы долу. Ўвесь дрыжыць.
(Бацька! Бацька! Значыць, чуў сваю пару:
«Уздыхну я тройчы лёгка дый памру!..»)
— Падсадзі, старэнькі, хлопца на кала!
Што трасешся?
Ці не дужы?
Спакваля!
— Пане мой яснавяльможны,
Мне рабіць таго не можна,
Гэта ж сын мой, бачыць бог!
— Ах, не можна? —
І, па-воўчы
Зубы сцяўшы, зірк у вочы...
— Сын! А можа б дапамог?
Не? Гэй, хлопцы! Гэй, малойцы!
Падымай у імя ойца...
(Цішыня стаіць вакол)
Сына і святэга духа.
Будуць памятаць, псяюха,
Сына ў двор! Старца на кол!

Загадаў і ад'язджае.
— Хай вас госпад пакарае,
Калі ж богу не пачуць,
Калі ён вам патурае,
Калі літасці не мае —
Людзі, людзі аддадуць.

Пан ад'ехаў ды вяртаецца ізноў:
— Не забудзьцеся, папу — сто бізуноў.
Каб на носе зарубіў сабе схізмат —
Маеш звон, яшчэ не значыць бі ў набат.

Хмарай дыму зацягнула дня святло.
Дзе сяло? Было ды знікла. Попел. Тло.
Засталіся тры хаціны — скрозь гало.
Тры хаціны-сіраціны — ўсё сяло.

Божа любы, ну калі ж ужо, калі
Абароняць, уратуюць маскалі!
Ці з-за Сожа, ці з-за Прыпяці-ракі
Прынясуць на дзідах волю казакі!

Божа любы, ну калі ж ужо, калі...
І плыла за скаргай скарга — праз палі,
Праз лясы, каб родным-крэўным ведаць-
знаць.
Белай Русі немагчыма больш трываць.

3

Ой і думак сёння ў Хрысці —
чорным-чорна!
Пачынаюць думкі грызці —
сумна, горна.
Сэрца дзеўчыны ірвецца
і вяшчуе:
Сціхні сэрца, жыць на свеце
не хачу я.
Хіба скажаш — жаніха я
свайго ўбачу?
Ты гаворыш, што кахае?
Вось і плачу.
Спамінаю свайго мілага
слязьмі я,
Можа, ток іх кайданы яго размые.
Не шкада мне русых кос сваіх
дзявочых
(Колькі раз ты, Хвесь, расчосваў іх
уночы?)
І без косаў жыць бы можна
мне гарэзай,
На пятлю сабе вяльможны
косы зрэзаў.
І вачэй я не шкадую,
што мне вочы!
Калі я жыву-бядую
ў цемры ночы.
Покуль — сонца над срабрыстаю
расою...
Вочы выцякуць празрыстаю
слязою.
Каб знаццё,
што смерць канцом разлукі б стала.
На жыццё сваё сама б я рукі
ўзняла.
Дык няхай яно асвяне —
толькі й тога!

Шкода нашага кахання
маладога...
Шкода мары, светлай мары
запаветнай.
Гіне мара! Гіне ў хмары
беспрасветнай.
Ні канца той хмары страшнай,
і ні краю,
І за што нас гэтак цяжка
бог карае?
Як жа несці ёй цішком
такое ліха?
Пабяжыць яна бяжком
да каваліхі.
Хто з людзей вясковых тут
яе не знае?
На стары свой горб пакуты іх
прымае,
Галаву з бядой на грудзі,
прыгалубіць...
Ой і любяць бабку людзі,
ой і любяць!
Век жыве яна — ўсё ісціны
шукае.
Мо разважыць гора Хрысціна
старая.
Пастаяла, водле звычкі,
на парозе
І пабегла... ў полі дзічкі
і бярозы,
Што зялёна карагодзяць
каля сёлаў,
Сумна дзеўчыну праводзяць,
невясёла.
«Мо й разважыць,— шэпчуць ціха
пра падзею,—
Мае розум каваліха...
Толькі дзе ёй!»
Вось і «выдзімка ўстае
непадалёку.
Цёмны лес шуміць таемна
недзе збоку,
А на «выдзімцы» убогая
хаціна.

«Што ж ты стала ля парога,
сіраціна?
Не кажы... сама ўсё знаю...
не дурная...
Хто ды што на сэрцы мае,
ў думках мае.
Мыслі добрыя, благія
мне адкрыты.
Лепш замовы вось такія
згавары ты:
«Абярні бог варагоў маіх
за здзекі
У каменне нерухомае
навекі,
Каб ні роду, ні плямя
не засталося».
Тройчы плюнь, каб без падману
ўсё збылося.
У цябе, дачка, не сэрца —
верад, рана.
Ну, а як жа, як памерці
гэтак рана?
Трэба жыць табе пакуль
да каравая!
Кукаваць, мая зязюлька
баравая!
Маю зелле, дам вадзіцы,
слова знаю.
Шэптам дзверы таямніцы
адчыняю.
Памагае мала-веле,
воляй божай,
А табе, дзяўчына, зелле
не паможа.
Як каханне, скажам, здрада
спатыкае...
А табе, дачушка, рада
ёсць такая:
Лёс хітруе недарэчы,
ды хітрэй мы;
Выйдзі лёсу насустрэчу,
на пярэймы».
Больш старая ёй нічога
не сказала,

Памінала нешта бога
ды ўздыхала.
Чадна ў хаце... Пахла хата
палюбоўцам,
Чабаром, ды рутай-мятай,
ды ядлоўцам.
І пайшла яна дадому
памаленьку.
Што там будзе — невядома!
На кавеньку,
Што дарогай уламала,
абапрэцца,
Пастаіць... і зноў памалу
падаецца.
Разважае па-старэчы,
мысліць Хрысця:
«Як жа гэта?.. Насустрэчу
лёсу выйсці?»
Як дамоў ішла Хрысціна —
не згадала,
Незнаёмая мясціна
удавала.
Думкі! Думкі! Надакучылі вы —
годзе ж!
Толькі іх ніяк не злучыш,
не пагодзіш.
Вы і радасць, вы і гора
чалавека.
Вы сябры яго і ворагі
век-векам.
«Цёмна ў хаце. Цесна ў хаце.
Сэрца верад.
Свет вялік. Чаго вагацца.
Ну ж — уперад!..»
Заспрачаліся варожа
між сабою.
«Не ідзі, дзяўчо, наложыш
галавою...»
А другая: «Ой, Хрысціна!
Ой, краса!
От дзівачка-дзівачына,
дзе ж каса?»
Цераз край пераліпося...
Кліча брата:

— Ад касы, вось... засталося небагата...
Дзецюкі пачнуць дражніцца —
не кажы!
Пашкадуй жа, вось нажніцы —
падстрыжы.
Па-казацку, для парадку —
пад гаршчок.
Падстрыжы, мой любы братка,
і маўчок.
Думкі! Думкі! Не ўтаймуюцца,
кіпяць.
І вяруюць, і хвалююцца,
і кпяць:
«Што, дастрыгла? Сядзь за печчу
у бяду...
Выйдзі лёсу насустрэчу».
— І пайду.
І пайду,— сказала Хрысця,—
бачыць бог.
Не знайсці другога выйсця...
за парог.
За парог яна ступіла
і без слёз
Адвітала ўсё, што міла.
Значыць, лёс...
Значыць, лёс такі дзявочы —
не звярнуць,
Куды вочы, куды вочы
павядуць.

4

За кованай моцнай брамай у двары,
Дзе пахмурыя халодныя муры,
Дзе са сполахам глядзяць байніцы веж
На нябачаны дасюль яшчэ мяцеж,—
Не гуляе вецер вольны, баравы;
Толькі ў думках: шолах лісця, пах травы.
На пастронках, прывалокшы за канём,
Хвеську мучылі жалезам і агнём.
— Колькі хлопцаў назбіраў у свой кагал?
— Дзе Хмяльніцкага схаваў універсал?
— Колькі зброі атрымаў ад казакоў?
— Колькі збегла на Украіну дзецюкоў?

Слухаў Хвеська: ля ракі шумеў асэр...
Птах звінеў на адмысловы свой манер...
Зычна конікі ў няскошанай траве
Стрыкаталі...
— Ён памёр, а ці жыве?

— Ад каго, з якіх мясцін, з якіх канцоў
І прымаў ты, і чакаў ты пасланцоў?
— Да каго ты пасланцоў праводзіў сам?
Да каго іх выпраўляў? Не скажаш, хам?
Бачыў Хвеська: пасцілае хтось кілім.
Постаць дзеўчыны здалёк відаць на ім.
«Хрысця! Сэрцайка! Суджоная мая!
Сёння бачыць цябе рады я ўтрая,
Хрысця, родная...»
— Жывы? Паласкачы!
Пяткі здрадніку жалезам прыпячы!
— Падцягні яго! Вышэй, вышэй цягні,
Дзе такія, каб маўчалі на агні?!
Цёмны лес шумеў у досвітны туман.
Хлопцы смутныя: загінуў атаман.
Што рабіць? Куды падацца ад паноў?..
Сіла ў Хвеську варачалася ізноў.
Каты катавалі Хвеську. Ён маўчаў.
Ваявода Хвеську катаваць пачаў.
Шапку ссунуў. Адкідае рукавы.
Не ўтрымаць хлапцу высока галавы.
Ваяводзе ка́та справа да душы,
Хлопа кроў гарыць па панскім кунтушы.
— Думаў, кара цябе боская міне?
Ой, ілжэш ты, загаворыш у мяне.
Глянуў Хвеська міма пана угару,
Усміхнуўся: — Што ж, панок, загавару!..
Ноч мінае. Ёй на змену рушыў дзень.
Згінуць вам, паны, як гіне ночы цень.
Сёння вам, паны, выходзіць праз рабро
Рабаванае мужычае дабро.
Захмялела Украіна, ў добры час.
Захмялела скрозь галота і ў нас.
Гэткі сёння у галоты буйны хмель,
Што наважыла ўсё дрэва пад камель
Ссекчы к д'яблу або вырваць з каранём,
І з каронай, і з папежным груганнём.
Паспрабуй яе ў ярмо ізноў прымусь!

Бы ў вялікдзень захмялела сёння Русь!
Захмялела сёння Белая! Эге-е-й!
Вецер вольны дзьме з Усходу ўсё мацней...
Вецер вольны дзьме, няма яму мяжы...
Хочаш раду, ваявода, дам — бяжы.
Волю нам нясе Хмяльніцкі на мячы —
Уцякай жа, покуль можна уцячы!
Скрозь паны ужо ачысцілі павет,
Уцякай за імі назіркам услед.
Толькі лесам не ідзі, бо не ўцячы:
Грозна лес шуміць і днём і уначы.
Толькі полем не маніся і паўзком —
Ашчацінілася кожным каласком.
І шляхамі не шукай сабе пуці,
Бо па іх ані праехаць, ні прайсці.
Хіба багнаю, вяльможны, паспрабуй,
Толькі лапці, пасталы, пан, падабуй.
Там ніхто цябе не рушыць, не ўпасе —
Багна прагная сама цябе зассе.
Годзе, пане! Адгулялі, адгулі.
Мы гуляем, мы гуляем у хмялі!
Дробным макам рассыпайся, вый ваўком —
Русь была тут, ёсць і будзе — век-вяком!
Больш нічога пан у Хвеські не пытаў.
Вырваў вока і нагою растаптаў.
На наску харту падкінуў: — Піль! жары!
На другое не ўглядайся да пары.
Слова гонару даю, што гэта смердзь
Гэтым вокам будзе бачыць Хмеля смерць.
А пакуль яго ў піўніцу і трымаць
На вадзе, на лебядзе, пся ваша маць.
Што пасталі нерухома, як слупы?
Я, гайдучае вы племя, не сляпы:
У душу зірну, у вочы — бачу дно —
З гэтым вылепкам усе вы заадно.
Падымай яго! Вынось яго! Мацей!!!
Задумоўвацца ты нешта стаў часцей...
Для пачатку атрымай... Ну, што — пасяг?
На шчацэ Мацея —
сечаны пісяг.
— Ой, сяголета трымайся і зважай —
На галовы вашы будзе ураджай...
Пагасіў агонь вачэй хлоп у злабе.
Ці падумаў, ці прамовіў сам сабе:

«Пачакай, вяльможны пане мой, пажджы.
Ураджай здымаць зарана, як дажджы...»

Цёмна ў склепе. Збан вады. Сноп лебяды.
Крок ушыр, два крокі ўдоўж — тае хады.
Пад скляпеннем у акне — зары каснік...
Тою ноччу знік Мацей і Хвеська знік.
Раным-рана перад панам — гайдукі.
Пагражае пан: «Павешу на сукі!..»
— Ваша мосць, панок, злітуйцеся, панок:
Знік, праклятэ, як нырца даў у збанок!

5

— Хто ідзе! Адкуль?
— Здалёку я...
— Дык чаго ж тут стаў тарчма?..
— Штосьці там гудзе галёкае...
— Дык чаго ж ты? Там карчма!
— Хто ідзе? Ды не, здалося мне!..
— То ж бо тое, што карчма.
Там гарэлку цэдзяць з восені
Проста так сабе, дарма.
Што ты нейкі, як спалоханы!..
Хто ідзе? Пятро!.. Панас!..
Гэта брат, цяпер удвох яны
За атаманаў у нас.
Тут сяло было, Саломухі...
Засталося ж вось... карчма.
А паноў ад самай сёмухі
Нават почуту няма.
Уцяклі. Хай не вяртаюцца.
Калі ж не, дык быць бядзе —
Шкадавацьмуць, будуць каяцца...
Хто ідзе? Гэй, хто ідзе?
Мала дня, і ўноч на паншчыну
Выганялі ўсё сяло.
А калі б рабіць нам «хамшчыну»?
Нельга жыць ужо было.
Скрозь віжуюць радзівілавы —
Дзень і ноч — паслугачы.
Паспрабуй усіх іх вылаві!
Паспрабуй іх прасачы!
Нібы ў нерат шляхта трапіла...

Ой, паночкі! Ой, паны!
Шмат на што іх вока кваліла,
А цяпер... бягуць яны
Быццам чэрці ды ад ладану...
Трох спаймалі кагадзе.
Пільнаваць нам тут загадана...
Хто ідзе? Гэй, хто ідзе!
Ну, а ты? З якой патрэбаю?
Каталік? Уніт? Ці шнег?
Адкрывайся, не пагрэбую.
Шмат лавіў — ніхто не збег.
Што маўчыш? Адкуль? Як прозвішча?
Як імя? Якіх паноў?
Як дапаў да нашых вогнішчаў
І да нашых буданоў?
Дзе ідзеш? З якою мэтаю?
Не жартуй, адно, са мной...
— Я паноў святлянскіх...
— Ведаю!
— Зваць Хрысцінай...
— Як?
— Кузьмой...
А іду з Святлян аж, з дому я,
Плутаў, трапіў вось сюды,
У мясціну незнаёмую...
А цяпер ісці куды?
Сам не ведаю...
— Дзівачына!
Як не знаць, куды ідзеш?
Малако на вуснах матчына,
Яно й праўда... Прападзеш!..
Голаў маеш бестурботную
Ад паноў ты збегла?
— Збег.
— Тут заўчора, не ў суботнюю
Ноч, праходзілі з Сапег;
Дзень казак тут за гарой чакаў,
Каб праводзіць іх на Шклоў —
Дваццаць хлопчыкаў-малойчыкаў,
Дваццаць ясных сакалоў.
Сілы там, ого, вайсковае
Назбіралася — бяды!
З места людзі і вясковыя...
Падавайся, брат, туды.

Прыязджаў казак і ўчора
У сяло з універсалам.
Бушаваў народ, як мора,
Падыходзіў вал за валам.
Абяцае гетман зброю,
Абяцае войска рушыць.
Час ужо не за гарою,
Не паспееш вока змружыць.
Значыць, час ужо прыспеў наш.
Значыць, быць нам у паходзе.
— Значыць, воля?
— Воля, пэўна ж!
— Значыць, годзе здзекаў?..
— Годзе!
Далей, слухай, не манюся,
Гетман піша на астанне:
Дзвесце тысяч [illegible] Белай Русі
Пад мае штандары стане.
Дык рашайся, да Нябабы я
Раджу... лесам, па палях...
Вырашай, не будзь ты бабаю —
На Чарнігаў просты шлях.
Адубеў? Чакай, падсохні шчэ.
Цяжка, брат, у тле дарог.
Падыходзь бліжэй да вогнішча...
А ты ж баба, далібог!..
Праз гадзіну ўсё разжоўваю
Таямніцу з таямніц:
Бач ты, як гарадь, ружовеюць
Вушы... аж да завушніц...
Дык хлапцом або дзяўчынаю?..
Ну, кажы, не каламуць.
Ці Кузьмою, ці Хрысцінаю.
Як жа усё-такі завуць?
Дык ідзі, шляхі сыходзяцца,
За паўмілі ад царквы
Адзігітры багародзіцы
З Украіны і Масквы.
Паглядаем і выходзім мы
На развілкі ўсё часцей.
Ой, і будуць уваходзіны,
Як прыжджэм адтуль гасцей!

. . . . . . . . . . . . . . . .

— Пуцявіна ёй далёкая...
Каб яшчэ ды ў грамадзе...
Зноў нясе кагось нялёгкая.
Хто ідзе? Стой! Хто ідзе?
— Я іду! Са мной таварыш шчэ...
Штосьці вёскі не пазнаць!
— Дзе ж пазнаеш? Тло, пажарышча!
— Дык чаго ж тут пільнаваць?
Што глядзіш так? На бяду маю?
Вока? Кінуў кругану.
Вока што? Аб іншым думаю:
Як я дзеўцы падміргну?
Ну, даволі,
                    жартам-а́ман!
Ёсць, няма — такой бяды.
Хто ды хто ў вас атаман?
Падавай яго сюды...
— Вось цяпер прайшла тут Хрысця...
Ну й дзяўчына, пашукаць!
Мала, праўда, з іх карысці,
З дзевак...
— Хрысцяй, кажаш, зваць?
— Хрысцяй. Ну, але — Хрысцінай.
Падалася ў казакі.
— Ноччу? Гэткаю мясцінай?
— Баба, а народ які?!
— Хрысця, Хрысця... Божа!.. Божа!..
Хай жа лёс цябе міне...
— Што ты кажаш там, нябожа?
— Я кажу — пара і мне.
У дарогу.

*1960*



## ВЯРТАННЕ

Нябёсаў блакіт,
І праменняў зіхценне,
І морскія хвалі
Цудоўных адценняў,
І вецер штурмовы,
І лёгенькі ветрык,
І чайкі
Ў вільготна-салоным
паветры;
І вёслаў усплескі,
І рокат прыбою,
І стужка вясёлкі
За мклівай кармою...
Я зноў гэта ўбачу
І ўчую няхутка,
І неяк мне сумна.
Стаю я ціхутка,
Асмяглы, самотны,
Душою прыўпаўшы,
У далеч бясконцую
Вочы упяўшы.
Прыміце падзяку,
Мяне ж прабачайце,
Я вас пакідаю —
Бывайце, бывайце!
Не знойдзеш ты лепей
Майго экіпажу.
Калі так кажу,
Ці ж каго я абражу?
Вазьмі ад матроса
І да капітана —
Сям'я, і ў сям'і
Ўсё суладна, з'яднана.
Дарма, што ўмяшчае
Утульны наш кубрык

Людзей аж з пятнаццаці
Розных рэспублік.
Тут дужыя целам,
І дужыя духам,
І часу цяжар
Ім здаецца тут пухам.
Мінула пяць год,
Нібы ў песні, у байцы,—
Казаў вам «здаровы»,
Кажу вам «бывайце»!
Ды што я сумую?
Дзе суму прычына?
Якое ж «бывайце»,
Калі ў адпачынак
Сабраўся матрос
Чарнаморскага флота.
Ці ж мне на пабыўку
Дамоў не ахвота?
А ці ж не чакаюць там
Маці, дзяўчына?
Калгас наш славуты...
У чым жа прычына?
Надраены, нібы
Люстэркі, гамашы.
Хто пройдзе і гляне,
Смяецца: «Знай нашых».
Шчэ ўчора уклаў
Чамадан свой пакоўны,
Гасцінцаў і робы
Матроскае поўны.
Мне тройчы руку
Паціскаючы моцна,
Стары мой настаўнік,
Шаноўны наш боцман,
Пра хатнія дробязі
Пільна пытае,
Вятроў спадарожных,
Як кажуць, жадае.
Хаджу,
паглядаю,
Куды б мне прыткнуцца
(А неяк карціць
Зноў аб справу спаткнуцца!),
А мора ўсё грае...

Дзівак-дзівачына!
Ды мора і ёсць
Твайго суму прычына.
Ну вось і пара!..
Дакументы ў кішэні.
Яшчэ адзін залп
Па рухомай мішэні.
Апошнія стрэлы —
Сяброўскія кпіны,
Прынятыя мною
З вясёлаю мінай.
З сабою дадому
Бяру я Марціна,
Найлепшага сябра
Свайго, пабраціма.
Дзе ж хлопцу падзецца?
Вайна вінавата,
Што ані радні
У яго, ані хаты.
Ды толькі пры нашай
Пры звычцы бядовай
Адно не ляпуйся —
Будуй-адбудоўвай!
А што да радні...
Яе лічым вялікім,
У дзвесце мільёнаў,
Ды з гакам шчэ, лікам.
Ёсць у Марціна
Прыгожая рыса:
Цеч або крэн,
Ці, прасцей,— зажурыўся.
(Бывае ўспамінаў
Адкрыецца верад) —
Усобе камандуе:
— Поўны!
Уперад!
Ён ведае:
Роспач — што выбух тарпеды!
Дужэнная воля
У Марціна Мяхеды.
Яна — ў яго словах,
У руху, у зроку...
Поўны — уперад!
Назад — ані кроку!

Добра нам, лёгка,
Упартым і прагным,
Знаць, што наперадзе
Партыя-флагман.
Плыві і будзь пэвен
(Хай мора віруе!):
Яна, куды трэба,
Цябе накіруе!
Вецер — у твар,
І, нібыта шкарлупку,
Кідае хваляй
Успененай шлюпку.
Добры настрой
Авалодаў, узнёслы,
Тузіна хлопцаў
Налегла на вёслы.
Што хвалі!
Што вецер!
Дужэнныя бесы!..
Ды вось і гандлёвая
Гавань Адэсы.
Дашчэнту загружана
Грузамі міру:
Віра і майна,
Майна і віра.
Ну, хлопцы, яшчэ раз:
— Бывайце!
                    — Бывайце!
— Нас спамінайце!
— Шчасліва гуляйце!
— Ды з Чорнае мора
Віна выпівайце!
— Аглянуўшы ў донца,
Назад павяртайце!
— Бывайце!
— Бывайце!
Адзін з іх — смяшлівы,
З грудзінай кашлатай,
Падаў чамаданы,
Пакункі, бушлаты.
Узмыў самалёт,
Набіраючы хуткасць,
Маторам у лад
Падпяваў я ціхутка.

А хвалі паветра
Няхай прабачаюць —
Мяне, марака,
Яны не ўкачаюць.
Вось хуткасці —
Быў такі грэх — пазайздросціў.
Гадзіна, другая —
Прымайце у госці!
Па-над Украінай,
Па-над Беларуссю...
Пачуцці свае
Апісаць не бяруся.
Здавалася мне,
Што мінула стагоддзе
З часоў тых, калі
Я пакінуў Заброддзе.
Сабе уяўляючы
Радасць сустрэчы,
Марціну усмешку
Даслаў недарэчы.
Марцін нерухомы,
Глядзіць нейк калюча —
Сэрцу Марцінаву,
Пэўна, балюча.
І думка — як рыба,
Што трапіла ў нерат...
І, пэўна, камандуе:
Поўны! Уперад!
Трымайся, Марціне!
Бяда не бясконца,
А людзі у нас
Нібы веснае сонца!
Бяда наплытчэе,
Бяда падрабнее,
Калі пачуццё
Чалавека сагрэе.
Я вочы расплюшчу,
Я вочы заплюшчу,
І мары, спаміны,
Як зерняты, лушчу.
Матор бездакорна
Гудзе ды гудзе ўсё,
А я то ў Заброддзі,
Ты зноў у Адэсе...

Пайшлі на пасадку?
Ды што вы?
Ды што вы?
Ды колькі прайшлі мы
Ужо кабельтовых?
Зялёная пляміна
Аэрадрома...
Знікае падлога...
Рассеяна дрома...
Прыемны спакой
І чамусьці утома.
Ну вось мы і дома!
Амаль што і дома...

*1960*



# ЗМЕСТ

**ПАЭМЫ**

**Дзяргай С.**

Д 43 Чатыры стыхіі: **Вершы, паэмы** Уклад. і прадм. Я. Міклашэўскага.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 271 с., 1 л. партр.: іл.

ISBN 5-340-00113-X

Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы паэт Сяргей Дзяргай (1907—1980) — чалавек нялёгкага лёсу, адзін з самых глыбокіх, трагічна-ўзвышаных і разам з тым сардэчна-інтымных паэтаў. Творчасці яго ўласцівы глыбокае пачуццё, лірызм і філасофскі роздум. Многія вершы напісаны па народных матывах, з лёгкім гумарам і шчырай усмешкай.

У кнізе сабрана лепшае з напісанага аўтарам на працягу шматгадовай літаратурнай дзейнасці.

Д $\frac{4702120200-048}{М 302(03)-88}$ 113—88 **ББК84Бел7**

Литературно-художественное издание

**Дергай Сергей Степанович**

**ЧЕТЫРЕ СТИХИИ**

Стихи, поэмы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**Дзяргай Сяргей Сцяпанавіч**

**ЧАТЫРЫ СТЫХІІ**

Вершы, паэмы

*Загадчык рэдакцыі Г. С. Шупенька*

*Рэдактар В. М. Хлебавец*

*Мастак Н. М. Сустава*

*Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін*

*Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна*

*Малодшы рэдактар С. І. Расянчук*

*Карэктар Я. Ф. Харко*

**ІБ № 2972**

Здадзена ў набор 26.06.87. Падп. да друку 14.01.87. AT 09506. Фармат 84×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 11,90+0,09 укл. Ум. фарб.-адб. 12,21. Ул.-выд. арк. 14,45. Тыраж 2600 экз. Зак. 552. Цана 1 р. 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.